N 25-26 (89) 28 ліпеня 1997 г.

# НАША НІВА

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА, ЗАСНАВАНАЯ Ў 1906 Г. У ВІЛЬНІ, АДНОЎЛЕНАЯ ТАМСАМА Ў 1991 Г. ЯК ШТОМЕСЯЧНІК. З 1 САКАВІКА 1996 Г. ВЫХОДЗІЦЬ У МЕНСКУ






Гэты год Беларусь пачала з нуля. Беларусі амаль не было. Пасьля разгону парлямэнту зь нешчасьліваю лічбай 13 Менск нагадваў горад Zero. Але пачаўся новы год. Пачаўся зь зімовае навальніцы. Над голым лесам ракатаў гром. І... нешта зрушылася, паўстала. Станоўчае. Нармальнае. Чалавечае. Насуперак усяму. Дзіўна, шмат у каго з калегаў ды знаёмых зьявіўся ўваччу спакой. Усё будзе добра. Назло злу і хамству.

У Вільні сабралася Рада БНР — разам з новай эміграцыяй — і заявіла пра намер узяць на сябе адказнасьць за лёс нацыі і незалежнасьці краіны. Там не было перакошаных ад нянавісьці твараў, мусіць, таму, што там стваралі, а не разбуралі.

У Менску ў Беларускага ліцэя забіраюць будынак. Улада імкнецца пакрысе вынішчыць усе агмяні беларускасьці. Прэзыдэнцкія «гобліны» ў шараварах з лампасамі і цёмным шклом акуляраў заміж вачэй пад камандай розных палкоўнікаў круцілі, ламалі і кідалі ў аўтобус бацькоў і настаўнікаў ліцэістаў. Пасьля «зачисткі» на ходніку засталіся аскепкі разьбітага вучэбнага экспаната. Але палкоўнікі і «гобліны» не перамаглі, бо яны ня здольныя ствараць.

Рэдакцыю бамбардуюць позвамі і папярэджаньнямі. Наіўныя пракуроры і чыноўнікі. «Наша Ніва» — ставарае.

Зьезд беларусаў сьвету напярэдадні Дня незалежнасьці беларусы сьвету ледзь не правялі на прыступках таварыства «Бацькаўшчына». Гэта улады імкнуцца зрабіць зь Беларусі небеларусь. Але дарэмна. Разбурэньне ня мае пэрспэктывы. Яно мае толькі палкоўнікаў і «гоблінаў».

Прэзыдэнт да беларусаў сьвету не прыехаў. Прыслаў Ул.Рылатку з пасланьнем. Шкада Рылатку, напэўна, гэта ня самы горшы чалавек. Але, падобна, што ён чытаў найгоршы ў сваім жыцьці ліст. З пасланьня вынікала, што ў Беларусі зь беларушчынай усё выдатна. Быццам не было разьбітых вучэбных экспанатаў, спробы пазбавіць залі зьезд беларусаў сьвету, закрыцьця беларускіх школаў і радыёстанцыяў, забароны кніг, быццам не было і словаў Лукашэнкі ў Гомелі... Рылатка чытаў, заля сьвісьцела. За ўсё трэба плаціць, і за ўласную слабасьць таксама.

А Беларусь будзе жыць. Так сказаў Васіль Быкаў. І яшчэ сказаў, што нашую нацыю вельмі стараліся зьвесьці са сьвету, але нічога не атрымаецца. Лукашэнка — не нацыянальны лідэр, а ягоны антыпод. За апошні час гэта ці ня першая праява аптымізму мэтра. Ён ніколі проста так не гаворыць. Гэта наша лета.

У, здаецца, вымерлым горадзе на сьвяткаваньне адмененага Дня незалежнасьці зьбіраюцца тысячы людзей. Хлопцы на роліках з нацыянальнымі сьцягамі, усьмешкі. Статкевіч з мэгафонам, Баршчэўскі, Хадыка, Карпенка, Шчукін разам... Сарваны ўладамі сьвяточны канцэрт. Забаронена падключыць электрычнасьць.

Але хіба можна адключыць Незалежнасьць ці адключыць у яе электрычнасьць? Можна сапсаваць настрой Касі Камоцкай, але ненадоўга, бо гэта наша лета.

У рэжыма істэрыка. Журналіста ОРТ арыштоўваюць і падводзяць пад артыкул Славаміра Адамовіча. Парушэньне дзяржаўнай мяжы. Расейскія навіны ператвараюцца ў навіны беларускія. Журналістаў арыштоўваюць тады, калі здаюць нэрвы. А нэрвы здаюць. У іх, ня ў нас. Бо гэта наша лета.

**Алег Дашкевіч**



Віленскі клюб

## Беларуска-літоўскія канфрантацыі

На ўзьмежжы літоўскага й беларускага культурных палёў традыцыйна ўзьнікае цэлы шэраг вельмі спэцыфічных праблемаў і канфрантацыяў, сутнасьць і аб'ём якіх даволі цяжка прааналізаваць і ацаніць з пазыцыяў заангажаванага назіральніка аднаго ці другога боку. Больш таго: вельмі часта гэткія назіральнікі непасрэдна спараджаюць культурныя й ідэалягічныя канфлікты і, выклікаўшы з другога боку зваротную сувязь, ствараюць сытуацыю зачараванага кола.

Я наважваюся запрапанаваць вам палемічныя нататкі памежнага назіральніка, глыбока інтэграванага ў адной культуры і дастаткова абазнанага ў другой — прынамсі нагэтулькі, каб не паўтараць традыцыйныя памылкі аднабаковасьці. Ад аднабаковасьці ўтрымвае мяне й спэцыфічная маральная пазыцыя, выкліканая сьвядомым выбарам Літвы ў якасьці краіны маёй культурнай эміграцыі.

Згаданыя культурныя і ідэалягічныя канфлікты ды спроба іхнай каўзальнай інтэрпрэтацыі і будуць прадметам маіх занатовак. Я, вядома ж, не прэтэндую ні на вычарпальнасьць агляду, ні на мэтадалягічную дасканаласьць аналізу, ні на грунтоўнасьць рэфэрэнцыяў. Мой тэкст было б больш дарэчы параўнаць са споведзьдзю лекару-псыхааналітыку, з тым, што выкладзеныя мною сюжэты маглі б стацца матэрыялам для далейшага абмеркаваньня. З другога боку, мая нестандартная ў каардынатах як беларускай, гэтак і літоўскай культурнай прасторы пазыцыя можа прынамсі часткова апраўдаць пэўную эклектычнасьць і эксцэнтрычнасьць майго тэксту.

*Гэтак пачынае свае занатоўкі Сяргей Шупа ў адноўленай нашаніўскай рубрыцы «Віленскі клюб» на старонках 4-5.*

## ГРАМАФОН.



Сёньня на старонцы вершаванага радка — творы Ніны Аксёнчык, Аляксандра Антончыка, Ганны Атрошчанкі, Аўтаркі, Богі, Яўгена Гучка, Андрэя Захаранкі, Сяргея Званара, Пятра Касьцюковіча, Андрэя Крывіча, Марылі Лагодзіч, Яраслава Макарэвіча, Якуба Малодшага, Алеся Менскага, Сяргея Прылуцкага, Браніслава Пяткевіча, Алеся Рудзіма, Таццяны Сьнітко, Сымона Шаўцова, Віктара Шаціла, Ірэны Янчанкі.

*Старонка 14.*

## ЭПІКОН

У даўно абяцанай празаічнай рубрыцы «Эпікон» зьмяшчаюцца практыкаваньні Генадзя Драгуна, Аліны Калесьнік, Сяргея Конана, П.Ляхновіча, Руслана Равякі, Ліліі Сазанавец, Зьмітра Сідаровіча, Алеся Хацяновіча, Юрыя Чарнякевіча.

*Старонкі 15-16.*

Максім Гарэцкі

## ТВОРЫ ЗА РАМКАМІ КНІГ

Традыцыі выдаваць поўныя зборы твораў клясыкаў беларускай літаратуры не існуе да сёньня.



Купюры перапісваньне літаратурных твораў згодна з палітычнай і лінгвістычнай кан'юнктурай... У гэтым сэнсе лёс спадчыны Максіма Гарэцкага па-свойму ўзорны. Каля сотні «пропускаў» у апошнім зборы твораў, каля сямідзесяці — толькі ў адной «Камароўскай кроніцы». Па слову, па абзацу, па старонцы, урэшце — па цэлым творы, — гэтак паволі Гарэцкі, яшчэ ня так даўно «купюраваны» ўвесь, пачынаючы з прозьвішча, — вяртаецца то новымі кнігамі, то асобнымі публікацыямі ў пэрыёдыцы. На сотыя ўгодкі з дня нараджэньня пісьменьніка «НН» паводле аўтарскага рукапісу ўзнавіла на сваіх старонках усе купюры, зробленыя цэнзарамі ў рамане «Віленскія камунары». Сёньня мы публікуем некалькі публіцыстычных твораў М.Гарэцкага, якія ніколі не друкаваліся ў асобных кнігах пісьменьніка.

*Старонкі 8-9.*

ШУФЛЯДА

## Янка Купала



Пасьля зьмены кіраўніцтва Беларускай Энцыклапэдыі з вокладкі чарговага тому Энцыклапэдыі гісторыі Беларусі паводле аналёгіі зь дзяржаўнымі атрыбутамі зьнік гістарычны герб Пагоня. Сьледам з чарговых тамоў сталі здымацца непажаданыя сёньняшняму рэжыму артыкулы. Адзін зь іх — «Курапаты» — мы ўжо апублікавалі ў «НН» (№17-18, 1997). Сёньня — чарговая ахвяра цэнзуры — артыкул Аляксея Каўкі «Янка Купала».

*На старонцы 16.*

## ВІТОЛЬД ДЗІСЬКО

Год назад пра беларускага хлопца з Пастаўшчыны Вітольда Дзісько, закатаванага ў 1964 годзе, я зьбіраўся напісаць сам. Не пасьпеў. Больш таго, разам з маімі дзёньнікамі да сьледчага КГБ трапіў і філязофскі сшытак Вітольда... Цяпер мне падаецца магчымым даць на старонках «НН» слова ягонай роднай сястры Гелене Яголдзе.

*Славамір Адамовіч прадстаўляе ўспаміны пра ахвяру савецкага рэжыму — на старонцы 18.*

# «Думка вымаўленая ёсьць хлусьня»

## Прынцыпы публічнай палітыкі

Уявіце сабе такую сцэну: школьнік на ўроку грамадазнаўства пасьля лекцыі настаўніка ўстае й кажа: «Думка вымаўленая ёсьць хлусьня». Усе незадаволена зашыкаюць на школьніка, а настаўнік паставіць яму двойку — хутчэй за ўсё, за паводзіны, за блюзьнерства.

Але пакуль тое, наш школьнік дадасьць: «Як казаў вялікі рускі паэт Цютчаў»... Кляса прыціхне, а настаўнік ухвальна заківае галавой, ён задаволены эрудыцыяй вучня.

Дзьве процілеглыя рэакцыі. Але ў чым тут розьніца? У тым, што самае неверагоднае блюзьнерства, а нават і хлусьня, ці самая вялікая абраза раптам набывае дабрапрыстойны, ухвальны выгляд, калі яе падмацаваць бясспрэчным аўтарытэтам: як казаў Пушкін ці — як здаўна павялося ў народзе ці, скажам, як вы ўсе ведаеце. Апошняе — апэляцыя да розуму і кемлівасьці суразмоўцы — адзін з галоўных прыёмаў палітычнага папулізму.

Палітык, які не карыстаецца такімі стэрэатыпнымі формуламі, а падае людзям, груба кажучы, праўду, асуджаны на правал. Скажыце народу, што калі нам праз год удасца атрымаць крэдыт у 3 мільярды даляраў, то праз два гады заробкі ў краіне вырастуць на пяць працэнтаў. Вы сказалі праўду. Але гэта зусім ня тое, чаго чакаў ад вас народ. Ідзі ты, скажа народ, са сваімі працэнтамі праз два гады.

Папуліст проста ня мусіць апэраваць праўдай, бо яго ніхто ня стане слухаць. Стыхія публічнага палітыка — праўдападабенства. У гэтым сэнсе ён блізкі да літаратара, які працуе ня з фактамі, а з вобразамі, падае не рэальнае, а жаданае як рэальнае. Праўда патрэбная аднаму працэнту насельніцтва. Усе астатнія — электарат — жадаюць глядзець «Санта Барбару» і марыць пра знойдзены на дарозе кашалёк.

У той самы час, калі для літаратара праўдападабенства сканчаецца жывымі вобразамі і ўдалымі прыдумкамі, якія выходзяць папулярнай кніжкай, то ў палітыка, які зрабіў публічны выступ, існуе яшчэ і кабінэтная праца, дзе для папулізму месца няма. Навошта ж дурыць самога сябе? І вось, седзячы ў кабінэце, наш палітык (ужо прагматык) выдатна ўсьведамляе, што гадзіну назад на трыбуне ён казаў хлусьню. Гэта значыць, паводле Цютчава, «вымаўляў думкі». Дарэчы, гэта ўсьведамляе таксама і нянаш палітык. Гэта ўсьведамляюць усе без выключэньня палітыкі, якія трымаюцца пры ўладзе і маюць падтрымку народа. Менавіта адсюль паходзіць выказваньне пра тое, што палітыка — брудная, цынічная справа. Што зробіш, калі ваша задача дагадзіць усім, тады як усім, ня хлусячы, дагадзіць нельга.

Наўрад ці ў краінах з вышэйшым за наш узроўнем цывілізацыі публічная палітыка хоць на каліва больш чыстая і сумленная. Проста там, у Бэльгіях-Галяндыях, у Штатах і Канадах публічная палітыка ўсё больш нагадвае шоў, карнавал, хэпэнінг. Словам, там яна жанрава ўсё больш набліжаецца да тэатра, да літаратуры, да тых жанраў, дзе праўдападабенства і выдумка не атаясамліваюцца з хлусьнёй. Зь іншага боку, рэальная прагматычная палітыка там робіцца ўсё часьцей на кабінэтным узроўні і ўвасабляецца ва ўсялякіх самітах, брыфінгах і лёбінгах. Але ж я завёў гутарку менавіта пра публічную палітыку і пра тое, як яна робіцца ня ў Даніях-Італіях, а ў нас, у Беларусі.

Пра Лукашэнкаўскія прыдумкі казаць ня буду. Абяцаў узяць усё лепшае ў Гітлера — ня ўзяў, абяцаў сталінскую дыктатуру — не зрабіў, абяцаў урэшце, калі жыцьцё не палепшыцца, пакінуць пасаду праз два гады — не пакінуў. Але, заўважце, народ яго за гэта ўсё і любіць. А вось апазыцыю народ у такім аб'ёме ня любіць. Бо апазыцыя наша яшчэ не навучылася публічнай палітыцы ў дачыненьні да электарату. Не навучылася выдаваць жаданае за рэальнае, прыдумляць усялякія штукі, шчыра хлусіць у вочы народныя, так, каб аж сьляза наварочвалася. Апазыцыя або хоча быць чысьценькай або саромеецца казаць няпраўду. І — у выніку — прайграе.



Здымак Уладзімера Парфянка

Але што такое чыстая палітыка? Тут уся праблема ў выбары адлаведнага літаратурнага прыёму, а не ў дапушчальнасьці хлусьні. Напрыклад, ідучы на выбары, БНФ пераконвае народ, што пры ім жыць стане лепей. Але гэта будучы час, абяцанкі. А што мы ад вас маем сёньня? — пытаецца народ.

Задача публічнага палітыка — творчасьць, стварэньне стэрэатыпаў, а не змаганьне са стэрэатыпамі апанэнтаў. Чыстых крытыкаў звычайна ня любяць і трымаюць дзеля ўнутраных патрэбаў. Што да хлусьні, то мы можам называць гэта не палітыкай, а карнавалам ці маскарадам. Маскарад — хіба гэта хлусьня? А чым умоўнасьць публічнай палітыкі адрозьніваецца ад умоўнасьці мастацтва або тэатру? Сямён Шарэцкі будзе выступаць у масцы апальнага сьпікера, Зянон Пазьняк апранецца лідэрам БНФ, а Лукашэнка зробіць сабе фрызуру прэзыдэнта РБ. І вось гульня пачынаецца.

Лукашэнка кажа: мяне падтрымлівае ўвесь народ. Пазьняк: а мяне самая актыўная і адукаваная частка народу. Шарэцкі: а за мной усе айчынныя і міжнародныя прававыя нормы. Хто тут схлусіў або згуляў лепей? Ну, вядома, Лукашэнка. Бо пра ўсенародную падтрымку ён казаў яшчэ да прэзыдэнцкіх выбараў. А хто яму даў права так казаць? Дакладней, хто яму даў права, большае чым Пазьняку ці Шарэцкаму. Ніхто. Гэта ж гульня, маскарад. Проста Пазьняк з Шарэцкім ведаюць, што іх увесь народ не падтрымлівае і хлусіць саромеюцца, а Лукашэнка не саромеецца. Ён ведае, што мы ня ў Бэльгіях-Галяндыях. У нас як ты сказаў, так і ёсьць.

А цяпер уявіце сабе, што Шушкевіч у свой час сказаў бы: мяне падтрымлівае ўвесь народ. Народ бы прызадумаўся, пачухаў патыліцу і... бадай, паверыў, што і значыла б — падтрымаў.

Народная падтрымка — гэта толькі адзін карнавальны фантом выдаваньня жаданага за сапраўднае. Але такіх фантомаў можа быць шмат. Напрыклад, прастрэлены лімузын на Лёзьненскай дарозе і пагроза NATO, шчырае схіленьне галавы перад загнанымі ў жабрацтва пэнсіянэрамі і шмат чаго яшчэ. Галоўнае, што жаданае, пададзенае як сапраўднае, так і ўспрымаецца публікай — як сапраўднае.

Наша апазыцыя гэтага ня робіць. Яна не валодае глябальнымі прыёмамі публічнай палітыкі. Яна заняла пазыцыю ляжачага. Ляжачага б'юць. І з усяго гэтага паўстае мальба да пачуцьця справядлівасьці, якое дрэмле недзе ў глыбіні народнае душы. Ляжачасьць выяўляецца ў сьпісах зьбітых і арыштаваных дэманстрантаў, у галадоўках пратэсту, словам — у закліках да салідарнасьці. Таксама ляжачасьць выяўляецца ў тым, што за жаданыя перамогі выдаюцца відавочныя паразы. Згадайце, што ўсе Лукашэнкаўскія рэфэрэндумы і пабоі на вуліцах БНФ нязьменна называў уласнымі перамогамі. Гэта былі перамогі ляжачага, так падобныя да трыюмфу дзіцяці, якое пакрыўджана заяўляе бацькам: вось памру, тады будзеце плакаць. Але цэлы народ не ўспрымае апазыцыю як сваё любае дзіця. Народу папросту ніхто не сказаў пра такое ўспрыманьне. І таму заўсёды знаходзіцца вялікая частка публікі, якая замест «ляжачага ня б'юць» будзе крычаць: «дабі яго» і паварнуць вялікі палец уніз. Такая прырода нораваў тлуму — спрадвеку да нашых дзён.

Вось якраз у дачыненьні да тлуму палітык, які ставіць задачу стварыць нацыю, мусіць дзейнічаць, калі хочаце, з пэўнай доляй цынізму. Магчыма, уся палітыка і сапраўды цынічная справа, толькі нехта абяртае гэтую сілу на стварэньне і тады нагадвае хірурга, а нехта, адмаўляючы гэтую сілу, становіцца закладнікам цынізму і ператвараецца ў хворага.

Кожную заяўленую БНФ-ам перамогу над Лукашэнкам электарат апошняга ўспрымае як перамогу над народам. Астатнія ўспрымаюць тыя перамогі як бахвальства. Гэта значыць, што ляжачы папулізм фронту не спрацоўвае ні ў якіх колах, акрамя хіба самых верных пазьнякоўцаў. Фронт не сьпявае шлягеры, а грае свой джэм-сэйшн, джазавую імпровізацыю, якая цешыць слых у першую чаргу саміх выканаўцаў.

Тое самае, напэўна, можна сказаць і пра астатніх апазыцыйных палітыкаў. І толькі Лукашэнка — гэты Вячаслаў Дабрынін беларускай палітычнай сцэны — не саромеецца паўтараць «Не сып мне сон на рану» ці «Ах какая женшчына» ды іншыя так любыя народнаму слыху благоглупосьці. Гэта і ёсьць папулізм, прычым эфэктыўны. І ў гэтым сэнсе роўных Лукашэнку, а нават тых, хто працаваў бы ў гэтым жанры, у Беларусі пакуль няма.

Ёсьць нацыяналісты, ёсьць хітраватыя лібэралы, ёсьць сацыял-дэмакраты — у кабінэтах яны ўсе больш тэарэтыкі, чым практыкі, а на плошчы ўсе — змагары. Але няма сярод іх выканаўца палітычнай папсы, які б выдаваў жаданага за сапраўднае.

Вось бел-чырвона-белы сьцяг. Мы кажам, што ён спрадвечны, а трэба дадаваць: гэты сьцяг спрадвеку шануецца ў кожнай беларускай сям'і як самая дарагая сьвятыня. Або — мова. У нашай краіне няма чалавека, які б ня ведаў і ня прагнуў гаварыць па-беларуску. Але цяперашняя бязродная ўлада прыбышоў зь іншых рэспублік абражае нашую мову, закрывае школы, забараняе кніжкі і г.д. Або — БНФ. Адзіны рух усяго беларускага народу, выразьнік інтарэсаў кожнага з нас, плоць ад плоці нашае нацыі. Мы, жыхары Беларусі, усе разам, нас нічога ня дзеліць, мы хочам бачыць сваю краіну шчасьлівай і да таго падобнае, і гэтак далей... Усё што я сказаў — па вялікім рахунку — няпраўда. Але гэта тое жаданае, што, будучы агучаным і бясконца паўтораным, западае ў галовы, наражаюцца сьветлыя пачуцьці і такім чынам становіцца рэальнасьцю.

Калі бацькі паўтараюць дзіцяці, што яно разумнае і здольнае, толькі трэба шмат вучыцца і працаваць — яны, калі хочаце, таксама кажуць няпраўду. Бо дзіця яшчэ нічым ня выявіла свае розум і здольнасьці. Але бацькі падаюць гэтыя рысы менавіта як дадзенасьць, чым стымулююць малое вучыцца і працаваць. Калі б яны казалі: вось вырасьцеш, станеш разумным і здольным, тады дзіця б падумала: вось тады і пагаворым.

Нядаўна ў Вільні ў кулюарах сэсіі Рады БНР мы абмяркоўвалі ідэю запісу жыхароў Беларусі ў грамадзянства Беларускай Народнай Рэспублікі. Адзін калега сказаў: ну, запішам мы пару соцень чалавек, і што? Атрымаецца прафанацыя ідэі БНР. На гэта другі калега заўважыў: а мы запішам пару соцень, а аб'явім, што запісалі тры мільёны. Правяраць ніхто ня стане. Затое ідэя грамадзянства БНР прагучыць на ўвесь голас і выкліча прыток новых соцень і тысячаў ахвотных.

Рацыя, калі кожны дзень пачынаць з таго, што нарэшце наша Беларусь незалежная краіна, да чаго ўвесь народ імкнуўся стагодзьдзямі і ўжо пасьля казаць: але варожыя незалежнасьці сілы і г.д., то ідэя будзе авалодваць масамі нашмат больш імкліва, чым калі пачынаць з таго, што наша незалежнасьць апынулася пад пагрозай. Ідзі, маўляў, барані тое, што яшчэ не пасьпеў палюбіць.

Увесь наш народ ганарыцца слаўнай старажытнай гісторыяй і палітычнымі здабыткамі апошніх гадоў. Тое, пра што марылі і за што аддавалі жыцьці нашыя дзяды, маем мы, іхныя ўнукі. Мы, кожны з нас, разумеем цану незалежнасьці і ніхто не перашкодзіць нам перадаць яе ў спадчыну нашым дзецям!

Пасьля такіх рэгулярных сьпічаў пра Лукашэнку можна і не дадаваць.

**Сяргей Паўлоўскі**

# Чыноўнікі супраць ліцэістаў

## *У Менску пад пагрозай закрыцьця апынулася апошняя беларуская сярэдняя школа*

У той дзень, калі па ўсёй Беларусі пачаліся прыймовыя іспыты, на адной з вуліцаў Менску можна было пабачыць дзіўнае відовішча. Некалькі дзясяткаў чалавек з глёбусамі і падручнікамі ў руках адзін за адным у суправаджэньні міліцыі і брытагаловых маладых людзей у цывільным рухаліся па тратуары. Час ад часу міліцыянты выхоплівалі каго-небудзь зь мінакоў і запіхвалі чарговую ахвяру ў «варанок». Так улады рэагавалі на мірную акцыю выкладчыкаў, іх вучняў і бацькоў у абарону адзінага ў Эўропе Беларускага гуманітарнага ліцэя.

Як казаў пэрсанаж вядомага фільма аднаму прафэсару, «іспыты — гэта заўсёды сьвята». Для прадстаўнікоў уладнай эліты ў Беларусі пачатак уступных іспытаў у ВНУ — гэта нешта большае, чым сьвята. Гэта палітычная кампанія дзяржаўнай важнасьці...

Аляксандар Лукашэнка пару гадоў назад паклаў пачатак новаму пачыну, зачытаўшы з экрана ТВ тэмы экзамэнацыйных твораў і асабіста ўзначаліўшы дзяржкамісію кантролю за ходам ўступных іспытаў. Выслухоўваньне пажаданьняў прэзыдэнта ў эфіры стала цяпер абавязковым рытуалам для абітурыентаў. А даручэньня ўзначаліць аналягічную камісію — асаблівым гонарам для чыноўніка. На гэты раз высокім даверам быў адзначаны старшыня дзяржкамітэту па друку Уладзімер Замяталін — аўтар зубадрабільных паправак да закона аб друку, якія, у выпадку іх прыняцьця, каменя на камені не пакінуць ні ад закона, ні ад свабоды слова ў прынцыпе. Палкоўнік у адстаўцы, былы намесьнік начальніка адміністрацыі прэзыдэнта і яго, так бы мовіць, ідэйны зброяносец падвышаны ў рангу — цяпер Замяталін віцэ-прэм'ер, які кантралюе ня толькі прэсу, але й культуру, навуку й адукацыю разам узятыя.

У барацьбе з пратэкцыянізмам пры паступленьні ў інстытут у старшыні камісіі ёсьць надзейныя саюзьнікі. Члены Беларускага патрыятычнага саюзу моладзі (БПСМ, які ў прастамоўі завецца «лукамолам») у адпаведнасьці з прэзыдэнцкім загадам увайшлі у склад прыймовых камісіяў, цяпер і ад гэтых вельмі маладых, да таго ж вельмі раньніх маладых людзей будзе залежаць лёс іхных раўналеткаў.

Зрэшты, барацьбу з пратэкцыянізмам у адміністрацыі прэзыдэнта разумеюць дастаткова своеасабліва. Да прыкладу: Беларускі гуманітарны ліцэй — адзіная навучальная ўстанова, дзе ўсе прадметы выкладаюцца на беларускай мове (варта заўважыць, адной зь дзьвюх дзяржаўных). Аб узроўні выкладаньня ў ліцэі сьведчыць хоць бы той факт, што дзевяноста пяць працэнтаў яго выпускнікоў штогод паступаюць у ВНУ. А аб прэстыжы гэтай навучальнай установы сьведчыць ужо тое, што некаторыя дастаткова высокапастаўленыя асобы з адміністрацыі прэзыдэнта цікавіліся на прадмет магчымага ўладкаваньня ў ліцэй сваіх чадаў. Зрэшты, «уладкавацца» сюды можна толькі адным шляхам — паказаць належныя веды і здольнасьці пад час строгіх іспытаў.

І вось, напярэдадні летніх уступных іспытаў улады прыгатавалі Беларускаму ліцэю свой, асаблівы экзамэн. У пачатку ліпеня кіраўніцтву ліцэя выпадкова (!) стала вядома аб існаваньні дакумэнта, згодна зь якім будынак ліцэя (які некалі належаў ЦК камсамола Беларусі) перадаецца ўправе справаў прэзыдэнта. Варта адзначыць, што ў распараджэньне гэтай структуры на чале з Іванам Ціцянковым, якая і без таго фактычна зьяўляецца манапольным уладальнікам незьлічонай колькасьці аб'ектаў нерухомасьці ў краіне, перадаюцца яшчэ дзясяткі два будынкаў у сталіцы. Сярод іх, да прыкладу, — Дом літаратара, Дом тэхнічнай творчасьці і г.д. Але калі пісьменьнікі і юныя тэхнікі паставіліся да гэтага адносна спакойна, то выкладчыкі, а таксама вучні і іх бацькі забілі трывогу. І ня дзіўна — будынак у ліцэя ўлады імкнуцца адбіць ня першы раз. І кожны раз спрабуюць паставіць калектыў перад фактам, што, безумоўна, ніяк не садзейнічае нармальнаму навучальнаму працэсу. А галоўнае, ніхто нічога не прапануе наўзамен, таму ў ліцэя ўзьнікае рэальная пэрспэктыва аказацца папросту на вуліцы. Міністэрства адукацыі, на пачатку зрабіўшы выгляд, што яму нічога не вядома аб перадачы будынка і што яно, міністэрства, на баку ліцэя, урэшце загадала яго дырэктару Ўладзімеру Коласу афіцыйна рыхтавацца да перадачы маёмасьці ведамству Ціцянкова.

Экстрана створаны яшчэ некалькі тыдняў таму бацькоўскі камітэт імкнецца ўсімі сіламі прыцягнуць увагу грамадзкасьці. Але зрабіць гэта вельмі цяжка. На пачатку ўлады нават не давалі дазволу на пікет у абарону правоў выкладчыкаў і ліцэістаў. Зь вялікай цяжкасьцю дазвол на пікетаваньне ўдалося выбіць. Але... Афіцыёзны друк імкнецца рабіць выгляд, што нічога асаблівага не адбываецца. Прадстаўнікі ўлады раздражнёна кажуць аб тым, што абаронцы ліцэя, быццам бы, займаюцца палітыкай. Натуральна, сёньня нават размаўляць у Беларусі па-беларуску (калі ты, вядома, ня сам прэзыдэнт і не выступаеш на ўрачыстых мерапрыемствах) — гэта ўжо палітыка, амаль фронда. Ну, а на дзяцей-ліцэістаў, якім, магчыма, могуць зламаць лёсы, дарослым дзядзькам са структураў улады напляваць. Галоўнае, што яшчэ адным будынкам у чыноўніцкай уласнасьці стане больш.

**Алена Лукашэвіч**

МЕНСКАЯ КВАТЭРА

# ТРЫ ПЫТАНЬНІ ЎНУЧЦЫ ШАГАЛА

Ёсць у маім Менску такі дом, куды мяне заўжды цягне нібы магнэсам. Прычынаю таму — і гасьціннасьць гаспадыні, і незвычайнасьць інтэр'еру з мноствам карцін на сьценах ды кніг на бясконцых паліцах, і нейкая ледзь улоўная атмасфэра багемы, у самым шляхетным яе разуменьні. Гэта калі няма абмежаваньняў тэмам для размовы і ня трэба пакідаць глыбокі фатэль дзеля такой дробязі, як «папаліць». Але галоўнае — пра гэты дом ведае, здаецца, добрая палова ўсіх прыстойных людзей ня толькі Менску, але і ўсёй зямной кулі. Што ня дзіва: гаспадыня — кіруе адзінай незалежнай кінастудыяй Беларусі. Таму тут ніколі не заціхаюць расейская, беларуская, нямецкая, француская ды іншыя мовы — гледзячы хто сёньня гасьцюе. Таму я люблю (хоць, кажуць, гэта і непрыстойна) заяўляцца ў гэты дом без папярэджання. Каб нечакана для сябе патрапіць у самую нечаканую кампанію.

«У нас унучка Шагала, з мужам і дачкой», — сустрэла мяне гаспадыня. Ад легендарнага прозьвішча я крыху сумеўся. Нават ня столькі ад прозьвішча, колькі ад сваёй пячорнасьці. Някепска было б падтрымаць гаворку пра мастака, задаць нейкае няпростае пытаньнейка. А я ўсяго й ведаў, што мастак жыў у Віцебску, памёр у Парыжы ды што на ягоных палотнах адсутнічае фізычнае прыцягненьне зямлі. Асаблівы сорам я адчуваў перад ягонай маленькай праўнучкай, маленькай бялявай дзяўчынкай, якая была вельмі ўжо прыгожай у свае тры з паловай гады і няспынна нешта шчабятала па-француску, што прыводзіла мяне ў асаблівае захапленьне. Калі я і ўяўляў сабе францужанку, то менавіта такой. Але што я ёй мог сказаць акрамя «мэрсі»? «Бачыш, такая маленькая, а ўжо па-француску гаворыць», — дакарыла мяне гаспадыня. Таму мне нічога не заставалася, як перайсці на беларускую мову. Дзякуй, сярод нас была пані, якая ведала гэтыя дзьве мовы.

— Мадам. Мы тут крыху заблыталіся, дзелячы Вашага дзеда. Расейцы, жыды, беларусы — усім раптам заманілася лічыць Шагала сваім мастаком. Цікава, кім ён сам сябе лічыў?

— Я цалкам разумею гэтае пытаньне. Калі вы пытаецеся, да якой краіны ён належыў, то, безумоўна, ён не аддзяляў сябе ад Віцебска. Хоць на яго творчасьць уплывалі культуры розных краінаў. На ягоных карцінах прысутнічалі і жыдоўскія рэлігійныя элемэнты, што ідуць ад ягоных каранёў. Наведаўшы Палестыну, што пазьней сталася ізраільскай, ён быў уражаны яе краявідамі. Калі ён прыехаў у Францыю, краіну, што прыняла яго, ён акунуўся ў літаратуру, мастацтва, паэзію. Вядома ж, гэтая краіна, Францыя, заўсёды ўплывала на ягоную творчасьць і бачаньне сьвету.

Тым часам мсьё, вясёлы мажны францускі чалавек, разьліў гарэлку. Да самых краёў, як належыць. І яшчэ разок... І яшчэ разок... Напэўна, яму захацелася пагусарыць. Я вырашыў яму падыграць. Гітара ж была пры мне. Неяк з боскай дапамогай прыгадаў некалі вызубраную мной старую францускую шансаньетку, якую мы дасьпявалі разам з мсьё. Што значна палепшыла атмасфэру й без таго цудоўнага вечара. Вось насупраць мяне падпявае ды падлівае зяць. Ля стала пад нашыя сьпевы танчыць праўнучка. Таму той, дзеля каго і прыехалі ў невядомую краіну гэтыя людзі, не падаваўся мне такім ужо далёкім. У тэлебачаньні давалі «Славянскі базар». Што натхніла мяне на чарговае пытаньне.

— А што Вас болей за ўсё ўразіла ў Беларусі?

— Я была зачараваная вашымі краявідамі. Мне здалося, я зноў бачу ўжо знаёмыя мне карціны першага пэрыяду творчасьці Шагала. Нельга сказаць, што ўсё засталося па-ранейшаму. Шмат, напэўна, было зруйнавана вайной. Але тое, што засталося, дык гэта стан душы, які адлюстраваны ў вачах людзей. Гэта цудоўна!

Патроху мне пачало здавацца, што я ўжо разумею францускую гаворку. Яшчэ б трохі, і мне б здалося, што й сам Шагал вось толькі быў за сталом сярод нас, проста некуды адлучыўся. Тым часам, госьці яўна змарыліся ад уражаньняў першага дня. Мсьё папрасіў выклікаць таксі. На тлумачэньні, што да гатэля дайсьці хутчэй, чым даехаць, ён сказаў тое, што можна было зразумець і безь перакладу. «Менск гэта не Парыж».

— Мадам, Вам ня страшна было сюды ехаць?

— Я не зусім зразумела Вашае пытаньне. Мы адразу, як толькі міністэрства культуры і музэй папрасілі нас дапамагчы з арганізацыяй выставы, станоўча адрэагавалі, рэалізуючы іхную просьбу. Пры чым тут страх? Натуральна, прыезд сюды быў вельмі хвалюючы, але працэс падрыхтоўкі экспазыцыі і каталёгу суправаджаўся пачуцьцём далучанасьці да гэтай краіны. Нават у нас, прадстаўнікоў другога пакаленьня.

А някепска, напэўна, нарадзіцца нашчадкам Вялікага чалавека. Праблемы выбару шляху амаль што не існуе. А калі гэта Шагал, то нарадзіцца можна і прапрапраўнучкай. Заўтра яны ўпершыню пабачаць Віцебск. Цікава, што адчуе маленькая Ліза? Калі, вядома, адчуе...

— Але ж, спадзяемся, гэта не апошні Ваш візыт у Беларусь.

— Выстава, якую мы арганізавалі, павінна стаць першаю ў цэлай сэрыі экспазыцыяў. Але, вядома ж, гэты культурны абмен паміж музэем і сям'ёй павінен адбывацца з выкананьнем пэўных правілаў, у прыватнасьці, аўтарскага права. Гэта цалкам новыя паняцьці для гэтай краіны, але іх выкананьне неабходнае для нашага плённага супрацоўніцтва. Недахоп сродкаў у краіне не павінен стаць перашкодаю для культурнага дыялёгу. Таму трэба знайсьці спонсараў, аб'яднаць усе сілы дзеля таго, каб зьдзесьніць тое, што здаецца немагчымым. Як бачыце, у нас столькі прычын быць сябрамі...

Я падзякаваў мадам за адказы й ветліва разьвітаўся. Не рызыкнуўшы паказаць нумар «НН» з артыкулам С.Харэўскага, прысвечаным Марку Шагалу, з рэпрадукцыяй у чвэрць паласы. Каб лішні раз не раздражняць госьцю яўным парушэньнем аўтарскага права. Калі вяртаўся начнымі вуліцамі, мне палепшала ад думкі, што невядомая гасьцям краіна — мая. Хай невядомая яна ня толькі родзічам мастака, сярод карцін якога я не прыгадаю ніводнай з кварталамі Парыжу. Пры чым тут тады аўтарскае права?..

**Зьміцер Бартосік**

# ДВА ЛІСТЫ НА АДНУ ТЭМУ

Вашая Міласьць Спадару Рэдактар!

З захапленьнем Вашай навагай служыць Божай Праўдзе дзякую Вам, што былі ласкавыя зьмясьціць у рэдагаванай Вамі газэце «Наша Ніва» № 15-16 21-га красавіка г.г. маё велікоднае прывітаньне вернікам БАПЦ і ўсім праваслаўным беларусам.

З абурэньнем я й вернікі БАПЦ даведаліся, што гэтае выкананьне Вамі журналісцкага абавязку інфармаваць чытачоў пра ўсё, што іх датычыць і цікавіць, спрычыніла Вам з боку сучасных уладаў Рэспублікі Беларусь непрыемнасьці й пагрозу закрыцьця газэты.

Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ўважае за Ейнае права й маральны абавязак ня толькі настаўляць на годнае жыцьцё паасобных людзей, але й супраціўляцца акупацыі Беларусі чужой скарумпаванай Царквою ды выяўляць, як адкрытае, гэтак і прыхаванае законамі бясправўе сьвецкіх уладаў, незалежна ад іхнага ідэалягічнага, ці палітычнага кірунку, ды пратэставаць супраць усялякае няголнасьці.

Разам з гэтым Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква падтрымоўвае й права ды маральны абавязак прэсы даводзіць да ведама грамадзтва, паводле ейнага свабоднага выбару, праўдныя весткі й камэнтары пра актуальныя падзеі й зьявы, што Вы й зрабілі, публікуючы маё велікоднае прывітаньне.

З увагі на ўсё, што вышэй адзначана, я й Рада ды Кансысторыя БАПЦ гэтым выказваем пратэст супраць таталітарных памкненьняў сучасных уладаў Рэспублікі Беларусь забараніць і пакараць свабоду сумленьня ды інфармацыі.

Мы зробім усё магчымае, каб гэты пратэст дайшоў да ведама ня толькі беларускага грамадзтва на Бацькаўшчыне ды ў эміграцыі, але й дзяржаўных уладаў ЗША ды занятых абаронай людзкіх правоў ды свабоды рэлігіі арганазацыяў.

Схіляючы чало ў пашане перад Вашай журналісцкай сумленнасьцяй і грамадзянскай адвагай у вабліччы ўзброенае сілай несправядлівасьці, упрашаю Вам Божае апекі й дапамогі ў сучасных цяжкасьцях і небясьпеках, ды жадаю, каб Вашая дзейнасьць завяршылася свабодай нашае любае Бацькаўшчыны.

Сьцеражы, Божа, Беларускі Край!

З малітвамі за Вас

Мітрапаліт Ізяслаў

Першагерарх Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы

ПРАКУРАТУРА
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ПРОКУРАТУРА
РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

220050, г. Мінск, ГСП
вул. Інтэрнацыянальная, 22

220050, г. Минск, ГСП
ул. Интернациональная, 22

Тел. 26-43-58

17.07.97. № 7/188-97

На № 84-97 ад 03.07.97.

Галоўнаму рэдактару
газеты "Наша Ніва"
Дубаўцу С.І.

Ваша скарга на пісьмовае аб'яўленне Вам афіцыяльнага папярэджання аб недапушчальнасці парушэння Закона мною разгледжана.

Знаходжу абгрунтаваным афіцыяльнае папярэджанне аб недапушчальнасці парушэння Закона, аб'яўленае Вам намеснікам Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь Снягіром М.В. у сувязі з апублікаваннем у газеце "Наша Ніва" віншавання т.з. Мітрапаліта Беларускай Праваслаунай Царквы Ізяслава з нагоды Вялікадня.

Падстаў для яго адмены няма.

Генеральны пракурор
Рэспублікі Беларусь

А.А. Бахэлка

# ПРОСТАПАД

Адзін мой вучань ня мог вымавіць мудрагелістае матэматычнае слова пэрпэндыкуляр. Кожнага разу ён мусіў паўтараць яго сама мала два разы. Урэшце я ня вытрымаў і прапанаваў: «Слухай, Пятрусь, нашыя землякі В.Ластоўскі і К.Дуж-Душэўскі прыдумалі цудоўны беларускі адпаведнік — простапад, г. зн. прамая, што падае на другую прамую проста, пад прамым вуглом. Дазваляю табе карыстацца ім». Уся кляса ухвальна паставілася да новага слова.

А ў мяне зь ім свой клопат.

Простапад — тая лінія, уздоўж якой мусяць ісьці сёньня настаўнікі-беларусы. Простапад да лініі-курсу, якога пільнуецца цяперашняе пэдагагічнае чынавенства. Рупнасьць апошняга мае плён, прынамсі вонкавы, — крочыць у зададзеным кірунку піянэрская дзятва ў чырвона-зялёных гальштуках. Крочыць шляхам абрыдлай руціны і нуды. «Кто там шагает правой?» Адно барабанаў не чуваць. Жыцьцё нібы спынілася 50 гадоў таму. Відаць, галоўны пэдагог краіны (мае адпаведны дыплём і пасаду) вяртае і ў школу «ўсё лепшае». Але хто ачольвае калёну? Вядома, настаўнік. Той самы, які яшчэ ўчора вучыў іншым сымбалям. Заўчора таксама іншым. Божа, у штоператварае існая ўлада сваіх настаўнікаў! 23 траўня, у дзень падпісаньня статута саюзу Беларусі з Расеяй, у школу быў спушчаны з гары цыркуляр — тэрмінова правесьці ў клясах «урок славянскай пісьменнасьці». Уяўляеце, пра якую пісьменнасьць загадвалася лухціць дзецям! І нехта ж лухціў.

Школа пры таталітарным рэжыме ўзгадоўвае вучняў з канфармісцкай сьвядомасьцю, затым яны выробляюцца ў настаўнікаў-канфармістаў. За Сталіным яны мусілі цьвердзіць дзецям аб тым, што Канстытуцыя СССР — найдэмакратычная ў сьвеце. Па сьмерці тырана тыя ж настаўнікі пачалі навыперадкі ўхваляць новую канстытуцыю да таго часу, пакуль не канаў чарговы генсек. Цяпер замест генсекаў сталіся прэзыдэнты і яны таксама ўважаюць сябе выбітнымі адмыслоўцамі ў галіне законатворчасьці. І твораць немаведама што. А настаўнікі зноўку кажуць пра перавагі новага «асноўнага закона». Бо адноўленыя колішнія палітінфармацыі. Праўда, найменьне зьмянілі — інфармацыйная гадзіна. Якая ж гэта марная справа — тлумачыць палітыку ўлады, што ня здольная прадукаваць добрае й вечнае!

З гэтага зачараванага кола ёсьць выйсьце. Ёсьць альтэрнатыўны шлях — простапад. Калі Аўстра-Вугоршчына распачала І сусьветную вайну, то ўвесь культурны сьвет быў шакаваны, бо цяжка спалучалася ў сьвядомасьці краіна кайзэра з краінай Гётэ, Бэтховэна і Канта. Тады нямецкі ўрад дзеля сваёй рэабілітацыі зьвярнуўся з адозвай да слынных дзеячоў навукі й культуры. У ёй адпрэчваліся ўсе абвінавачаньні. Шмат хто праз свае патрыятычныя пачуцьці падпісаў адозву. Зьвярнуліся да самага вядомага ў сьвеце матэматыка Д.Гільбэрта. Ён прагледзеў сьпіс цьверджаньняў, кожнае зь якіх пачыналася са словаў «Гэта няпраўда, што...» І паколькі ён быў ня ўпэўнены ў слушнасьці ўсіх выказваньняў, то адмовіўся паставіць свой подпіс. Ён быў сапраўдным патрыётам. Патрыётам культурнай Нямеччыны.

Адзін мой знаёмы, калі яшчэ нашыя хлопцы гінулі ў Аўгане, вучыў на тых самых палітінфармацыях: памятайце, бываюць у жыцьці моманты, калі трэба пацэліць вышэй галавы, не выконваць злачынных загадаў. Ён таксама патрыёт. Сваёй Беларусі. А патрыётамі якой краіны лічаць сябе дзецюкі з БПСМ? Хутка яны прыйдуць у школы...

Шмат маіх калегаў прастуюць сваім простападам. І нельга ім збочыць. Бо аднойчы адкрылі яны для сябе катэгарычны імпэратыў настаўніка: ня хлусіць дзецям і засяваць нашу ніву сапраўды мудрым, добрым, вечным і цікавым.

**Янка Шкаляр**
*г. Глыбокае*

---

Добры дзень, шаноўная рэдакцыя «Нашай Нівы»!

У газэце «Народная Воля» быў зьмешчаны ўрывак з новага зборніка Васіля Быкава «Сьцяна», які, як вядома, выдавецтва «Мастацкая літаратура» адмовілася друкаваць, спасылаючыся на тое, што творы Быкава выдаваліся ў Беларусі ў дастатковай колькасьці. У гэты зборнік таксама плянавалася ўключыць аповесьць «Пакахай мяне, салдацік», за якую Васіль Быкаў вылучаны Брытанскім камітэтам Букера на атрыманьне прэстыжнай міжнароднай літаратурнай прэміі «Букер-97».

Пад словамі Сяргея Законьнікава, што бяз творчасьці народнага пісьменьніка Беларусі Васіля Быкава сёньня немагчыма ўявіць ня толькі сучасную беларускую літаратуру, але й шырокія абсягі эўрапейскага й сусьветнага прыгожага пісьменства, увогуле культуры, падпішуцца беларусы ўсяго сьвету. Не магу зразумець, адкуль бяруцца такія нелюдзі, якія сваёй ілжывай дэмагогіяй замінаюць выхаду новых твораў народнага пісьменьніка?

У наш час, калі прылаўкі менскіх кнігарняў літаральна заваленыя стосамі нізкагатункавых замежных дэтэктываў і эротыкі на расейскай мове, немагчыма набыць новай беларускай мастацкай літаратуры. Калі дзеячы культуры ня могуць абараніць творы Васіля Быкава, можа мы, простыя яго чытачы нешта можам зрабіць, каб супрацьстаяць шклоўскаму цемрашальству і дапамагчы зборніку «Сьцяна» расчысьціць шлях да свайго чытача. Таму я прапаную выдавецтву «Наша Ніва» выдаць гэты зборнік. Вашае выдавецтва выдала шмат цікавых кніг, можа, дапаможа і мне прыдбаць новую кнігу майго любімага пісьменьніка. Грошы на выданьне можна сабраць шляхам папярэдняй падпіскі. Я асабіста прыдбаў бы 5 асобнікаў, каб падараваць іх сваім сваякам і сябрам.

**З пашанай Міхась Сазон**

# ПАТЛЫ ЗАЛЕЖНАСЬЦІ

Дранцьвее родная вёска Мядзьведнае, што на Ельшчыне. Буцьвее некалі люстраная, з мноствам рыбы Славечна, пляжыцца сьмярдзючым жалезам здаўна гамонячы зь небам лес, жабурыніцца абаронца ад хваробаў студня. З-за цяжкае ад цямна да цямна працы стапталіся ў медзьвяжанцаў ногі, падоўжалі, як у малпаў, рукі. Выпетраныя твары, стомленыя вочы не даюць супакою дзецям-гараджанам, якія выходнымі талагуняцца падмагчы старым. Вярэдзіць сэрца, што не адолець хуткага губляньня сялянамі роднага, сьпеўнага беларускага слова. У хвіліны адпачынку, пераказваючы дзённыя ўражаньні, пакутліва шукае дзядзька словы. Найболей махае рукамі, чмыша, бухікае.

— Дзеду Антось! Чаго гэта вы тлуніцеся, млосьсю зайшліся?

— Ат, унуча. Тая скрыня тэлевізіі, альбо «радзьва» напускаюць маны, такое вярзуць, што дух зацінае. Спрадвеку ўлюбёнага слоўца ад іх не чуваць. Адно камянюкі грымаюць у галаву, крывяць языка.

Сам заўважыў, выціскаюць часапісцы, лемантары ўласна беларускае: слова, будову сказа, думку. Кажуць, пішуць... Што, каму, дзеля чаго? Горай і з-за таго, што калечым моладзь, малечу. Наўкола гурта жэўжыкаў лунае мацюк, дзяўчынкі тое ж дзеюць. На рынку вабная маладзіцца голасна: «Мужчына, купеце!»

— Даражэнькая! Зьвярніся да мяне іншым, лепшым словам.

— Як жа па-іншаму? Я ня ведаю.

Прыехалі, як той кажа. Зашмат згубіў беларус. Здаецца, на кану мова.

**Мікола Засінец**
*Мазыр*

---

Дзень добры, Наша Ніва!

Піша вам былы студэнт-радыёфізык. Даўно ўжо наважыўся напісаць ліст, дарэчы й нагоды дзеля гэтага былі, але то часу няма, то працы з галавой. Але гэта адступленьне.

1

Першы раз я пабачыў «НН» выпадкова — мінаючы шапік «ТБМ», узяў ды зазірнуў, проста ад НямаЧагоРабіць. Думаю так: «Нештачка зараз набуду, гэткае беларускае». Бачу — ляжыць «НН». №4. 1995. Беларуская газэта. Пытаю, колькі за адзін нумар, даю грошы. У адказ атрымліваю чамусьці два нумары — у дадатак яшчэ й №15 за год 1993. Добра, думаю, халява. Потым толькі ўжо зразумеў як пашэнціла. Боская камэдыя + Э.А.По + УсёАстатняеВельміЦікавае. З тае пары аніколі не прапусьціў аніводнага нумару. Так бы мовіць — каханьне зь першае лыжкі, зь першага глытка.

Так пачыналося маё знаёмства з «НН». Цяпер я не чытаю зусім газэт, толькі кожны, кожны панядзелак бадзяюся па шапіках у росшуках той адзінай. Тут дарэчы пару камянёў у агарод «Свабоды» й астатніх. Раней «Свабода» куплялася дзеля інфармацыі, «Имя» — «для развлечения», БДГ — біржы й банкі, «Пагоня» — бо наша. «Народная Воля» — з настальгіі па добрых часах «Народнай газэты» (маюцца на ўвазе часы публікацыі артыкула «Пра расейскі імпэрыялізм»). Потым скончыліся грошы. «Свабода» — перайшла на хворы правапіс (дый ня ў ім толькі справа). І цяпер засталася толькі «НН». І гэта добра. А інфармацыю бярэм, як і раней, з радыё «Свабода».

II

Люблю перачытваць «НН». Энцыкляпэдыя, няйнакш. Вось і зараз гартаў старонкі. Выцягваў словы наўздагад. Мацаў імёны ў выпадковым парадку. Напаткаў гэткім чынам артыкул пана Б.Сьвідэрскага «Страта» з «Ex Libris» («НН», №5, 1995), як пададзена ўнізе старонкі. Калісьці ўжо чытаў, але праз тое, што не адшукаў у памяці нічога, што ўзнавіла б зьмест прачытанага калісьці, наноў перачытаў-пераглядзеў. Адразу неадпаведнасьць, канфліктнасьць: «Дэмакратыя вымагае адрознасьці», і ў той час, праз дзьве калёнкі, яна ж, «Дэмакратыя ўроўнівае людзей». Начорта тады гэткая дэмакратыя, якая сама ня ведае, што яна робіць, ці што ёй рабіць.

Дробязь, але Дух Кпінаў (мой асбісты) абавязкова затрымліваецца на падобных рэчах. А ўвогуле пра праблему існаваньня ў дэмакратычных умовах чалавекаў з розных традыцыяў ды з рознымі мадэлямі сьветаўяўленьня распаўсюджвацца ня буду. І тэма няўдзячная, дый няма ў мяне гэткай фундамэнтальнай кампэтэнцыі ў галіне тэарэтычнай і практычнай палітыкі, каб казаць на гэтыя тэмы.

Але ўсё ж адзіную, зусім для мяне выпадковую, паралель я адзначу. У вышэйназваным артыкуле ёсьць гэткая нітка. Паэт Рэцэп Таіб Шыб закупляе ў аўтара словы для складаньня вершаў на незнаёмай мове. У выніку ён складае зь іх і такія радкі:

Найлепей кахацца з катам
ад пачатку да канца
ўсё чыстае і прыстойнае
паспрабуй кахацца з катам
у XX стагодзьдзі.

Прачытаўшы, я падумаў, што гэта я ўжо недзе бачыў. Так яно й ёсьць. В.Шніп. Добры беларускі вершаскладальнік. Мне падабаецца. На рэштках храма. «У ката закахалася паненка». Старонка 22-23. Вось гэткая вось паралель.

III

«НН» заўсёды была адрознай, але й рознай. Гэткі гамэраўскі Пратэй. Але я крыху згусьціў. Пасьля «эпахальнага» нумару 7-8, 1995, «НН» зацяжарала «Інфарматарам». Беларусь ня тая краіна, яе жыхары — ня тыя людзі. Тым, хто не чытае «НН» — да лямпачкі, бо яны ні пры якіх умовах гэтага ня зробяць, хіба што прыедзе Пазьняк ды прымусіць гэта зрабіць, прыпугнуўшы сваімі ведамымі люстрацыямі. (Цікава, ён да гэтых часоў іх з сабою возіць па Плянэце?) Тым, хто «НН» чытае, тым таксама, усяго розьніцы — замест лямпачкі можа карыстацца посьпехам бра, ці нейкі стары таршэр. Бо яны пры любых умовах ня здрадзяць сваёй улюбёнцы. Бо гэта — ІДЭЯ, а «НН» — найлепшае яе ўвасабленьне.

А тым часам «Інфарматар» худзеў, пакуль не пакінуў самае патрэбнае, што не стасавалася з гамадзка-літаратурным іміджам газэты (і таму ўвабраў у сябе). І гэта таксама добра.

IV

У нумары 26 «НН» абвесьціла Размову з чытачамі. Справа добрая. Але мне ня выпала паўдзельнічаць, бо гэтак усё складалася. Я ня буду тут прыводзіць тыя свае адказы, але ўстаўлю пару тэзаў. На пытаньне, каго з аўтараў я чытаю адказваю так — амаль усіх. Але зь іх безумоўна вылучаюцца (у парадку, пададзеным у анкеце): Славамір Адамовіч, Уладзімер Арлоў, Адам Глёбус (Амстэрдам + дробязі + афарызмы), Андрэй Дынько, Сяржук Сокалаў-Воюш (выбрана), Сяргей Харэўскі й Сяргей Шупа.

З тых, хто ня быў пералічаны: Л.Ушкін са сваімі занатоўкамі пра ІРА й эсэ Сяргея Паўлоўскага. Падабаецца незалежнасьць ад Пазьнякоўскага руху, які ўжо даўно зрэшты перастаў быць Пазьнякоўскім, і які (зусім ня з гэтае прычыны) ужо прыеўся і перасеў у вугал, каб не маячыць перад вокам.

***

Розныя аўтары пішуць у «НН». Можа некаторых проста не зразумееш так проста. Простыя людзі, што і казаць. Напрыклад, Ганна Матусэвіч з «Дыярыюшамі». Якую адзнаку паставіць? Ня ведаю. Шкада жанчыны. Гэтак жа, як і ўсё жыцьцё наўкола яе, наўкола нас, наўкола сябе. Шкада гэтак жа, як і самога сябе. Узапраўды ж гэтак і павінна быць.

Калі мы кагосьці шкадуем, мы перадусім шкадуем сябе ў абліччы шкадаванага. Мы ня хочам апынуцца на яго месцы, у яго абставінах. Мы ня можам гэтак. І нам яго шкада. Нам шкада яго сябе.

Неразумна не шкадаваць сябе. Нельга не шкадаваць сябе. Не шкадуючы сябе, тым самым не шкадуем іншых. Шкадуючы іншых — шкадуем сябе. Шкадуй іншых, шкадуй сябе.

***

На нізку пытаньняў пра тое, што чытаюць з ахвотай і безь яе скажу так: Інфарматар збольшага не чытаў ніколі. Праглядаў, каб не прапусьціць штосьці значнае, але ўспамін пра «Інфарматар» застаецца нейкі шэры. Адзінае, што чытаў — «Грамафон» і «Эпікон». І яшчэ даведкі пра кнігі й прыватныя абвесткі. Сёньняшні «Інфарматар» — прыкладна тое, што трэба.

А!, яшчэ забыўся адзначыць Сяргея Ярша. Вельмі карысныя артыкульцы.

На апошнюю частку анкеты я ўжо збольшага адказаў: Адукацыя — вышэйшая (ужо), жыву ў Менску, узрост: 20-29 гадоў, пол: мужчына...

У №33, 1996 узгадваліся вынікі анкетаваньня. На жаль, узгаданыя адно тэксты 1996 году. Ня ведаю, як астатнія, але варта, варта адзначыць вельмі моцны артыкул Нуалы Ні Гональ «Чаму я вырашыла пісаць па-ірляндзку». І калі я ўбачыў вынікі, пры гэтым не зьвярнуўшы ўвагі на лічбы 1996 (артыкул быў надрукаваны ў №7-8, 1995), я ледзьве ня ўзьюшыўся. Але адзначылі, і добра. Цікава, дарэчы, што б адказаў ёй Дж.Джойс? Можна, зрэшты, яго цалкам (ну гэта перабор) зразумець.

V

Пісьменьнікі ў «НН» і па-за межамі яе. Спазнаваць пісьменьнікаў з «НН» цікава й прыемна. Першы быў Глёбус. Спачатку слушна, потым стаў эгаістам. Але Амстэрдам выкупляе ўсе грахі. Потым быў Арлоў. Вельмі добра, нават выдатна. Тая самая кніжка з барадой «ірляндзкага тэрарыста» на вокладцы. Адзнака — выдатна. Зрэшты, як і ўсе ягоныя кніжкі. Артыкулы ў «НН» — шыкоўныя й экстравагантныя. Хочацца жыць і нешта пісаць уначы. Паліць, адылі, ня хочацца, і не палю ніколі. Арлоўская «Фаўна сноў» з часопісу «Крыніца» — нешта не пайшла. Можа дурное ўзьдзеяньне «Крыніцы»? Але ж «Крынічны» портэр ідзе з заплюшчанымі вачыма.

Адамовіч пайшоў адразу. Але ён нібыта саромеецца сябе. Чытаў Дзёньнік рэваншыста. Вершыкі ў яго смачныя й жыцьцёвыя. Жыцьцёвыя ня ў сэнсе Ваські ля піўнухі, але ў сэнсе тае крыві, што бруіцца ў целе жывёлы й чалавека, і ў сэнсе чысьціні подыху. Ня еш Сьцімарал, дыхай вольна, ня будзеш сьмярдзець падлай. Гэта я не яму. Ён гэта ведае.

Хочацца чытаць па-беларуску:

1. Г. Гесэ «Гульню шкляных пэрлаў», як і шмат іншага.
2. Эдгара Алана По — усяго, хоць бы для пачатку прозу.
3. Гётэ, Баха й Борхеса.
4. Джойсавы — «Дублінцы», «Партрэт» і «Ulysses».
5. Гамэравы паданьні й шмат чаго іншага падобнага.
6. Урэшце — Біблію.

Ці ёсьць, цікава, што з гэтага ў якасным перакладзе на беларускую?

Чуў пра пераклад Гесэ й Гётэ, але не знайшоў. Джойса, кажуць, бачылі. Дзе?! Ну даюць хлопцы. Чытаючы ў расейскай, робімся маскалямі. Не магу так. А вы?

Чытаў кавалак «Боскай камэдыі» у перакладзе А.Мінкіна. Але ці выйдзе калі-небудзь цэльная кніга. Хаця б надзею якую паймець.

End

Ну ўсё, скончаю. Затлуміў, пэўне ж, галаву вам, шаноўныя. Проста першы раз заўсёды так. Але. Дзякую за ўвагу. Жывіце доўга і, па магчымасьці, багата.

З павагай,

**Марцін Кухаль**

P.S. Чаму падпісаўся мянушкаю? Гл. артыкул «Страта» («НН», №5, 1995). Калі дзеўка зьняла чадру на карысьць дэмакратыі, яна страціла прыгожы твар. Хаваючы таямніцу, захоўваем сапраўднасьць.

Сяргей Шупа

# Беларуска-літоўскія

Сярод прычынаў, якія зусім заканамерна й непазьбежна выклікаюць літоўска-беларускае напружаньне, можна пералічыць наступныя: базаваньне нацыянальна-дзяржаўных ідэалёгіяў абодвух народаў на тым самым гістарычным прэцэдэнце — Вялікім Княстве Літоўскім; дыфэрэнцыяваны падыход да Літвы й Беларусі з боку расейскай нацыянальнай гістарыяграфіі; значнае прасторавае сумежжа, у якім непасрэдны кантакт этнасаў ускладнены шырокай зонай насельніцтва праблемнай этнічнай тоеснасьці; некаторыя ўнутраныя праблемы разьвіцьця беларускай нацыянальнай сьведамасьці, улучна з амбівалентнасьцю гістарычнай этнанімікі.

Згаданыя ў загалоўку «маніі» й «фобіі», вядома ж, ня варта ўспрымаць як клінічныя катэгорыі. Гэтымі тэрмінамі тут будуць умоўна называцца тыя характэрныя рэакцыі, якія спараджае ў літоўскім культурным полі Беларусь як пэўны культурны й ідэалягічны знак. Шэсьць гадоў непасрэднага назіраньня за разьвіцьцём сытуацыі ў «кантактнай зоне» далі магчымасьць заўважыць пэўныя схемы й парадыгмы ў разьмеркаваньні гэтых рэакцыяў паводле лякалізацыі...

## ВКЛ

Першы й галоўны вузел, вакол якога засяроджваюцца ахоўныя рэакцыі літоўскага культурнага арганізму — *сыстэма нацыянальнага ідэалягічнага міту*. Тут пад тэрмінам «міт» трэба разумець ня толькі пэўныя міталягізаваныя вобразы нацыянальнай гістарыяграфіі й гістарыясофіі, ад Палямона да Саюдзіса, а ўсю сыстэму нацыянальнага самаадчуваньня і сьветаадчуваньня, найбольш істотна выяўленую ў самых трывіяльных формах ідэалягічнага дакумэнтаваньня — у школьных падручніках і квазінавуковай публіцыстыцы. Там, дзе ў прасторы й часе сыстэма літоўскага міту адчувае на сабе ўзьдзеяньне беларускага раздражняльніка, уступаюць у дзеяньне ахоўныя мэханізмы. Варта ў сувязі з гэтым прыгадаць загаловак аднаго з публіцыстычных артыкулаў З.Зінкявічуса, які можна было б паставіць эпіграфам да гэтага разьдзелу: «Liaukitės perra š inėję istorij ą». (Апрача іншых ідавочных імплікацыяў варта зьвярнуць увагу на закладзенае ў самой гэтай формуле ўяўленьне аб тым, што «гісторыю» можна, нібы Сьвятое Пісаньне, раз і назаўсёды «напісаць».)

Вось некалькі характэрных сюжэтаў.

Ідэалягема «ВКЛ — папярэдніца ЛР» прыхавана або й адкрыта прадугледжвае перанос сутнасных атрыбутаў апошняй на першую, пры гэтым монаэтнічная, монакультурная й монаканфэсійная дзяржаўная мадэль Літоўскіх Рэспублікаў XX стагодзьдзя стэрэатыпічна прыстасоўваецца да ВКЛ, якое бясспрэчна было поліэтнічнай, полікультурнай і поліканфэсійнай дзяржавай *par excellence*.

## МОВА

Адным з самых «нязручных» для літоўскага міту фактаў была тая мова, якая мела ў ВКЛ афіцыйны статус, які быў ня толькі падмацаваны стыхіяй грамадзкага жыцьця дзяржавы, але й зафіксаваны Літоўскім Статутам. Гэтая мова, называная тады «рускай» (вядома ж, няма ніякіх падставаў атаясамляць яе з «рускай мовай» Маскоўскае дзяржавы і пазьнейшай Расеі) —гэтая мова дзеля патрэбаў літоўскай гістарыяграфічнай тэрміналёгіі патрабавала больш дакладнай лякалізацыі ў сыстэме этнапалітычных каардынатаў. Вось жа з боку абаронцаў літоўскага міту нямала намаганьняў было пакладзена на тое, каб *«нэўтралізаваць» яе этнічную прывязку*, прыраўнаць яе да іншых унівэрсальных, традыцыйных або рэгіянальных моваў — у прыкладзе ВКЛ — да лацінскай, або прыраўнаць ВКЛ у дачыненьні да гэтай мовы да «гэтаксама» этнічна да яе непрывязанай Малдовы. У выніку гэтых намаганьняў быў спароджаны тэрмін «славянская канцылярская мова ВКЛ» (які гучыць гэтаксама недарэчна, як калі б тагачасную літоўскую мову назваць «балцкай размоўнай мовай ВКЛ»). Аўтар гэтага тэрміну З.Зінкявічус у сваёй «Гісторыі літоўскай мовы» даволі пераканаўча абгрунтоўвае правамернасьць ужываньня гэтага тэрміну, дапускаючы ў сваёй аргумэнтацыі толькі адну памылку. Памылка гэтая, на жаль, месьціцца ў галоўным аргумэнце, якім аўтар «адразае» старажытную актавую мову ад жывой народнай мовы русінаў, а менавіта ў цьверджаньні аб адсутнасьці ў актавай мове галоўных беларускіх моўных асаблівасьцяў — «аканьня» й «дзеканьня». Тым часам гэтыя фанэтычныя зьявы пачалі фіксавацца графічна толькі з прыняцьцем беларускай мовай у XIX ст. новых артаграфічных прынцыпаў.

Стварэньне гэткага велізарнага корпусу тэкстаў, як Літоўская Мэтрыка, вымагала існаваньне вялікага канцылярскага апарату і адпаведна падрыхтаваных службоўцаў. Для кампэтэнтнага авалоданьня імі мёртвай канцылярскай мовай, усходнеславянскім адпаведікам лаціны, спатрэбілася б шырокая адукацыйная інфраструктура; тым часам як, калі б гаворка йшла аб пісьмовым варыянце жывой народнай мовы значнай часткі насельніцтва ВКЛ, усёй гэтай арміі справаводаў дастаткова было б засвоіць стандартныя правілы правапісу й канвэнцыі стылістычнага пераліку. Што да непазьбежных адрозьненьяў жывой народнай і пісьмовай русінскай мовы (ужываем гэты агульны для продкаў сучасных беларусаў і ўкраінцаў тэрмін, каб пазьбегнуць неабходнасьці разьмежаваньня паміж старабеларускімі й стараўкраінскімі элемэнтамі ў мове; зазначым таксама, што аманімічныя сучасным тэрміны «літоўскі», «беларускі», «украінскі» у дачыненьні да рэаліяў ВКЛ можна ўжываць з значнай доляй умоўнасьці) дык яны тыпалягічна параўнальныя з аналягічнымі зьявамі ў іншых мовах, якія разьвіліся на глебе пісьмовых традыцыяў іх генэтычных папярэднікаў — раманскіх, паўдзённаславянскіх, ірляндзкай, ісьляндзкай ды іншых.

## ЛІТАРАТУРА

З моўнай традыцыяй зьвязаны й вялікі комплекс твораў вэрбальнай культуры ВКЛ, створаны на русінскай мове. У гэтым выпадку часьцей за ўсё цэласьць міту аберагаецца праз *ігнараваньне* гэтай культуры наагул або праз старанны адбор зьяваў, прымальных для ідэалягічнай асыміляцыі. Так, літоўская культура прыняла ў сваю скарбніцу гістарыяграфічныя, юрыдычныя й адміністрацыйныя тэксты — г. зн. тое, без чаго было б немагчымае паўнацэннае гістарыяграфічнае апісаньне, цалкам пакінуўшы па-за ўвагай амаль усе жанры літаратуры. У адрозьненьне ад фармалізаванага характару гістарыяграфічных і дзелавых тэкстаў — дзе мова адыгрывае толькі функцыянальную ролю — літаратурныя творы сьведчаць аб разьвіцьці нацыянальнай культуры. З увагі на тое, што іх іншамоўнасьць не дазваляла залічыць іх у дасягненьні літоўскай нацыянальнай культуры (у канвэнцыях нацыянальнага міту) гэтыя творы, якія даюць нам права ўлучыць ВКЛ у агульны кантэкст тагачаснай эўрапейскай літаратуры, дагэтуль застаюцца невядомыя ня толькі шырокім масам літоўцаў, але й спэцыялістам — гісторыкам культуры й літаратуразнаўцам.

Тут дарэчы будзе падаць адзін красамоўны прыклад. На адным з сэмінараў у Інстытуце Літаратуры, прысьвечаным культуры ВКЛ, дасьледніца знаёміла прысутных зь «Дзёньнікам» Тодара Еўлашоўскага — новаадкрытым для літоўскага чытача творам канца XVI — пачатку XVII ст., які яна пераклала на літоўскую мову з старой публікацыі мінулага стагодзьдзя. Удзельнікі сэмінару зь вялікім зацікаўленьнем выслухалі паведамленьне, для ўсіх без выключэньня гэты неардынарны тэкст быў сапраўдным адкрыцьцём. Іронія падзеі палягае ў тым, што згаданы «Дзёньнік» у Беларусі апісваўся й дасьледаваўся ўжо ад 20-х гадоў, што сёньня ён вывучаецца ўсімі студэнтамі-філёлягамі ўжо на першым курсе ўнівэрсытэту, што 30 гадоў таму ў Польшчы быў знойдзены арыгінальны рукапіс гэтага твора і ад таго часу ў Беларусі ён ужо двойчы перавыдаваўся паводле арыгіналу, што на яго падставе пішуцца дысэртацыі й манаграфіі, што грунтоўныя артыкулы з усёй наяўнай бібліяграфіяй і інфармацыяй ёсьць ва ўсіх унівэрсальных і спэцыяльных беларускіх даведніках.

Тут ужо можна гаварыць не пра сам факт ігнараваньня літоўскай культурай значнай часткі культурнай спадчыны ВКЛ, а пра сумныя наступствы гэткага ігнараваньня. Таму ня будзе лішнім зазначыць, што да пачатку XVII ст. ВКЛ займала першае месца ў сьвеце паводле колькасьці й агульнага тыражу друкаваных кірылічных кніг, што ВКЛ было адзінай мэтраполіяй русінскай культуры, а самы яскравы літаратурны твор, створаны на тэрыторыі Княства ў XV ст. — перапрацаваны на мясцовай глебе пераклад «Аповесьці аб Трышчане» — увайшоў пад тытулам «Беларускі Трыстан» ва ўсе спэцыяльныя працы й сусьветныя літаратурныя энцыкляпэдыі і быў выдадзены ў перакладах на розныя мовы ў ЗША, Вялікабрытаніі, Італіі, Сэрбіі й Расеі.

Сэлектыўны падыход да культурнае спадчыны, які на пэўным этапе разьвіцьця нацыянальнае сьведамасьці спрыяў этнічнай кансалідацыі, сёньня прыводзіць да звужэньня культурнага абшару нацыі й да дэфармацыі гарманійных мадэляў суіснаваньня з гістарычнымі суседзямі. Ня раз даводзілася назіраць за літоўскімі ўдзельнікамі розных культурных і навуковых форумаў, якія або імкнуцца ўхіліцца ад якіх бы то ні было дыскусіяў пра культуру ў кантэксьце ВКЛ, прапануючы абмяркоўваць этнічны склад палітычных элітаў, або й проста, пачуўшы магічнае слова «Беларусь», прасторава адмяжоўваюцца ад сваіх польскіх, украінскіх і беларускіх калегаў і замыкаюцца ў глуханямой абароне.

## ЕРМАЛОВІЧ

Пры абмеркаваньні спрэчных гістарычных сюжэтаў вельмі частым літоўскім рытарычным прыёмам бывае перавод гутаркі на Міколу Ермаловіча, прычым робіцца гэта ня толькі ў публіцыстычных выступленьнях, але і ў паважных навуковых артыкулах. Галоўнай фігурай сучаснай беларускай гістарыяграфіі яго выстаўляюць літоўскія прафэсары, габілітаваныя дактары й дэканы гістарычных факультэтаў, робячы пры гэтым выгляд, што не падазраюць аб існаваньні ў Беларусі іншых гісторыкаў. Мне могуць запярэчыць, што Мікола Ермаловіч атрымаў найвышэйшае прызнаньне з боку беларускіх афіцыйных уладаў, атрымаўшы за свае працы дзяржаўную прэмію. Тут варта даць кароткае тлумачэньне. Мікола Ермаловіч — школьны настаўнік, дысыдэнт, рэдактар антысавецкага самвыдаву ў 1970-я гады, амаль зусім сьляпы, выйшаўшы ў 1980-я гады на пэнсію, езьдзіў штодня электрычкай з Маладэчна ў Менск, расчытваў у Нацыянальнай Бібліятэцы старыя летапісы і ствараў свае арыгінальныя тэорыі. Дзеля пэўных прычынаў у Міколы Ермаловіча разьвіліся трывалыя антылітоўскія настроі — перш за ўсё з-за таго, што ў Беларусі расейская імпэрская гістарыяграфічная канцэпцыя ў пытаньнях ВКЛ, якая выстаўлялася як супрацьвага нацыянальнай (антысавецкай, нацыяналістычнай) беларускай, амаль даслоўна супадала з нацыянальнай (антысавецкай, нацыяналістычнай) літоўскай. (Як можна здагадацца, у Літве гэтай апошняй супрацьпастаўлялася расейская імпэрская, якая амаль даслоўна супадала з нацыянальнай беларускай.) Вынікам пошукаў сталіся некалькі працаў, якія беларускімі гісторыкамі ўспрымаюцца як рабочыя гіпотэзы, у адрозьненьне ад літоўскіх гісторыкаў, якія лічаць іх апошнім словам беларускай гістарычнай навукі і такім чынам сьвядома мінімалізуюць саму магчымасьць дыялёгу з гэтай навукай, дыялёгу для літоўскага боку ня надта «зручнага». Што да дзяржаўнай прэміі, прысуджанай у пачатку 90-х, дык яна была хутчэй ацэнкай чалавечага подзьвігу, чым навуковых дасягненьняў.

## МЕЖЫ

Яшчэ адзін пункт разыходжаньня — пытаньне аб этнаграфічных межах. Несумяшчальнасьць беларускай і літоўскай пазыцыі выклікана рознымі часавымі й зьместавымі крытэрыямі вызначэньня гэтых межаў: кожны бок выбірае той крытэрый, які дазваляе як мага далей заглыбіць этнаграфічную мяжу ў тэрыторыю сёньняшняга суседа. Літоўская мяжа на ўсходзе —мяжа пашырэньня першапачатковых каталіцкіх парафіяў, якая пазначае абсяг расьсяленьня жыхароў, якія на момант хросту Літвы захоўвалі паганства ў адрозьненьне ад хрысьціянізаваных некалькі стагодзьдзяў раней усходніх славянаў. Беларуская мяжа на захадзе — мяжа пашырэньня беларускай моўнай асыміляцыі на пачатак XX стагодзьдзя, г. зн. на той момант, калі вясковае насельніцтва яшчэ не было ахопленае масыўнай палянізацыяй і/або русыфікацыяй. Пры гэтым, прымаючы да ўвагі значны ўдзел балцкага субстрату ў этнагенэзе беларусаў, этнічнымі беларусамі лічацца любыя беларусізаваныя балты, незалежна ад часу іх моўнай асыміляцыі — у X або XX ст. З аб'ектыўнага гледзішча праблема дакладнага вызначэньня мяжы практычна невырашальная дзеля дзьвюх прычынаў: 1) няўстойлівай этнічнай сьведамасьці жыхароў «спрэчнай зоны» (сёньня, як ведама, яны без паважных этнагенэтычных падставаў называюць сябе палякамі) і 2) адсутнасьці рэальнага разьмежаваньня ў традыцыйнай матэрыяльнай культуры жыхароў памежжа.

Такім чынам, любую беларуска-літоўскую мяжу можна лічыць геапалітычнай умоўнасьцю, творам двухбаковай канвэнцыі, а да старанна вымаляваных этнаграфічных картаў ставіцца з пэўнай доляй паблажлівасьці. Аднак складальнікі такіх картаў мусяць не забывацца пра маральную адказнасьць і магчымыя наступствы сваёй картаграфічнай творчасьці. Падам пару прыкладаў.

Адзін з аўтараў «Нашай Нівы» ва ўспамінах з часоў Другой сусьветнай вайны апісвае здарэньне, якое адбылося на Лідчыне: літоўскі паліцыянт паставіў да сьценкі купку вяскоўцаў і мерыўся іх расстраляць, бо яны, «зьдзекуючыся зь яго, адмаўляліся прызнацца, што разумеюць па-літоўску». Паліцыянт, добра абазнаны ў геаграфіі, цудоўна ведаў, што згаданыя абшары належаць да літоўскіх этнаграфічных земляў. На шчасьце, выпадковы мінак-віленчук, які ўмеў па-літоўску, своечасова спыніў гэтую трагікамэдыю, растлумачыўшы яму адноснасьць ідэалягічных пастулятаў.

Сьведкам і нават удзельнікам другога выпадку быў я сам: увесну 1990 году, якраз тады, калі Расея абвясьціла Літве эканамічную й палітычную блякаду, у Менску адбываўся пленум Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі, падчас якога мы — група маладых пісьменьнікаў — падалі ў прэзыдыюм пленуму праект рэзалюцыі аб падтрымцы Літвы, які прапанавалі даслаць літоўскім пісьменьнікам. Як толькі рэзалюцыя была зачытаная з трыбуны пленуму, на сцэну выйшаў славуты беларускі літуанафаг Мікола Ермаловіч і паказаў залі гэтую няшчасную карту, дзе межы Літвы сягалі аж за Маладэчна. Рэзалюцыя большасьцю галасоў была адхіленая і прысаромленыя маладыя пісьменьнікі ў знак пратэсту пакінулі залю.

## ЛЕТУВА

Яшчэ адзін баявы літоўска-беларускі эпас — этнанімічная вайна, выкліканая спробамі беларусаў найбольш эфэктыўна вырашыць праблему свайго нацыянальнага назову. На працягу ўсяго пэрыяду разьвіцьця беларускай нацыянальнай ідэі пэўная частка нацыянальна-сьведамага грамадзтва ставіла пад сумнеў правамоцнасьць і мэтазгоднасьць ужываньня саманазову «беларусы»



— тэрміну з «падозранай» канатацыяй, які быў уведзены ў шырокі ўжытак расейскімі ідэолягамі ў XVII-XIX ст. і ўжываўся выключна ў дачыненьні да колішніх Віцебскай, Смаленскай і Магілёўскай губэрняў. Адным з варыянтаў саманазову, які прапанаваўся ў якасьці практычнага выйсьця, быў колішні палітонім — «літвіны», тым больш, што ім ня толькі называлі беларусаў іхныя ўсходнія й паўдзённыя суседзі, а называла сама сябе спалянізаваная беларуская шляхта. (У гэтым сэнсе «Літву» Міцкевіча, Кіркора і Оскара Мілаша трэба шукаць якраз на абшарах сёньняшняй Беларусі.) У нашыя часы такое радыкальнае вырашэньне пытаньня ўяўлялася немэтазгодным, і таму ў беларускіх колах на эміграцыі, а пасьля і ў Беларусі ўзьнікла гэткая схема: пакінуць тэрмін «беларусы» як ёсьць, тэрмін «Літва» захаваць за гістарычнай Літвой, ВКЛ і Літвой Міцкевіча, а каб ураўнаць беларусаў зь сёньняшнімі літоўцамі ў правах на агульную гістарычную спадчыну, зьліквідаваць аманімію тэрмінаў і называць літоўцаў запазычаным зь іхнай жа мовы саманазовам: «летувісы», а сёньняшнюю Літву — «Летувой».

Калі, на агульнай хвалі пурызму й дэсаветызацыі беларускай мовы, гэтыя тэрміны пачалі зьяўляцца ў беларускім друку, зацікаўленая літоўская грамадзкасьць зьвярнула на гэта вельмі эмацыйную ўвагу, у выніку чаго на працягу некалькіх гадоў гэтая праблема стала галоўнай і адзінай тэмай беларуска-літоўскага культурнага дыялёгу. Наймацнейшы ўдар узяла на сябе газэта «Наша Ніва», якая ў 1991-1995 гадох выдавалася ў Вільні. Пасьля атрыманьня шматлікіх парадаў, адозваў, мэмарандумаў і ультыматумаў з боку літоўскіх калегаў, выдаўцы газэты, дзеля непрынцыповасьці праблемы, пастанавілі вярнуцца да «дарэвалюцыйных» тэрмінаў «Літва» й «літоўцы». Больш таго, з мэтай ня толькі разбурыць мур, які ўзьвялі паміж двума народамі аўтары тэрміну «летувісы», але й максымальна зблізіць нашчадкаў ВКЛ, «Наша Ніва» тады ж распачала іншы экспэрымэнт і пачала фіксаваць літоўскія ймёны, карыстаючыся гістарычнымі мадэлямі рэгулярнай трансфармацыі, інакш кажучы, запісваць іх так, як бы іх запісалі аўтары

рыбар...

А вось словы, сэмантыка якіх незразумелая: скок, крыжнак. Зора Кіпель выказвае меркаваньне, што самы блізкі й прымальны сынонім да слова skoki — skopa, г. зн. гібрыд вераб'я ды сокала. Яна кіруецца гукавым падабенствам і прыдатнасьцю сэмантыкі для кантэксту. Што да слова крыжнак, то, думаецца, гэта крыжак, што сьведчыць пра майстэрства беларускага аўтара, які ў адным слове выказаў эмацыйнае стаўленьне да захопнікаў. Зь іншага боку, крыжакі былі і ў Сэрбіі (мы памятаем, што беларуская перапрацоўка зробленая на аснове згубленага сэрбскага пратографа), хоць і вельмі нядоўга. Таму гэтае слова магло быць перанесенае ў беларускую вэрсію яшчэ з сэрбскай. Зрэшты, такое дапушчэньне ніяк не адбіваецца на характарыстыцы здольнасьцяў нашага аўтара, майстра тонкіх псыхалягічных намёкаў. Калі ж зазірнуць у этымалягічны слоўнік, дык атрымаем наступнае тлумачэньне: крыжняк — від шчупака, сасоньнік паміж дзьвюх дарог. Такім чынам, гэта магло быць проста абразьлівае слова. Вось кантэкст: «толко один здрадливыи крыжнак, тот былъ много добылъ здрадою». Аўтар мог назваць так чалавека, які быў такі ж злодзей, як крыжакі; такі ж «здрадлівы», як сасоньнік паміж дзьвюх дарог для вандроўніка, што зьбіўся са шляху: адна дарога прывядзе да людзей, дзе ён ня знойдзе спагады й дапамогі, другая — у дрыгву; які быў з выгляду падобны да шчупака (а потым, гэта ж ён падпільноўваў Трышчана за кляштарам, як шчупак пад калодай цікуе сабе ахвяры). Варта згадаць і сэрбскае слова крижанац — гібрыд... На прыкладзе гэтае лексэмы бачым, што яна й тады была полісэмічнай, што дазваляе яшчэ раз казаць пра высокі ўзровень беларускае мовы XVI-га ст. і пра трапяткое стаўленьне аўтара да свайго роднага слова.

Вяртаючыся да пачатку, адзначу, што склад беларускае лексыкі захаваўся прыкладна на 42%, а гэта азначае, што 58% нацыя разгубіла! Разгубіла на шляху станаўленьня. Гэта непамерныя страты. Нам у спадчыну дастаўся цяжкі, але й пачэсны лёс: ня толькі захаваць, але й адрадзіць да жыцьця, да памяці, рэабілітаваць рэпрэсаваных людзей, думкі, словы. Каб не зрабіцца латафагамі, людзьмі бяз памяці, бяз роду, шэрымі, нічым не адметнымі, «як усе».

**Надзя Старавойтава**

ходжаньня лексыкай. Пры канцы 80-ых — на пачатку 90-ых гадоў форма *каме(э)нтаваць* (*камэнтаваць* — цьвёрдасьць губна-губнога зычнага [м] у заходнеэўрапейскіх з паходжаньня словах — паводле артаэпічных і артаграфічных нормаў новаклясычнай (дарэформавай) беларускай літаратурнай мовы) паступова пашыраецца і ў самой Беларусі: нарматыўнае *каменціраваць* усё часьцей пазбаўляецца не ўласьцівага беларускай мове фарманта *-ір*. Аднак ёсьць падставы пагадзіцца з мовазнаўцам Алесем Каўрусам: у форме *камэнтаваць* часткова губляецца сувязь з назоўнікам *камэнтар* (Полымя. 1991. N 9). Дык жа ёсьць у мове і трэйцяя, адназоўнікавая форма *камэнтараваць*, дзеепрыметнік ад якой знаходзім у Мрыевых «Запісках Самсона Самасуя» (1929): «Факты ўсе ўзяты з жыцьця, але як яны пададзены, як асьветлены, як ілюстраваны і камэнтараваны». Форма *камэнтараваць* здаецца абсалютна заканамернай у сытуацыі, калі асваеньне мовай назоўніка іншамоўнага паходжаньня адбываецца раней за асваеньне аднакаранёвага зь ім дзеяслова. Гэтая беларуская дзеяслоўная форма пераклікаецца з сэрбскай формай, аналягічна ўтворанай ад назоўніка (*коментар ® коментарисати)*. Структурная празрыстасьць, здаецца, прадвызначае жыцьцяздольнасьць формы *камэнтараваць* у беларускай мове.

Такім чынам, апраўданым на сёньня можна лічыць ужываньне двух натуральных на беларускім моўным грунце дзеяслоўных формаў *камэнтараваць* і *камэнтаваць*. Адназначна, нястача фактаграфічнага матэрыялу не дазваляе пакуль больш дэталёва і дакладна прадставіць гісторыю запазычаньня беларускай мовай дзеяслова паходжаньнем з лацінскага *commentari*.

**Юрась Бушлякоў**

# Беларускі палкоўнік Канстанцін Паклонскі

Імя Паклонскага грымела па ўсім Вялікім Княстве Літоўскім. А што мы ведаем пра яго сёньня? Хто ён? Авантурнік? Шукальнік багацьця й славы? Храбры, хітры, жорсткі і крывадушны, як Багдан Хмяльніцкі, ці высакародны рыцар і змагар за ідэю, як Януш Радзівіл? Здаецца, у ягонай постаці дзіўным чынам спалучаліся ўсе гэтыя якасьці. Біяграфія беларускага палкоўніка зьмяшчае шмат чаго, што ня ў стане перадаць скупыя радкі энцыкляпэдычных слоўнікаў. Вайна 1648-67 гадоў. І яе герої...

Канстанцін Вацлаў Паклонскі, ротмістар войска ВКЛ, паходзіў з праваслаўнай беларускай шляхты гербу Сьлепаўрон. Калі нарадзіўся і дзе — невядома. Магчыма, перад тым, як род падпаў пад польскі ўплыў, першым прозьвішчам продкаў было Вадзгір, якое потым стала прыдомкам. Продкі са Жмудзі, пазьней асядаюць у Пінскім павеце, а Канстанцін Паклонскі зьяўляецца ўжо ў Магілёве. З Магілёвам зьвязаная яго бліскучая, хоць і кароткая кар'ера.

Паводле багацьця Магілёў тады не саступаў Вільні й рэальна быў другім горадам Вялікага Княства. Магілёўцы заўсёды праводзяць хітрую палітыку ў дачыненьнях са зьнешнім сьветам і грабуць пад сябе. Адсюль спэцыфічны магілёўскі сэпаратызм, за які ўрэшце прыйшлося цяжка расплочвацца. Ім што Літва, што Маскоўшчына — усё адно, толькі б ня рушылі гарадзкіх вольнасьцяў. Гэтыя рысы места важныя для разуменьня паводзінаў Паклонскага.

Упершыню мы бачым яго на гістарычнай арэне ў чэрвені 1654 году, пад час нападу Маскоўшчыны на Рэч Паспалітую. У Маскве гэты чалавек быў вядомы, як лідэр праваслаўнай партыі, і, здаецца, толькі й чакаў пачатку агрэсіі, каб тут жа пачаць дапамагаць усталёўваць «новы парадак», пра які ні ён, ні тыя, хто быў зь ім, ня мелі рэальных уяўленьняў. Існаваньне пад рукой маскоўскага цара, разам з братаміадзінаверцамі бачылася ў ружовым сьвятле. Ілюзіі пройдуць, але гісторыя паўторыцца. Тыя, хто гэтага не зразумеюць, давядуць краіну да катастрофы 1795 году.

5 ліпеня 1654 году Паклонскі з чатырнаццацю прадстаўнікамі ад шляхты і мяшчанаў Магілёва пакідае горад і прыбывае ў стаўку наказнога гетмана ўкраінскага войска, палкоўніка Нежынскага палка і швагра Хмяльніцкага Івана Залатарэнкі. Казацкі правадыр адсылае перабежчыкаў да свайго кіраўніцтва ў табар пад Багуславам. Хмяльніцкі сустрэў беларусаў з адбымкамі. Гэтай хітрай лісе ўсё адно — што шляхта, што габраі. І тых і другіх ён кідаў у вар і зьдзіраў жыўцом скуру, але прапагандысцкія мэты патрабавалі надзець маску шчырага сябра. Хмяльніцкі добра разумеў значэньне пераходу магілёўскай шляхты, пра што сьведчыць ягоны ліст да Аляксея Міхайлавіча.

«... Пришол к нам в войско шляхтич Константин Юрьевич Поклонский из Литвы, из повета Могилевского — нашие веры православные, за которую и он много пострадал от супостатов наших... Да пожалует его твое царское величество правами и добрами теми, которые он держал первые при королях польских и предки его держали. Изволь твоё царское величество в том сем пожаловать его... дабы великую милость государскую и прочая шляхта поддавалися...»

З гэтым лістом Хмяльніцкі адсылае Паклонскага да цара пад Смаленск. Аляксей Міхайлавіч прыняў перабежчыка на царскую службу ў званьні беларускага палкоўніка і пажалаваў яму 100 рублёў. Удзячны і шчасьлівы Паклонскі хутка набраў войска ў адну тысячу пяхоты й 100 вершнікаў ды 6 жніўня ўзяў Чавусы, а праз тыдзень быў ужо пад мурамі Магілёва разам з арміяй ваяводы Міхаіла Ваейкава. Горад пратрымаўся зусім нядоўга, асабліва дзякуючы ігумену Куцеінскага манастыра Іаілю Труцэвічу, які разбэшчваў і без таго дэмаралізаваных жыхароў сваімі байкамі, вельмі падобнымі на тыя, што распаўсюджвае сёньняшняя пятая калёна. 25 жніўня Ваейкаў піша цару: «... а ляхи, государ, и жиды били челом, чтоб их выпустить совсем из Могилёва в Польшу. Вся чернь за здачу...» Праз тры дні горад капітуляваў.

Войска Паклонскага дасягнула 6 тысячаў, і колькасьцю не саступала ўсёй арміі ВКЛ, пра адраджэньне якой пасьля цяжкіх паразаў аб'явіў Найвышэйшы гетман літоўскі Януш Радзівіл. Беларускі палкоўнік набывае ня толькі ўплыў, але й багацьце. Аляксей Міхайлавіч добра зразумеў прапанову Хмяльніцкага, і дарункі сыплюцца, як з рогу дастатку. У верасьні Паклонскі атрымлівае двор у Магілёве, горад Чавусы, вёскі Баждынічы, Забалоцьце, Ялавое і Старасельле. У лістападзе за ўзяцьце Крычава зноў узнагароды — вёскі Цуцкі, Галачэва і Сьвятазёры.

Яшчэ да ўзяцьця Магілёва ў Паклонскага пачаўся канфлікт з украінскімі казакамі. Залатарэнка гаспадарыць ва Ўсходняй Беларусі, зьнішчаючы і рабуючы ўсё вакол. Паклонскі, дзе толькі можа, выцясьняе казакаў з акупаваных абшараў і не дазваляе ім праводзіць вярбоўку. Магчыма, употай наш авантурнік спадзяваецца вызваліць Беларусь ня толькі ад запарожцаў, але й ад царскіх ваяводаў, бо пачаў заўважаць што маскоўскае панаваньне — зусім ня тое, што ён сабе ўяўляў раней. З ілюзіямі расставацца цяжка, і далей ён толькі падманвае сябе ды спрабуе супакоіць сумленьне.

Залатарэнка стаў Паклонскаму, як костка ў горле. Ня вельмі разьлічваючы на свае сілы, беларускі палкоўнік засыпае Аляксея Міхайлавіча лістамі, у якіх піша, што: «Золоторёнок на меня гневается, что есть вашей царской милости без кровопролития место Могилёв и место Чаусы с иными силами до того привратил; написал бы до него, чтоб до меня дела не имел, и моих бы казаков к себе не принимал и не вступался в уряд Могилёвский и Чауский».

Да Паклонскага даходзяць чуткі, што нежынскі палкоўнік зьбіраецца яго забіць. Прыходзіцца зноў пісаць да цара, каб даслаў ратных людзей для аховы, бо са сваім войскам цяжкасьці — Залатарэнка ня толькі праводзіць вярбоўку ў Беларусі, але яшчэ пагрозамі прымушае казакаў Паклонскага пераходзіць на свой бок. Ды й наогул, па Магілёўшчыне стала небясьпечна езьдзіць — вакол залатарэнкаўскія засады. Дайшло да таго, што Паклонскі забараніў магілёўскім купцам пад пагрозай сьмерці ўсялякія зносіны з Запароскай Сечай. Цяпер яму прыходзіцца змагацца на два фронты. Ад верных людзей ён атрымлівае сьпісак зь ліста свайго былога пратэктара Хмяльніцкага: «Понеже тот Поклончик не отзываецца запорожским казакам и до твоего полку не хочет смириться, чтоб о нём промышлял, хотя ко мне отошли, или так ево как ни есть изведи; а что ни есть имеет, от нас имеет...»

Пад конец 1654 году Паклонскі ўсё ж здолеў выцісНуць Залатарэнку з Магілёўшчыны. Настала чарга маскоўскіх стральцоў. Дзяржаўны акольнічы Іван Алфер'еў у адпісцы ад 1 сьнежня паведамляе, што казакі Паклонскага б'юць «государевых людей». Паклонскі са свайго боку сутыкненьні з маскоўцамі падаваў проста як асобныя непаразуменьні, таму гэта сыходзіла яму з рук.

У студзені 1655 г. Януш Радзівіл вырашыў узяць рэванш ды рушыў на Магілёў. Паклонскі пасьля некалькіх нязначных сутычак з войскамі ВКЛ, даведаўшыся пра гэта, таксама пасьпяшаўся ў горад. Хто такі Найвышэйшы гетман, ведалі ўсе. Хворы й фізычна слабы, ён са сваім палкаводчым геніем мог супрацьстаяць тысячам здаровых і магутных ворагаў. Таму магілёўцы, якія яшчэ ў поўнай меры ня зьведалі прывабнасьцяў новага рэжыму, але й дабра не пабачылі, пачалі зноў падумываць: што больш карыснае? Змагацца ці здацца? Паклонскі ўпэўнены: трапіць да «сваіх» — абыйдуцца як са здраднікам, таму, падмацаваўшы свае довады дзідамі казакаў, ён прымушае жыхароў рыхтавацца да абароны.

Перад прыходам Януша Радзівіла пад Магілёвам адбываецца трагедыя, галоўным выканаўцам якой быў Паклонскі. Звычайна падаецца, што ён яшчэ быў аўтарам і натхняльнікам, як, напрыклад, у грунтоўным і салідным «Польскім слоўніку біяграфічным»: «... схіляў мяшчанаў выгнаць з горада ўсіх габраяў, якіх абвінавацілў у супрацоўніцтве зь ліцьвінамі. Частку зь іх загадаў зьнішчыць і абрабаваць, частку прымусіў прыняць праваслаўе».

Я не зьбіраюся выступаць у ролі адвоката беларускага палкоўніка. Папросту факты, якія мы ведаем, дазваляюць некалькі па-іншаму паглядзець на ролю Паклонскага ў той справе. Акрамя таго, трагедыю магілёўскіх габраяў трэба разглядаць у кантэксьце генацыду габраяў, які распачаў у 1648 годзе на ўсходзе і поўдні Рэчы Паспалітай Багдан Хмяльніцкі. Таму, каб лепш зразумець месца Паклонскага ў тых падзеях, трэба адхіліцца ад тэмы ды коратка закрануць месца габраяў у Рэчы Паспалітай, іх адносіны з астатнім насельніцтвам.

З часоў Жыгімонта II Старога пачынаецца моцны прыток габраяў у Карону і Вялікае Княства. Кароль і шляхта вельмі зацікаўленыя ў імпарце габрайскіх капіталаў і робяць для іх спрыяльныя ўмовы існаваньня. Да вайны 1648-67 г. габраі жылі ў Рэчы Паспалітай бясьпечна, як нідзе ў Эўропе. Рэлігійная талеранцыя і прагрэсіўныя законы адчынялі вялікія магчымасьці. Шляхта, натуральна, дыктавала ўмовы, але мяшчане й сялянства пры падтрымцы духавенства былі большасьцю, тым асяродзьдзем, у якім даводзілася жыць габраям і якое ня мела да іх аніякай сымпатыі. Калі ў Заходняй Эўропе буржуазія паступова пачынала цясьніць арыстакратыю, браць гандаль у свае рукі, дык у нас усё было наадварот. У барацьбе са шляхтай мяшчане ўвесь час церпяць паразы. Эканоміка, гандаль кантралююцца габраямі — як прадстаўнікамі шляхты, як пасярэднікамі паміж шляхтай і астатнім насельніцтвам. Ліхвярствам, якое лічылася хрысьціянамі самай «бруднай» справаю,

Працяг на старонцы 10.

Працяг са старонкі 9.

# Беларускі палкоўнік Канстанцін Паклонскі

таксама займаюцца пераважна габраі. З габраямі мяшчанам было змагацца лягчэй і прасьцей, чым са шляхтаю — бо ўсе яны, пад бокам, ды й касьцёл падтрымлівае.

Другая вялікая група, зь якой сутыкнулася габрайства —казацтва. Як пісаў прафэсар Брэслаўскага ўнівэрсітэту Генрых Грэц: «У гнюсным асьляпленьні... габраі палічылі магчымым зьявіцца саўдзельнікамі ды памагатымі шляхты й езуітаў у справе заняволеньня казакаў... Магнаты прагнулі пераўтварыць вольных казакаў у сваіх прыгонных, езуіты — зьвярнуць праваслаўных у рыма-каталікоў, а габраі, якія жылі ў тых мясцовасьцях, — пры гэтым выпадку абагаціцца і разыгрываць ролю паноў у адносінах да гэтых парыяў. Яны давалі ўладарам калёніяў казакаў парады, як прыгнятаць, прыціскаць, зьнявольваць апошніх, разыгрывалі ролю судзьдзяў над імі, абражалі іх у царкоўных справах. Няма нічога дзіўнага ў тым, што зьняволеныя казакі ненавідзелі габраяў яшчэ больш, чым памешчыкаў і ксяндзоў, бо ім прыходзілася больш за ўсё сутыкацца з габраямі... Крывавая адплата не запаволіла наступіць і абрушылася як на віноўных, так і на бязьвінных, на апошніх, магчыма, мацней, чым на першых».

Выбух грымнуў у страшным 1648 годзе. Увесь поўдзень і ўсход Рэчы Паспалітай апынуўся ў полымі грамадзянскай вайны. У тым жа 1648 годзе памёр кароль Уладзіслаў, якога Хмяльніцкі яшчэ неяк шанаваў. На працягу колькіх месяцаў, як гэта звычайна бывала ў такіх выпадках, наступіла міжкаралеўе, а папросту — анархія. Краіну паралізавала. Спачатку Хмяльніцкі адступіў, выказваючы жаданьне весьці перамовы з Каронай, але ў той жа час даў дазвол сваім падначаленым спусташаць край. Ствараліся сапраўдныя банды гайдамакаў (тат. — партызан) пад кіраўніцтвам такіх канібалаў і садыстаў як Крыванос, Ходкій, Ганя, Нябаба, Маразенка ды іншых, постаці якіх былі пазьней раманізаваныя й гераізаваныя ў савецкай гістарыяграфіі.

З габраямі ў Хмяльніцкага былі свае ўласныя рахункі. Адзін пазбавіў яго маёмасьці ды жонкі, другі данёс на яго, калі ён увайшоў у зносіны з татарамі. Дзень 10 ліпеня 1648 году стаўся чырвоным ад крыві — у гэты дзень было цалкам высечанае габрайскае насельніцтва цэлых гарадоў і мястэчак Рэчы Паспалітай. Натан Гановэр, заслаўскі габрай, якому ўдалося вырвацца з таго пекла, у 1653 годзе ў Вэнэцыі надрукаваў кроніку «Дрыгва глыбокая ці Дрыгва казацкая». Са старонак кнігі вее ледзяным жахам. З адных зьдзіралі жыўцом скуру і кідалі сабакам, іншым адсякалі рукі й ногі, а целы кідалі на шляхі, цяжарным жанчынам успорвалі жываты, дзяцей секлі на кавалкі, як рыбу, ці насаджвалі на вяршалы і, засмажыўшы на агню, прымушалі матак есьці іх мяса...

Мяшчаньне Магілёва былі самымі звычайнымі антысэмітамі, праўда, у адрозьненьне ад казацкай вольніцы, іх можна было б назваць гэткімі рэспэктабэльнымі бюргерамі, якія не хацелі, ці ім духу не хапала апусьціцца да пагромаў. Таму габраяў ніхто не чапаў ні ў 1648-м, ні ў наступныя гады. Маючы некаторыя ўяўленьні аб казаках, няцяжка здагадацца, што было б з магілёўскімі габраямі адразу ж пасьля ўваходу ў горад жаўнераў Паклонскага. Але не здараецца нічога, і гэта нягледзячы на ўказ Аляксея Міхайлавіча пра высяленьне габраяў з Магілёва. Мяшчанства не дае Паклонскаму праходу: «Збаў нас ад габраяў!» Той абяцае, а далей справа ня йдзе. Ці лянота яму была, ці рукі не даходзілі, ці яшчэ штосьці...

Паход Януша Радзівіла ў Магілёў прымусіў Паклонскага вырашаць габрайскае пытаньне. Падставай для высяленьня габраяў з горада была ня толькі незадаволенасьць мяшчанаў, але яшчэ й ваенная неабходнасьць. Лічылася, што «вялікае мнагалюдзтва» будзе перашкаджаць абароне. Час быў ваенны, расправа кароткая, а тут яшчэ дайшлі весткі, што габраі супрацоўнічаюць з Радзівілам. Вось тут іх, як здраднікаў, вывелі за горад і



перабілі. Некаторыя габраі ўсё ж захавалі жыцьцё, прыняўшы праваслаўе (ненадоўга).

У пачатку 1655 году Януш Радзівіл пачаў аблогу, якой вельмі перашкаджалі моцныя маразы, дрэннае забесьпячэньне і хвароба гетмана. Каб пазьбегнуць крывапраліцьця, Радзівіл дасылае Паклонскаму ліст з прапановай перайсьці на бок Бацькаўшчыны, на што атрымлівае згоду. Незадоўга перад тым беларускі палкоўнік атрымаў Вялейку, Лазараўку і Заходы, але гэта ўжо ня мела аніякага значэньня. Маскоўскія парадкі аказаліся ня чым іншым, як сапраўднай азіяцкай дэспатыяй. Не аднойчы ў яго сьціскала горла, калі ён прыгадваў эўрапейскую дэмакратыю Рэчы Паспалітай. Ён, які схіляў галаву толькі перад Богам, так і ня змог прымусіць называць сябе царскім халопам. Нагледзеўся ён і на самадурства маскоўскіх ваяводаў. Ужо пасьля вяртаньня да сваіх у лісьце ад 24 сакавіка 1655 году да свайго заклятага ворага Залатарэнкі Паклонскі напіша: «Я хотя имелся и добре у царя его милости, однако смотря на неволю трудно было, не только мирских, но и духовных наших забрали в неволю, и в лучшей волносци за ляхами пребывали если, нежели ныне живут наши. А что моё око видело, какие безделья над честными женами и девицами чинили, чего вяще отмщением будет Господь Бог сам...»

Маскоўскія войскі сур'ёзна заграззьлі ў Рэчы Паспалітай. Бліцкрыгу не атрымалася, а надзеі Паклонскага на стварэньне на акупаваных абшарах аўтаномнай рэспублікі пад ягоным кіраўніцтвам, дзе паважаліся б шляхецкія вольнасьці, аказаліся нерэальнымі. Наўрад ці ён перайшоў толькі з-за ваенных няўдач Маскоўшчыны.

Калі Паклонскі зразумеў, што яму няма месца ні на Бацькаўшчыне, ні ў Маскоўшчыне, ён нават падумваў паехаць у Кіеў і стаць законьнікам. Ліст ад Радзівіла вяртаў надзею на дараваньне. 5 лютага 1655 году пад час аднаго з прыступаў Паклонскі на чале 400 чалавек магілёўскай і іншай шляхты вяртаецца да суайчыньнікаў. Частка маскоўцаў трапіла ў пастку і была перабітая — «государевых» людзей з трыста ды казакаў з тысячу.

Глыбінныя матывы ўчынкаў Паклонскага нікога ў той неспакойны час не цікавілі — ні магілёўцаў, ні тым больш казакаў. Таму новыя яго заклікі пераходзіць на бок Рэчы Паспалітай ня мелі вынікаў. Для іх ён быў перабежчыкам, а цяпер стаў здраднікам удвая.

Трохі ўмацаваўшыся, войска Радзівіла зрабіла яшчэ некалькі марных спробаў вярнуць Магілёў і 10 красавіка вымушанае было адступіць. Магілёўцы перахітрылі самі сабе — зьберагглі горад дзеля таго, каб сем гадоў цярпець ад маскоўскай залогі.

Паклонскі, маючы патрэбу апраўдвацца ня толькі перад сваімі, але й перад супрацьлеглым бокам, піша да аднаго з маскоўскіх саноўнікаў. Да нас дайшоў урывак зь ліста, датаванага, магчыма, сакавіком 1655 году. У гэтым лісьце палкоўнік спасылаецца на небясьпеку царскай няміласьці і выхад з абложанага гораду матывуе тым, што выратаваў многіх мяшчанаў ад царскага мяча. «... И о едином коне на ночь за Днепр выехал; ажно в ночи заскочили меня от войска литовского. Бога моево благодаря, что не убит, угодил Господь Бог завистливым людям, што радуются, что есть всего того не взял угодил и мне, всё что имел от царя его милости назад возвратилось и не есть там долею обязан благодеянием».

Пасьля адыходу войскаў ВКЛ ад Магілёва Паклонскі яшчэ некаторы час самастойна дзейнічае са сваімі вандаламі ва Ўсходняй Беларусі. Але Бацькаўшчына даравала. На Сойме 19 траўня 1655 году Паклонскаму разам з «шляхтай, якая зь ім назад павярнула», былі нададзеныя грамадзянскія правы. Як пісаў Урускі ў сваім «Гербоўніку»: «Канстанцін — вярнуўся пад харугвы Бацькаўшчыны і адзначыўся рыцарскай доблесьцю».

Пакуль войскі Літвы й Кароны мужна стрымлівалі ў шмат разоў большыя сілы Масквы, швэдзкі кароль Карл-Густаў нанес удар у сьпіну. У чэрвені 1655 году фэльдмаршалы Вітэмбэрг і Кёнігсмарк пачалі імклівы рэйд у глыбіню краіны. Швэды хлынулі з поўначы на поўдзень імклівым патокам, які ўжо немагчыма было стрымаць. Гэты пэрыяд у гісторыі Рэчы Паспалітай мае вобразную назву — Патоп. Маскоўцы, атрымаўшы нечаканую падтрымку, 8 жніўня ўваходзяць у Вільню, учыніўшы дзікую разьню. Помста за 1612 год была жахлівай — горад гарэў 17 дзён. Палова жыхароў загінула ад агню і мяча.

Ваеннае шчасьце адвярнулася й ад Паклонскага. У тым жа месяцы ён цэрпіць паразу пад Барысавам ад ваяводы Барацінскага, у жніўні пад Койданавам, і нарэшце, ягоны аддзел быў дашчэнту разьбіты Залатарэнкам пад Ашмянамі. Але нежынскі палкоўнік —жорсткі гвалтаўнік беларускага народу, нядоўга будзе сьвяткаваць перамогу — увосені ён загіне ад кулі ў нагу пад час аблогі Старога Быхава.

Пасьля бітвы пад Вільняй Паклонскі разам са сваім дабрадзеем Янушам Радзівілам падаўся ў Кейданы. Радзівіл зь дзьвюх бедаў выбірае меншую — швэдаў. У Кейданах 18 жніўня ён падпісвае пагадненьне, аддаючы Рэч Паспалітую пад пратэктарат Карла-Густава. Спроба выратаваць краіну абарочваецца абвінавачаньнем у здрадзе. Аўтарытэт гетмана сярод шляхты падае. Калі ён з 1500 войска пайшоў з Кейданаў на Вільню, усе жаўнеры разьбегліся ад яго. Паход да Варшавы таксама ня ўдаўся. 31 сьнежня 1655 г. ён памёр у Тыкоцінскай крэпасьці, абложанай войскамі Паўла Сапегі.

Паклонскі разьвітваецца з гетманам яшчэ ў першай палове кастрычніка. У складзе вялікай групы войска ВКЛ ён ідзе ў Прусію, дзе быў завэрбаваны ў армію электара Фрыдрыха-Вільгельма. Не мінула й году, як прыйшлося вярнуцца на Бацькаўшчыну, бо электар здрадзіў Рэчы Паспалітай. У адказ Паклонскі прымае ўдзел у паходзе на Прусію, які арганізаваў Вінцэнт Гансеўскі. 22 кастрычніка 1656 году Паклонскі бярэ ўдзел у бітве са швэдамі, якую ліцьвіны прайгралі, а палкоўнік трапіў у палон і быў кінуты ў Мальборскую крэпасьць. Калі яго выпусьцілі, дакладна невядома. Яшчэ ў 1658 годзе ён знаходзіўся ў швэдаў, спадзеючыся на хуткую свабоду — калі будуць абменьваць палонных.

Паводле «Польскага біяграфічнага слоўніка», пасьля палону кар'ера беларускага палкоўніка скончылася, бо на ваенную службу ён больш не вярнуўся. Але захавалася перапіска Паклонскага з каралём Янам Казімерам, зь якой мы даведваемся, што гэта зусім ня так. У лісьце ад 6 траўня 1660 году кароль дае яму дазвол на фармаваньне за грошы дзяржаўнага скарбу палка. Паклонскі адказвае 27 ліпеня ў абозе пад Пачапавам, што ён лічыць за лепшае ў час, калі Бацькаўшчына гіне (ipro patria qvam patria mori), выдаткаваць чвэрць сваіх уласных сродкаў, каб са скарбу грошай ня браць. А 2 жніўня заклікае зьбірацца пад яго каманду ахвотнікаў, узброеных па-райтарску, драгунску і казацку, каб дзейнічаць у Беларусі, дзе ён абяцае замест грошай са скарбу багатую здабычу. На той дзень ён меў 8 харугваў пяхоты і 10 кавалерыі, якія былі сфармаваныя за ягоны ўласны рахунак, забясьпечаныя конямі і стрэльбамі*.

Хоць Паклонскі і кунуў Януша Радзівіла ў цяжкую хвіліну, у віну яму гэта ня ставілася, што пацьвярджае жонка нябожчыка гетмана Марыя Лупу, гаспадарыня малдаўская, у тэстамэнце ад 1661 году: «... таксама... староства Быстрыцкага ЯМці пану Вацлаву Канстанціну Паклонскаму — палкоўніку ЯМці, якому рэспэктам заслуг яго годнай памяці князю ЯМці майму мужу і дабрадзею майму нямалы час ім аддадзеных...» Тады, магчыма, Паклонскі й атрымаў даўгачаканы спакой — кароткі перадых перад Вечным супакоем.

Ён памёр перад 1663 г. Да заканчэньня вайны заставалася яшчэ чатыры гады...

**Андрэй Шпунт**

**Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Фонд 1733, вопіс 1, справа 1, арк. 315-318.*

інфармацыйнае забеспячэньне
Belorusian Public Relations Association

# ІНФАРМАТАР

## Бясплатныя прыватныя абвесткі



Малады чалавек (21 год) шукае прывабную беларусачку да 20 гадоў. 222310, г. Маладэчна-7, а/с 8. Сяргею

Перакладчыца польскай мовы шукае працу, дзяўчына-філёляг (в/а, з/п). Тэл.: 278-22-03, Алена

Котачку маладзенькую, 3-колернага акрасу, пераможцу выставы, з дыплёмам, у добрыя рукі перадамо. Тэл.: 258-83-38 у любы час

Танна прадаю кампутар «Commandor» б/в з тэкставым рэдактарам. Тэл.: 63-24-03

Прадам слоікі шкляныя (3 л, 1 л, 0,5 л). Тэл.: 63-24-03

Фартэпіяна, сальфэджыо, тэорыя музыкі, вакал. Тэл.: 221-24-81

Вышлем расклад Беларускае сэкцыі Польскага радыё ўсім ахвотным Ю.К., а/с 5, Віцебск, 210038

Шукаю працу перакладчыка ангельскай мовы. Тэл.: 271-49-78

Ксэракапіяваньне, выгадна, апэратыўна. Тэл.: 253-92-26

Праца дома, ад 150$ у месяц. Капэрта са зв/а + купон б/а. 220073, Менск, а/с 26

Цікавыя зьвесткі пра лацінку: «Наша Слова» (1995, №50 (+ №51), «Наша Ніва» №36, «Свободные новости-плюс (№5, 1996, с. 12), «Амстэрдамец...». Менск-123, а/с 71

Мяняю «Старажытная Беларусь» М.Ермаловіча на «Уладары Вялікага княства» В.Чаропкі. Тэл.: 5-78-95 (Вялейка). Грынцэвіч Сяргей

Прадам кампутар ЕС1841 (640 Kb/21 Mb/FDD 720 Kb/мыш). Тэл. у Гомелі: 54-75-63, Віктар

Хлопец Максім! Калі ты не знаходзіш сябра паводле арыентацыі, прытым патрыёта сярод чытачоў «НН», шлі абвесткі ў газэты на бел. мове з большым накладам («Пагоня», «Звязда»)

«Наша (дарагая) Ніва»! Ну няўжо на купоне памерам 4,6х6,6 можна засунуць пятнаццаць словаў?

Пазнаёмлюся з прадпрымальнікам для пастаўкі на рэалізацыю зак. бляш. накрывак і плястмас. посуду. Наяўны разьлік. Дзякевіч Зыгмунд Часлававіч. 231390 Воранаўскі р-н, г.п. Радунь, в. Пянценішкі

Прыму ў падарунак №182 газэты «Выбар». Загадзя ўдзячны. Перасылка пры жаданьні за мой кошт. Віталь. 220066, Менск, вул. Ташкенцкая, 20-3-27



# Вучоба ў Вільні



Віленскі пэдагагічны ўнівэрсытэт на конкурсных падставах набірае студэнтаў на 1 курс факультэта славістыкі на спэцыяльнасьці:
беларуская мова, літаратура і гісторыя культуры;
беларуская і расейская мовы і літаратуры;
беларуская і польская мовы і літаратуры.

Навучаньне платнае.

Форма навучаньня: дзённая (4 г.), завочная (5 г.).

Прыём дакумэнтаў з 25.08.1997 да 01.09.1997.

1. Атэстат (арыгінал) альбо дыплём вышэйшае школы (выпіска).
2. Мэдычная даведка.
3. 4 фотакарткі (3х4)
4. Пашпарт.
5. Выпіска з працоўнае кніжкі (калі ёсьць).

Уступны іспыт — тэсты па беларускай мове.

Па даведкі, калі ласка, зьвяртацца на адрас:
Катэдра беларусістыкі ВПУ
Studentų, 39-527
Vilnius 2034
Lietuva
Тэл. у Вільні: 8-0122-725801, факс: 8-0122-260317. Тэл. у Менску: 8-0172-598563.

# Рок-стыхія на Купальле

Той, хто сьцьвярджае, быццам беларусы — нацыя ціхнякая і статычная, моцна памыляюцца: браткі-беларусы існуюць толькі ў дзеяньні. Прынамсі, маладая іх частка. Інакш як патлумачыць тое, што вясновыя палітычныя акцыі імкліва перараслі ў летнія музычныя, на якія багатым стаўся чэрвень. Вось і 23-га мінулага месяца ў парку імя пралетарскага пісьменьніка Горкага адбыўся традыцыйны «Рок-фэст на Купальле». Арганізатарамі мерапрыемства выступілі газэта «Беларуская маладзёжная» і «Малады фронт». Апошні яшчэ раз засьведчыў, што толькі малады арганізатарскі задор можа зрабіць з шараговай акцыі сапраўднае сьвята.

Для ўсіх гэты фэст быў адмысловым: ці не ўпершыню (!) у Менску на адкрытай пляцоўцы выступілі толькі беларускамоўныя каманды, прычым ня толькі такія гіганты, як «Новае Неба», «N.R.M.», «Уліс» ды «Крама», але й пакуль малавядомыя шырокай публіцы «Вэтэран Скрэпэр», «Зьніч». Пэўнай сэнсацыяй стаў «Жыгімонт Ваза», якому сёлета споўнілася дзесяць гадоў і пра існаваньне якога многія проста ня ведалі. Хлопцы вырашылі скасаваць такую несправядлівасьць, а іх кампазыцыі ўспрымаліся публікай проста выдатна. Тое ж можна сказаць пра «Гай», які грае мэлядычны рок.

Канфузам як для слухачоў, так і для самога Алена быў ягоны выступ, які яскрава засьведчыў: на нашай сцэне рок і поп зьявы абсалютна несумяшчальныя. Можна ўявіць сабе рэакцыю маладых і недасьведчаных у этыкеце нефармалаў, якія складалі асноўную частку слухачоў, на заклікі Алена сьпяваць разам зь ім. Такі нумар мог прайсьці толькі ў А.Саладухі зь яго сталай і ўраўнаважанай у музычных густах публікай, але зусім ня тут, дзе скрозь панавалі рок, каханьне і піва. Дарэчы ўзгадаць пра апошні напой. Падчас правядзеньня канцэрту была заўважаная купка маладых людзей, якія аднекуль прыносілі фантастычную колькасьць піва і раздавалі ўдзельнікам-гуртам, чым выклікалі горкую зайздрасьць ва ўсіх слухачоў. Праўда, гэты эпізод ня так сапсаваў усім настрой, як тое надвор'е, якое начакана перарасло ў страшэнную некіраваную стыхію і перашкодзіла выступіць «Ліцьвінам» і «Краме». Толькі й моладзь, як мы ведаем, можа стаць стыхіяй, якою цяжка кіраваць: на ўсе заклікі арганізатараў разысьціся, пакуль дождж не нашкодзіў здароўю маладых арганізмаў, тыя арганізмы ў тысячы глотак раўлі «Яшчэ»: «Моладзь хоча рок-н-ролу». Але дождж не сьціхаў і публіка вымушаная была кіравацца да выйсьця, дзе яе сустракаў аўтобус амону і пустыя «казлы», якія так і не напоўніліся маладымі «экстрэмістамі»; узяла ў той дзень міліцыя толькі аднаго п'янога зюзіка, які за гэта на наступны ранак быў ёй проста ўдзячны.

А 24-га ў газэтах зьявіліся артыкулы пра шкоду, што нанесла надвор'е. Ды й гэта натуральна: на Купальле нячысьцікі і не такое могуць утвараць.

**Сяргей Сахараў, Віталь Супрановіч**

# Дакумэнты ТБМ

Паважаныя суайчыньнікі, а таксама грамадзяне іншых краінаў, каму неабыякавы лёс беларускай мовы і культуры!

Наша краіна перажывае нялёгкі час. Нацыянальнае адраджэньне, якое шырока разгарнулася ў канцы 80-х гадоў і ў пачатку 90-х гадоў, сустрэла моцны супраціў з боку антыбеларускіх сілаў. Масава зачыняюцца беларускія школы і клясы, ліквідуюцца беларускамоўныя выданьні і выдавецтвы. Былі выпадкі, калі людзей на вуліцах арыштоўвалі за тое, што яны размаўлялі па-беларуску.

У гэтых умовах Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны зьяўляецца адзінай грамадзкай, некамэрцыйнай, непалітычнай арганізацыяй, якая бароніць ўсё беларускае.

Цяпер наша арганізацыя трапіла ў выключна цяжкае матэрыяльнае становішча. Спыненае фінансаваньне газэты «Наша слова», арэндная плата за памяшканьне Таварыства павялічаная ў 10 разоў, доўгі час быў адключаны тэлефон. Мы ня можам знайсьці сродкаў на выданьне матэрыялаў навуковай канфэрэнцыі «Дыскрымінацыя беларускай мовы». Але ТБМ не здаецца. На апошнім, V зьезьдзе выбрана новае кіраўніцтва, якое шукае выйсьця з гэтага становішча, што склалася не па віне арганізацыі.

Мы зьвяртаемся да Вас з просьбай аказаць Таварыству разавую матэрыяльную падтрымку.

Загадзя ўдзячныя ўсім прадпрыемствам, установам, арганізацыям, рухам і партыям, а таксама асобным грамадзянам, якія адгукнуцца на нашу просьбу.

Сьпісы ахвярадаўцаў на іх жаданьні будуць надрукаваныя.

Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

**Разьліковы рахунак 3015212330014, код 764 у Гардырэкцыі Белбізнэсбанка г. Менска. Тэл.: 2-33-25-11. 220005, Менск, вул. Румянцава, 13 ТБМ.**

# Заява

## Сакратарыяту Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

Распараджэньнем №182-рп Прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнка, сярод іншых, перадаў у апэратыўнае падпарадкаваньне Кіраўніцтва справамі Прэзыдэнта будынак Беларускага гуманітарнага ліцэя. Свайго абжытага памяшканьня пазбаўляецца адзіная ў сталіцы краіны беларускамоўная сярэдняя навучальная ўстанова.

Мы далучаем да гнеўнага голасу дэмакратычнай грамадзкасьці свой рашучы пратэст супраць самавольства ўладаў, супраць яшчэ аднаго ўдару па прыхільніках і працаўніках роднай мовы. Ліцэй быў створаны ў адпаведнасьці з урадавай пастановай для паглыбленага вывучэньня беларускай мовы, літаратуры, гісторыі і культуры і дасягнуў відавочных, агульнапрызнаных посьпехаў у навучаньні і выхаваньні таленавітай моладзі. Спрыяньне яго дзейнасьці — абавязак нацыянальнай дзяржавы. Рашэньне ж кіраўніцтва краіны, рэпрэсіўныя меры ў адносінах да пратэстаў бацькоў і навучэнцаў, прынятыя праваахоўчымі органамі з характэрнымі для іх жорсткасьцю і фармалізмам, уносяць разлад у грамадзтва, дэманструюць усяму сьвету небясьпечнае разыходжаньне паміж прыгожымі дэкларацыямі і абяцанкамі вышэйшых уладаў і іх рэальнымі, канкрэтнымі справамі.

Мы падтрымліваем пазыцыю пэдагогаў, бацькоў і навучэнцаў Беларускага гуманітарнага ліцэя, лічым, што ён павінен працягваць сваю высакародную працу ў будынку, які належыць яму паводле законнага права, і заклікаем настаўніцтва, творчую і навуковую інтэлігенцыю, прафсаюзы, міжнародную супольнасьць запатрабаваць адмены распараджэньня №182-рп.

Дзяржаўная беларуская мова павінна мець на зямлі Беларусі ўсе ўмовы для росквіту і разьвіцьця!

Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

*18 ліпеня 1997 г.*

## КУПОН

**Бясплатнай прыватнай абвесткі**

*Тэкст:* ..................................................

*Імя і прозьвішча* ..................................................

*Адрас, тэлефон* ..................................................

Залоўніце гэты купон і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў)

*220123, Менск, а/с 71*

# ЭПІКОН

## Генадзь Драгун

### НЯДОБРЫЯ ЎСПАМІНЫ

Здараецца ж такое. Жывеш сабе, жывеш. Нават, можна сказаць, жывеш няблага, усё добра, праблемаў няма. Тут раптам разумееш, што ты забыўся прачнуцца ў тую далёкую і пахмурную раніцу. Ня тое, што прачнуцца своечасова, а проста прачнуцца. Такія вось вельмі нядобрыя ўспаміны.

## Аліна Калесьнік

### КАЗКА ПРА ВУСЕНЯ-САРАКАНОГА

Жыў-быў вусень-сараканог. Ён вельмі спрытна поўзаў па сьцяблінках і травінках, і такі ганаровы быў: «Ось! Колькі ног маю! — багатыр!» — нават з коніка сьмяяўся: «Ха-ха!» — казаў: «Ты, конік — недарэка — і ног у цябе мала і лётаеш ты ня вельмі як высока! Я вось лічу: калі поўзаць, дык поўзаць, калі лётаць — дык лётаць!»

Але аднойчы адна шэрая тля, якой надакучыў гэты вусень-хвалько сказала: «Ты такі прыгажун, вусень, такі разумнік! Як ты спраўляесься з такой колькасьцю ног?»

«О! Вельмі проста!» — ўсклікнуў вусень. Спачатку 1-я нага, потым — 2-я, 3-я... Ой! — нешта не атрымліваецца!»

Стаіць вусень і кроку ступіць ня можа. Стаяў, стаяў і —закукліўся. Думаў, думаў, у сваёй куклі. «Як яму хадзіць маючы 40 ног?» — ды так і ня ўспомніў.

Але ад гэтых складаных думак вырасьлі ў яго крылы і стаў ён матыльком.

І ўжо больш не хваліўся, бо хоць ног у яго і стала менш, але розуму стала намно-о-ога больш!

## Сяргей Конан

### У ПЕКЛЕ

За некалькі дзясяткаў тысячаў кілямэтраў ад мяне ёсьць краіна.

Прыгожы жоўты дом, нешырокія вокны, дзьверы, калідор, белыя халаты. Людзі зь непаразумеласьцю на тварах сноўдаюць па калідоры. Пакоі на чатыры чалавекі, але ёсьць там асобнае памяшканьне для аднаго чалавека. Ён сядзіць перад люстэркам і ледзьве рухае вуснамі. Мы ўбіваемся ў яго розум і сочым за думкамі.

Пустое, усё пустое. Навакольле, дні, творы, словы, думкі. Сёньня, заўтра ня маюць сэнсу. Яны проста дабіваюць маю істоту, робячы мяне ўсё меншым і меншым, і хутка я стану незаўважным. Быў — ня быў. Ужо зараз я ня веру, што ўсё ранейшае было са мною: выступы, усьмешкі, адчуваньне радасьці ад прамоваў. Сёньня пустыя вочы суседзяў, нават няма каму сказаць аб сваіх думках. Усе палохаюцца, адыходзяць, моршчацца, быццам ад нечага гідкага. Дайшло да таго, што нават у люстэрку бачу пустыя вочы, а раней яны былі апорай тысячам, мільёнам. Усе любілі слухаць мяне і я аддаваў усяго сябе ім, да апошняе кроплі. Я клапаціўся аб іх, робячы ўсё магчымае. Працаваў дзень і ноч, а ім было мала, яны жэрлі і хацелі ўсё больш. Не маглі патрываць, забыцца на час аб сваіх страўніках. А гэтыя ненавісныя мне твары, што хочуць маёй пагібелі? Я бачу, як ідуць яны па вуліцы са сьцягамі, паходнямі і разяўляюць свае брыдкія раты, каб словам прынізіць мяне. Мне тады станавілася страшна і таму я хаваўся за сьценамі, за плячыма сваіх хлопцаў. Зрабіўшы іх людзьмі, даўшы ім добры заробак, апрануўшы, трымаў іх чыстымі і сытымі дзеля таго, каб быць спакойным, што мяне будуць берагчы і ахоўваць, і ня трэба ўступаць у бойку самому. Я не люблю болю...

Родныя мясьціны, іду на танцы, хачу трохі адпачыць, на харошых і прыгожых дзяўчат паглядзець. Цяжка безь сяброў, але яны мне патрэбныя, а зьлісьліўцы ціснуцца ля сьцен і шэпчуць з пагардаю за маёю сьпінаю. Сказалі б у твар, я зь іх твараў зрабіў бы яблык мочаны.

Не люблю біцца, але словаў і поглядаў іх не хачу трываць.

... А іх нямала, недабразычліўцаў. Яны былі ў дзяцінстве, былі ў дарослым жыцьці, асабліва шмат іх стала, калі я прыйшоў да ўлады. Да таго я быў роўны зь імі, заўважаў толькі тых, хто побач, а ўзьняўшыся на вышыню, я добра разглядзеў усіх, хто ёсьць вораг мне. Яны могуць хавацца за маскай дабразычлівасьці, каб потым сьмяяцца за маёю сьпінаю. Здрада іх стала для мяне звычайнай. Я ведаў адно: верыць можна толькі сабе і болей нікому. Яны могуць прадаць за грош, за ежу, за пітво, дзеля ласкі новых гаспадароў. А я быў ласкавым, я быў справядлівым, я кожнаму даваў па заслугах. Пасады, гонар, грошы. Ім трэба было толькі слухацца мяне і выконваць тое, што я скажу. Тых, хто лаяў мяне і рабіў шкоду, я ўзнагароджваў турмою, каб там яны зразумелі свае памылкі. Толькі так магло быць усё добра. Я быў вышэй, я болей бачыў і лепш за ўсіх ведаў, што рабіць. Ня ўсе тое разумелі, некаторыя хацелі стаць побач са мною, да іх не даходзіла, што на версе месца толькі аднаму — Мне.

Мноства людзей мяне любіла, але купка злыдняў вырашыла, што маё месца там, дзе ходзяць па калідорах адныя дурні. Яны ўпяклі мяне сюды. Пекла.

... Дзяцінства, прыходзь доктар, каб зрабіць прышчэпку. Мне баліць, ён коле, а я цярплю. У душы злосьць, хоць я ніколі не падаваў выгляду. Цяпер мне робяць штодня два ўколы. Я ненавіджу людзей у белых халатах. Яны — сымбаль зла, зь якім я змагаўся ўсё жыцьцё.

## П. Ляхновіч

### МРОІ І РЭАЛІІ

Паляўнічыя сабакі бываюць розных парод. З кожнай пародай палююць па-рознаму. Вось ганчакі. Ах, якое гэта задавальненьне, паляваць з ганчакамі! Вы яшчэ зацемна выходзіце ў поле ці ў лес. На шворцы ў вас выжлец і выжлоўка, гэта па-паляўнічаму «смычок». Напяўшы павадок, душачыся ў ашыйніках, яны валакуць вас па перасечанай мясцовасьці, аж пакуль вы не стамляецеся супраціўляцца. Вызваліўшыся, яны адразу зьнікаюць з вачэй. Гэта называецца «палаз». Заяц, ліса або воўк усю ноч гойсалі па сваіх зьвярыных справах, а ранкам пайшлі адпачываць на лежку, пакінуўшы за сабой ланцужок пахучых сьлядоў. Гэты пах адшукваюць ганчакі з дапамогай свайго звышчулага носу, і сьляды прыводзяць іх да лежкі. Зьвер падхопліваецца і тут вы чуеце: «Ай-яй-яй-яй-яй-яй!» Паднялі, значыць. Сэрца ваша загрукала ў тры разы шпарчэй, вам хочацца кінуцца за сабакамі ды гэтак жа загаласіць. Але разумеючы, што для адной пары ног гэта занадта, вы гасіце свой імпэт.

«Агга-агга-агга! Аяй-аяй-аяй!..» — пагналі. Няма лепшай для ганчатніка музыкі, чым гэта. У ёй і басавітая моц Баха і палкасьць мугама і азартнасьць «Лявоніхі».

Тэарэтычна гонны зьвер павінен зрабіць круг і вярнуцца на месца, дзе яго паднялі. А вы, прыслухоўваючыся да гону, займаеце месца каля лазу — зьвярынай дарогі. Зьвер выскоквае на вас і трапляе ў ваш заплечнік, калі гэта заяц. Калі ж ліса або воўк, то ў заплечнік трапляе футра.

Мабыць, сёньняшні зьвер слабы ў тэорыі. Гон усё аддаляецца, аддаляецца і ўрэшце «сыходзіць са слыху». Вы выцягваеце з-за сьпіны піянэрскі горн, набыты якраз для такога выпадку і дзьмяцё ў яго, ажно пакуль не распухаюць вусны. Нарэшце, калі ўсялякая надзея знайсьці сабак прападае, а душу разрывае роспач, яны зьяўляюцца і, перапрашаючы, глядзяць вам у вочы. Маўляў, выбачай гаспадар, ня наша віна, што зьвер трапіў нейкі няправільны і папёр нацянькі.

***

Вельмі цікавае паляваньне з норнымі. Норным не патрэбны такі тонкі нюх, як ганчакам, ім патрэбныя моцныя сківіцы, злосьць і сьмеласьць. Норны сабака кідаецца ў нару, хапае лісу ці барсука за горла, душыць і выцягвае зьвера вам у рукі. Вам застаецца толькі аддзячыць свайму калматаму сябру.

Акрамя таго норны сабака (вэльш-, ягд- або фокстэр'ер) можа «дабраць» падраненага зайца, вынесьці качку з вады. Унівэрсал.

Ваш фокстэр'ер мае такі радавод, што ў душы вы адчуваеце да яго плябейскую рэўнасьць. Вы нават пачынаеце роспыты ўласных бабуляў з тайнаю мэтай знайсьці сваяцкія сувязі з Сапегамі, Радзівіламі, Скірмунтамі, у скрайнім выпадку, з Друцка-Любецкімі ці Агінскімі. Вынікі апытаньня не пакідаюць вам анiякіх шанцаў, прыходзіцца рэўнасьць кампэнсаваць гонарам уладальніка «арыстакрата».

Паляўнічы сабака — гэта вам не пакаёвік. Які ён ні ёсьць шляхетны, а павінен перш за ўсё працаваць. Інакш шэлэг яму цана. Дзеля гэтага вы зьяўляецеся са сваім улюбёнцам каля нары. Паглядзеўшы сьляды, сунуўшы ў нару нос і адчуўшы пах (нешта сярэдняе паміж ацэтонам, аміякам і тухлым яйкам), вы ўпэўніваецеся ў наяўнасьці пад зямлёй лісы. Сэрца пачынае расьпіраць сквапнасьць, пацьвярджаючы вашае паспалітае паходжаньне. Вам вельмі-вельмі хочацца завалодаць лісіным футрам. Сабачы арыстакрат у гэты час, задраўшы нагу, расьпісваецца на сасьне. Вы спрабуеце зацікавіць фокса нарой. Мімалётна нюхнуўшы яе, барбос інтарэсу не выказвае. Тады вы хапаеце высакароднае цела пад пахі і з шыпеньнем «Шукай! Шукай!» цягнеце яго да ўваходу. Абражаны арыстакрат балюча кусае вас за рукі, прыводзячы ў стан адступленьня. Зразумеўшы, што цалаваньні ў розныя месцы скончыліся, наш герой дае пярэдні ход і зьнікае пад зямлёй. Праз хвіліну з нары чуецца глухі брэх. «Ну, усё! — думаеце вы, — зараз хватка за горла і праз пяць хвілінаў вывалачэ на паверхню». У гэты момант брэх пераходзіць у енк і праз паўхвіліны на паверхню як чорт вылятае сабака з акрываўленым носам і ўсім выглядам кажа: «У цябе дах паехаў? Мяне там амаль што не прыдушылі!»

***

А як прыемна паляваць на качак, калі побач з вамі спаніэль... Жаданьне апартаваць, гэта значыць расшукваць і прыносіць гаспадару дзічыну — галоўная рыса характару гэтай пароды. Праўда, гены генамі, а каб падрыхтаваць сапраўды рабочага спаніэля, трэба ўкласьці ого колькі працы. Кожны раз, выводзячы шчанюка на выгул, вы бярэце ў кішэню пакрышанае каўбасы і ліпавую палку. Закідваеце палку як мага далей і камандуеце: «апорт». Спаніэль вельмі хутка разумее, што ад яго патрабуецца, шукае і прыносіць палку, атрымліваючы ўзнагароду з вашай кішэні. Потым вы ўскладняеце задачу — кідаеце палку ў раку. Спаніэль плыве і выносіць.

Нарэшце, наступае момант супадзеньня трох абставін: шчанюк ператвараецца ў маладога сабаку, адкрываецца сэзон паляваньня на качак, закончаны «курс падрыхтоўкі» і ваш спаніэль апартуе бездакорна.

Ва ўзьнёслым настроі вы займаеце пазыцыю на беразе вадаёму. Вы трыюмфуеце. Сёньня ўскосна будзе вернутая ўся адарваная ад сям'і каўбаса. Ніводная качка ня будзе згубленая. Будуць адшуканыя нават зьбітыя ня вамі. У прынцыпе, можна хадзіць на паляваньне бяз стрэльбы, — думаеце вы, — кожны ведае, колькі зьбітых качак застаюцца ня знойдзенымі.

... Вы выбіваеце з наляцелай чародкі буйную крыжанку. Спыніўшы палёт, яна цяжка плюхаецца на ваду недалёка ад берага і застывае шэрай купінай. Ад стрэлу ваш чатырохногі памочнік падціскае тое, што яму пакінулі ад хваста, і кідаецца наўцёкі. Чвэрць гадзіны вы галёкаеце на ўсю ваколіцу і ўрэшце перапуджаны барбос вяртаецца. Жэстам, вартым караля, вы паказваеце на шэры камяк: «Апорт!» У адказ ваш спаніэль робіць вывад, што ён прызвычаіўся апартаваць, прасачыўшы траекторыю палёту палкі. Вы выламваеце з куста палку і шпурляеце яе. Падняўшы веер пырскаў, спыніэль кідаецца ў ваду, шпарка плыве да качкі, абнюхвае яе, хапае ў зубы кінутую вамі палку і добрасумленна выносіць яе вам пад ногі.



Здымак Міхала Баразны

## Руслан Равяка

### КІГІКАНЬНЕ ВЕРАБ'ІНЫХ ДЗЯЦЕЙ

Мы зьніштожылі храм, што стаяў на нашым шляху. Сьвятар спрабаваў бараніць сваё месца працы, але мы ўтапталі яго ў бруд і тысячы ног прайшліся па ім. На дзіва ўсім, ён здолеў узьняцца, і перапэцканны, абадраны, акрываўлены пакрочыў, кульгаючы, за намі. Ніхто яго не чапаў, бо ён быў наш!

Пасьля мы заўважылі селішча... Некалькі драўляных хатак былі спаленыя, палова жыхароў рушыла адразу ж моўчкі з намі, іншыя засталіся на папялішчы назаўсёды.

Пасьля нядоўгай аблогі адчынілася брама замку. Нас было шмат і пабіць, панішчыць, патрушчыць старажытныя муры было ня цяжка. Гаспадар умацовы і ягоныя паслугачы засталіся боўтацца на вяроўках, прывязаных да галінаў ссохлых ліпаў.

Мы прыпыніліся на сялянскіх гонях. Ноч прыйшла да нас раптоўна і недзе патрэбна было атуліцца ды крыху перадыхнуць. Усе харчы, захопленыя ў храме, селішчы ды замку, тутака былі спажытыя. Яшчэ адзін дзень згінуў у гісторыі, але пакінуў нам добры вынік.

Раніцою мы пайшлі далей, зялёныя гоні за ноч зрабіліся цьвёрда-стаптанай пустэльняй.

Па абедзе сярод нас выявілі аднаго разумніка, што цішком займаўся апісальніцтвам нашага побыту. Дзеля гісторыі, дзеля нашага ўзвышэньня, дзеля знакамітасьці. Дзякуючы сваёй авантуры, гэты пісьменьнік спачыў у нашых страўніках разам зь іншымі 34-ма асьветнікамі, злодзеямі, шызікамі, затойвальнікамі ўчарашняй ежы, уцекачамі, праўдушукальнікамі, заможнымі супляменьнікамі, грэшнікамі, творцамі, прайгранымі ў карты прадказальнікамі ды іншымі прыстойнымі і ня вельмі людзьмі, што туляліся з намі.

Нам не патрэбныя лідэры, асьвета, культура, вядомасьць. Мы не жадаем вылучацца між іншымі. Мы заўжды пасярэдзіне. Усё вышэйшае і ніжэйшае павінна зьніштажацца, бо яно супраць нас і ня дзеля нас.

Мы спажываем тое, што здабудзем, цягаемся тамака, дзе не былі, зьбіраем тых, хто далучаецца... Мы — жах асьветнікаў ды высокаінтэлектуалаў! Мы жывем паводле свайго закону. Кожны можа ня больш, чым мы, але й ня менш. Кожны вырашае сам: з намі альбо бяз нас.

Мы — зьдзічэлы натоўп! Але ўжо колькі гадоў нас ня меншае — значыцца, праўда за намі!

## Лілія Сазанавец

### ДЗІВАЧКА

Маня заўсёды была дзівачкай, нават у дзяцінстве. У той час, калі іншыя дзеці гулялі ў свае гульні, радасна і бесклапотна, як і патрэбна дзецям, Маня раптам станавілася пасярод вуліцы, як слуп, і сама сабе задавала якое-небудзь пытаньне, такое недарэчнае, якое магло прыйсьці толькі ў яе дзівацкую галаву. Кшталту: «Чаму нельга верыць у Бога?» Усе сьмяяліся, круцілі каля скроні пальцам, маўляў, дурніца, знайшла аб чым думаць. А Маня, пакуль не знаходзіла адказу, усё думала й думала. Ёй заўсёды хацелася, каб усё было зразумела. А як можна было зразумець тое, што ўсе настаўнікі ў школе ў адзін голас даводзяць дзецям: «Бог — гэта выдумка!» Верыць у яго нельга, як нельга хадзіць у царкву або касьцёл. Але ж Маніна сяброўка Каця, дачка дырэктара школы, заўсёды хвалілася на Вялікдзень, якія падарункі атрымала ад сваіх хросных бацькоў. Маня ніяк не магла зразумець: дырэктар школы казаў ім, сваім вучням, што нельга хадзіць у царкву, і ў той жа час, ягоная дачка была пахрышчаная, як і ўсе астатнія дзеці.

Працяг на старонцы 16.

# ЭПІКОН

Працяг са старонкі 15.

А Маня ведала, што дзяцей хрысьцяць у царкве. Ей так мама казала.

Потым, калі яна вырасла і паступіла ў інстытут, яна зусім не паразумнела. А якой была дзівачкай, такой і засталася. І зноў у яе галаву лезьлі тыя самыя думкі-недарэкі. Цяпер яе непакоіла, чаму іхні камсамольскі важак, студэнтка Жана, так заўзята вычытвае прамовы на тэму, якім патрэбна быць сьвядомаму камсамольцу: чэсным з добрым маральным абліччам. А сама пасьля прамоваў была такой разбэшчанай, што яе ведалі ўсе іншаземныя студэнты. Бо за імпартовую парфуму Жана разьлічвалася сабою. Дарэчы, на апошнім курсе Жана выйшла замуж за габрэя Сёмку, потым яны разам паехалі ў Ізраіль, дзе заняліся турыстычным бізнэсам. Наўрад ці Жана прапагандавала сваім кліентам ідэі камунізму, як гэта рабіла ў свае студэнцкія гады. Дык, калі ж яна ілгала: калі была сьвядомай камсамолкай, ці цяпер, калі стала сьвядомай капіталісткай? На гэтае пытаньне Маня так і не знайшла адказу. Дзівачка!

Сёньня Маню цікавіць іншае: што такое амон? Не, яна дастаткова дасьведчаная жанчына і ведае, як расшыфроўваюцца гэтыя літары. Але навошта ў іхным невялікім гарадку, дзе яна працавала пасьля разьмеркаваньня, патрэбны той амон, яна ніяк не магла зразумець. Бо тэрарыстаў у іхным горадзе спрадвеку не было, і наўрад ці калі будуць. Землятрусу або паводкі ўсе тыя дзесяць гадоў, што яна тут жыла, таксама не назірала. Гелікоптараў у іх не захопліваюць, бо ў іх няма аэрапорту, а толькі невялікая аўтастанцыя. Аўтобусы, дарэчы, таксама ніхто ніколі не захопліваў. Хіба што бабулі бралі штурмам у базарны дзень.

Аднойчы да Мані ў госьці прыехаў яе малодшы брат Ясік, якому ў той дзень якраз споўнілася шаснаццаць гадоў. І ён вырашыў адсьвяткаваць такі шыкоўны дзень ня дома, з бацькамі, а паехаць да сястры. Потым ён не адзін раз пашкадаваў аб гэтым. Сьвяткаваць вырашылі толькі сям'ёю. Былі Маня, ейны муж Зьміцер, іхная дачка-першаклясьніца Аленка ды сам імяніньнік. Пілі каву з рознымі салодкімі прысмакамі, да якіх Маня была вельмі здатнай. Распавядалі адзін аднаму розныя сьмешныя гісторыі з асабістага жыцьця і рагаталі. Пакой у інтэрнаце, дзе жыла Маня, знаходзіўся на першым паверсе. Вакно выходзіла на вуліцу. Фортка была адчыненая. Раптам да іх у пакой без усялякага папярэджаньня ўвайшлі ажно пяцёра міліцыянтаў у плямістай форме і чорных барэтах. Гэта значыць, што гэта былі не звычайныя міліцыянты, а менавіта тыя самыя амонаўцы, пра якіх так часта апошнім часам разважала Маня. Адзін зь іх, напэўна старэйшы, сказаў:

— Так, расьпіваем сьпіртныя напіткі. Вавлякаем несавяршэнналетніх. А, кстаці, дзе вашыя дакумэнты? —зьвярнуўся ён да разгубленага Ясіка.

Маня кінулася брату на дапамогу:

— Гэта мой брат. Прыехаў у госьці.

— А аткуда відна, што ён ваш брат? Можат, ён церарыст?

— Які церарыст? — Маня не заўважыла, як таксама перайшла на «трасянку» амонаўцаў, — гэта мой брат Ясік.

— Можат, Ясік, а можат, ён ліцо каўказкай нацыянальнасьці. Прад'явіце дакумэнты.

— Ды якія дакумэнты, — умяшаўся Зьміцер, — яму толькі сёньня шаснаццаць споўнілася.

— Тагда паедзям у аддзяленіе, — быў няўмольны амонавец.

Маня хацела нешта сказаць, але Зьміцер перапыніў, бо зразумеў, што размовы тут дарэмныя. У пастарунак паехалі Зьміцер зь Ясікам. Там Зьміцер адразу пачаў патрабаваць мэдычнага агляду на алькаголь, бо ніхто зь іх у той дзень гарэлкі ў рот ня браў. Дзяжурны лейтэнант адразу зразумеў, што, калі чалавек так настойліва патрабуе агляду, значыць, ён, хутчэй за ўсё, цьверозы. Лейтэнант быў звычайным міліцыянтам, не амонаўцам. Таму ён адпусьціў Зьміцера зь Ясікам дахаты.

Цяпер Маня ўжо не разважае на тэму: «Навошта нам амон?» Яна ўжо ведае, навошта. Але ўсё роўна, іншыя думкі, таксама такія ж недарэчныя, лезуць ёй у галаву. Дзівачка!




Здымак Міхала Баразны

## Зьмітро Сідаровіч

## ЭКСПРЭСІЯ Й ДЫНАМІЗМ

«Колькі тут экспрэсіі й дынамізму!» — закрычаў ён і замахаў рукамі. Я змаўчаў. А ён усё крычаў і махаў рукамі. «Ах!» — крычаў ён. І махаў рукамі.

А я маўчаў. Я думаў, што калі тут столькі экспрэсіі й дынамізму, то навошта крычаць і махаць рукамі? Я сказаў: «Ах!» Ён спыніўся і паглядзеў на мяне. «Ну, ты хоць бачыш, колькі тут усяго?» — спытаў ён. Я змаўчаў. «А?» — спытаў ён. Я сказаў: «Не, усяго тут якраз няшмат. Тут многа экспрэсіі й дынамізму». Ён узрадавана замахаў рукамі. Я закрычаў. Ён перастаў махаць рукамі і запытаўся: «Я толькі ня цямлю, навошта тут крычаць?» Я пачаў тлумачыць: «Разумееш, тут столькі экспрэсіі й дынамізму...»

Ён ляснуў. Я змаўчаў. Ён яшчэ раз ляснуў. Я прыслухаўся. «А чым гэта ты ляскаеш?» — сказаў я. Ён ляснуў. «Ну, цяпер разумееш?» — спытаў ён. Я зразумеў і таксама ляснуў. «О-о, дык ты ўмееш!» — з павагай у голасе адзначыў ён. Ён падыйшоў і пацініснуў мне руку. Сувора, па-мужчынску так пацісьнуў.

Потым мы ляснулі ўдвух. Атрымалася няблага. «Усё, будзем выступаць разам!» — вырашыў ён.

І з таго часу мы выступаем разам. На нашых канцэртах шмат экспрэсіі й дынамізму, стаіць суцэльны ляск. Прыходзьце, не пашкадуеце.

## Алесь Хацяновіч

## БЕЛАРУСКАЯ ІДЭЯ

«Прытулак ёсьць, дзе адпачыць ільга...»

Была раніца. Уладзімер наўзнак ляжаў на разабраным ложку, нерухома ўтаропіўшыся ў шэрую столь. Думкі паціху ўсплывалі ў ягонай галаве й адвольна зьнікалі, пакідаючы пасьля сябе нейкі трывожны ўспамін. «Божухна мой, — звыкла думалася яму, — дзе тая туга да хараства, дзе тое зорнае неба, калі заўтра трэба ўставаць, некуды ісьці, размаўляць з усялякай дрэньню, рабіць выгляд, што нешта робіш. Вось гэтак і пройдзе рэшта твайго жыцьця, вось так і згінеш, і ніхто не згадае цябе й не запаліць сьвечку. А ты будзеш блукаць сярод выдуманых табою пачвараў і з болем думаць, што і ў цябе была калісьці магчымасьць. Магчымасьць знайсьці свой чысьцюткі куточак, сваю нябесную Беларусь».

«Ня воблака, а проста аблачынка
Загадкава плыве над галавой»

Быў дзень. Яўгенія ляжала на зялёным лузе й глядзела на панурыя хмаркі на звыкла сінем небе. «Куды яны плывуць? Навошта? Пра што разважаць на сваім бясконцым маўклівым шляху? Якім, напэўна, бяссэнсавым здаецца ім наша пашкуднае жыцьцё. Бяссэнсавым і мярзотным. Нашыя справы, размовы, думкі... Мітусьня. Былі б мы гэткімі ж хмаркамі. О, былі б! Уяўляеш, Жэня, прачынаесься аднойчы раніцою — а ты хмарка, чысьцюткая белая хмарка. І можаш пачынаць свой шлях, шлях ў нябесную Беларусь».

«На небе свабода, сьвятло і прывольле»

Быў вечар. Іван Дамінікавіч ціха швэндаўся па бруднай вуліцы. Змрочныя цені, здавалася, варушыліся і спрабавалі схаваць яго ў сваёй маўклівай глыбіні. «Жыцьцё як сон. Ці жыў я? Усё, што засталося, гэта блукаць сярод гэтых абадраных дрэваў, глядзець на гэты абыякавы месяц, думаць пра адно й тое ж. Жыў ня так, як хацеў, а як атрымалася. І што? Анічога. Толькі нельга заснуць начыма. І сны ўжо даўно ня сьняцца. Толькі гэтыя цені. Гэтыя мярзотныя цені. Адныя толькі цені ў гэтым сусьвеце. Цені нябеснай Беларусі. Божухна, дазволь мне паспрабаваць яшчэ раз. Дай мне шанец, Божухна».

«У нябесных сінях несьмяротных
Бясконцым сьвятам сплывае год»

## ЖАННА

Халодным вечарам напрыканцы красавіка ён блукаў маўклівымі шэрымі вуліцамі ў горадзе, які губляў. Ён спрабаваў захаваць незьлічоныя постаці будынкаў і дрэваў, іх размовы, цені, малюнкі. А заставаўся толькі боль, і адчуваньне, што ўсё зробленае было дарэмным. Горад паціху губляўся ў цемры, і ноч абыякава хавала ўсіх, хто не пасьпеў знайсьці сабе прытулак. Раптоўна ў вочы яму кінулася нэонавая шыльдачка кавярні «У Некрашэвіча», адзінае, што засталося бачным у чарнаце. Ён зайшоў. У паветры вісеў цыгарэтны дым, і ціха выла нейкая лысая сьпявачка. Сеўшы на канапу, ён звыкла занурыўся ў свае думкі. «Прабачце, у Вас незанята? — высокая стыльна апранутая дзяўчына запытальна паглядзела на яго. «Сядайце, спадарыня...» «Жанна», — проста сказала яна. А потым была ноч і была раніца. Асьцярожна выйшаўшы на гаўбец, ён здрыгануўся ад шэрага холаду. «Вазьмі мяне з сабой, каханая». «Пайшлі, любы мой». Дзьве далоні адна ў адной. Два крылы.

Маленькая дзяўчынка паглядзела ў неба.

— Матуля, глянь, — два анёлы!

— То не анёлы, дачушка. То буслы паляцелі.

## «ІЛЖЭДЗЬМІТРЫ»

Сьцяпан Пятровіч любіў кніжкі за іх напружаную маўклівую чысьціню. Ён любіў корпацца ў паперах, знаходзіць ўсялякія цікавасьці, неспадзяваныя супадзеньні і незаўважаныя недарэчнасьці. Гэта былі для яго моманты найвышэйшай асалоды, тады ён адчуваў сябе калі не стваральнікам сусьвету, дык ягоным цэнзарам. У гэтым ён знайшоў ужо сэнс свайго існаваньня, нейкі кампраміс паміж сабою й існуючай рэчаіснасьцю. Сьцяпан Пятровіч ужо нічога не чакаў ад жыцьця, і лічыў, што час, які яму застаўся, ня зможа прынесьці нічога істотна новага, хіба толькі дадасьць ледзьве прыкметныя рысачкі да агульнага малюнку. Сьцяпан Пятровіч непрыкметна жыў і ўначы падоўгу размаўляў з Богам.

Апошнім часам Сьцяпан Пятровіч чытаў Энцыкляпэдыю. Ён адразу заўважыў пустое месца на вокладцы — і наплыў успамін аб калісьці ўжо бачаных пустых плямах ў газэтах і на выставе. «Цывілізацыя пустаты. Так і ўвойдзе яна ў гісторыю. Сваёй пустатой. Колькі б ні казалі пра эўрапейскасьць і ні шукалі тлумачэньняў у заходніх філёзафаў, кітайцы лепш за ўсіх зразумелі нашу патаемную сутнасьць». Сьцяпан Пятровіч усьміхнуўся.

«Асоба Ілжэдзьмітрыя II нявысьветленая. Ёсьць зьвесткі, што ён быў настаўнікам у Магілёве, паводле іншых зьвестак — паповіч, настаўнік у Шклове... летам... падышоў да Масквы,... дзе сфармаваў урад... зь мітрапалітам Філарэтам».

Раптоўна Сьцяпан Пятровіч зразумеў, што для Таго, з кім ён спрачаецца кожную ноч, не існуе ніякага адрозьненьня паміж ім і «Шклоўскім ідалам», што для Яго — усё паўтараецца ўжо ў каторы раз. Але кожнае паўтарэньне прыўносіць новы паварот, новую акалічнасьць у, здавалася б, даведзеную да лягічнага завяршэньня гісторыю. Разам зь яскравым разуменьнем сутнасьці зьявы да Сьцяпана Пятровіча прыйшло адчуваньне, што ён ужо калісьці перажываў гэткі ж самы момант, адчуваньне таго, што ў мінулы раз ён нешта зрабіў ня так, як трэба. Ня так...

Па дарозе дадому Сьцяпана Пятровіча схапіла чарговая аблава. Доўга і смачна зьбівалі нагамі на вуліцы, а потым і ў «варанку». У лякарні Сьцяпан Пятровіч маліў Бога ня даць яму памерці на ложку. Той, да каго ён зьвярнуўся, напэўна, пачуў ягоныя малітвы. Сьцяпан Пятровіч хутка пачаў папраўляцца і праз тыдзень выйшаў зь лякарні. У першы ж дзень пасьля выпіскі ён пайшоў і набыў рэвальвэр. Сьцяпан Пятровіч ужо ведаў, што яму трэба рабіць.

## Юры Чарнякевіч

## ЗЯМЛЯ

Сонца ўзыходзіць на Ўсходзе і заходзіць на Захадзе. Блакітнае неба нараджаецца раніцай і адмірае надвячоркам. А дзе нарадзіліся людзі, калі і куды яны зьнікнуць?

Можа, яны нарадзіліся з марскіх хваляў? З тых, заўжды ганарлівых, якія ўздымаюцца ўсё вышэй і вышэй, каб пасьля разьбіцца аб бераг ці скалы, ведаючы, што іхныя суродзічы, такія ж моцныя, хуткія і жахлівыя, будуць таксама атакаваць — і абавязкова пераможуць. А можа людзі — гэта дрэвы, якія ўзвышаюцца над усім — нязломныя, вялікія і непахісныя, бо іх ніхто і нішто не скране да самай сьмерці: дрэва адразу ж памірае, калі яго зламаюць ці яно само ўпадзе? Шчасьлівае дрэва — яно памірае там, дзе нарадзілася, таму, калі яго перасаджваюць у іншае месца, дык яно часьцей памірае, а калі прыжывецца — дык гэта будзе ня тое, а іншае дрэва, бо яго адарвалі ад роднае зямлі. Нарэшце, можа людзі — аблокі? Яны хоць і агромністыя, але плывуць бяздумна ў паднябесьсі, таму што іх прымушае да гэтага вецер, які, не зважаючы на памеры і велічнасьць аблокаў, кідае іх, куды захоча.

Дык хто мы — людзі? А можа... А можа мы — гэта зямля? Так, зямля, якая дае хлеб, жыцьцё, раўнавагу і ўпэўненасьць. А поруч, разам зь ёй існуюць і вецер, і ваблокі, і хвалі, і дрэва. Зямля, якая нарадзіла цябе і мяне, зямелька-маці, што блаславіла сваіх дзяцей у далёкі, цяжкі і гаротны, поўны болю і пакутаў шлях. Яна ведае, што сыны і дочкі ня кінуць яе ў адзіноце, а вернуцца назад і скажуць: «Добры дзень, мама!» І тады яна заплача, заплача тымі сьлязьмі радасьці, якія так рэдка зьяўляюцца на тварах нашых матуль. Дык вось яна —зямля, блізкая ці далёкая, чакае ў сваёй пяшчотнай цішыні кожнага зямляніна.

Зямля тут, зямля там, зямля скрозь. Калі ты пажадаеш, устанеш, зразумееш — ты будзеш зямлёю, ты будзеш сусьветам, ты будзеш чалавекам.

Дык пажадай, устань і зразумей зямлю!

# Оргіі талерантнасьці і мова Падпольля

У Турцыі і Расеі, ва Ўкраіне і Казахстане, у іншых краёх, што сымулююць Эўропу, шмат хто ставіць тыя самыя пытаньні, якія задаем сабе мы. Але — пакуль — нідзе «рускі чалавек» не трыюмфуе гэтак відавочна, а эўрапейская меншасьць не пачуваецца такой ізаляванаю, маналікаю, расквашанаю на мажным целе Другой Азіі, як у Беларусі. Нідзе на блізкім даляглядзе няма такога адчуваньня мёртвага дому, адсутнасьці шанцаў, глыбокай унутранай дэзынтэграцыі і — пры гэтым — такіх монстраў талерантнасьці, як тут.

Каб абазначыць зыходны пункт разважаньняў, мушу зрабіць цытату з аднога ліста, які атрымаў у мінулым кастрычніку. «Шукаю суцяшэньня ў францускім віне і сьціплых спробах нешта напісаць. Усё цяжэй прымушаць сябе саўдзельнічаць у гэтых оргіях талерантнасьці». Напісаў гэта Ўладзімер Палупанаў, што стаў вядомы, на жаль, не як перакладчык Бальзака на беларускую мову, а як першы беларускі дыплямат, што адмовіўся вяртацца на несвабодную бацькаўшчыну. У дзьвюх гэтых фразах, як па-мойму, тоіцца шэраг думак, якія нельга абмінуць, дасьледуючы рэакцыі культурных людзей і культуры на трыюмф «рускага чалавека» або проста вызначаючы для сябе, якой мовай размаўляць з тым, што нас абкружае, але што пакуль яшчэ не дало рады прымусіць нас маўчаць. Але спачатку колькі словаў пра самога «рускага чалавека».

## Russitude

Выраз Cognatus Ergo Sum[1] прыдумаў не Валянцін Акудовіч. Чуквудум Акола[2] выкарыстоўвае гэты калямбур, каб як найлепей характарызаваць сьвядомасьць афрыканца ў адрозьненьне ад клясычнай эўрапейскай індывідуалістычнай сьвядомасьці. Сэнгор, слынны ідэоляг афрыканства, галоўнай характарыстыкай яе лічыў так званую negritude, першае месца ў якой займае «пачуцьцё «абшчыны» (sens de communion) і так званай «адкрытасьці чалавека чалавеку»[3]. Іншы выбітны інтэлектуал, Мбоя, адносіў да шэрагу вызначальных для афрыканца якасьцяў «абшчынны» дух, гасьціннасьць, шчодрасьць, прыхільнасьць да роўнасьці і практыку роўнасьці, роўныя магчымасьці для ўсіх»[4]. Нарэшце, «канчатковай мэтай гуманізму афрыканскага кшталту ёсьць агульны касьмічны лад гармоніі кожнага асобна ўзятага стварэньня з усёй рэштай сьвету»[5], што робіцца магчымым толькі дзякуючы асаблівай духоўнасьці і сьветаўспрыняцьцю жыхароў чорнага кантынэнту.

Спынім жа цытаты зь вялікіх афрыканцаў, уласна, спынім да лепшага разу, бо сёньняшнія разважаньні датычаць ня лёзунгаў славянафілаў, а трошкі іншага, праблемы «рускага чалавека». Дарэчы, ніхто з вас не пацікавіцца, а што ж гэта за «рускі чалавек», каго я маю на ўвазе: у Цэнтральнай Эўропе склаўся ўстойлівы стэрэатып — хаця ў любой іншай часьціне сьвету гэтае цалкам слушнае пытаньне задалі б, паставіўшы аўтара ў затуп.

Згадваецца Герман Гесэ. «Рускі чалавек — гэта Карамазаў, гэта Фёдар Паўлавіч, гэта Дзьмітрый, гэта Іван, гэта Алёша, бо як моцна ні адрозьніваліся б між сабой гэтыя чацьвёра, яны моцна ўзаемазьвязаныя; ... разам яны і ёсьць рускім чалавекам, гэтым будучым, ужо напаўрэальным чалавекам эўрапейскае крызы»[6].

І далей «рускі чалавек... адначасова забойца і судзьдзя, хам і тонкая душа, зацьвярдзелы эгаіст і герой безаглядных самаадданасьці. Яго не падвядзеш пад эўрапейскі капыл —цьвёрды, маральнаэтычны, дагматычны. У гэтым чалавеку ўнутранае і вонкавае, дабро і зло, Бог і Сатана моцна перапляліся». У іншым месцы: «рускі чалавек існуе даўно, даўно існуе і па-за межамі Расеі і пануе ўжо ў палове Эўропы...»

Такім рускі чалавек бачыўся ў 1920 годзе. За стагодзьдзе ён зьмяніўся. Як? Некаторыя нават сьцьвярджалі, што ён стаў савецкім чалавекам. Ці магло б гэта быць праўдай? Ці можна знайсьці Алёшу Карамазава пры канцы XX стагодзьдзя?

Усе далёкія ад Расеі аўтары або такія аўтары як Гесэ, што толькі зьлёгку, крылом закранулі вялікія эўразійскія прасторы, надавалі ёй містычнасьці, знаходзілі ў ёй ірацыянальны стрыжань. Гэта насамрэч так, ці проста містычным здаецца ўсё далёкае і невядомае (для ўсходнеэўрапейскіх аўтараў расеец ніколі не здаваўся асабліва таямнічым; дзіўным — так, але не містычным)? Згадваецца і пабытовая хрэстаматыя. Ты едзеш у Варшаву сустрэцца зь сябрамі, сядаеш у цягнік. Твае выпадковыя спадарожнікі замыкаюць купэ, засьцілаюць столік газэткай, кроюць хлеб, рэжуць сала і тычуць табе проста ў рукі шклянку з гарэлкай. «Пі, студэнт, ну што ты як нярускі?»

Каго ж я маю на ўвазе, сур'ёзна? Відавочна, не расейцаў, не расейскамоўных, не славянаў, не людзей бізантыйскай культурна-рэлігійнай спадчыны і не прыхільнікаў пэўнай пабытовай традыцыі. Фэномэн нашмат шырэйшы за абсяг аднoй краіны, мовы, расы.

Вызначаць рускага чалавека праз самага рускага чалавека, прэзыдэнта Лукашэнку — безумоўнае права беларусаў, але пры гэтым таксама ня больш, чым даніна модзе.

Афрыка, безуладзьдзе (у сэнсе, замена дзейснай улады, заснаванай на падзеле аўтарытэту і абавязкаў, страхам і бізуном), паганства, ізаляцыя ад вялікіх шляхоў — вось дзе, мусіць, трэба шукаць аналёгіі, крыніцы, карані, і знайсьці іх не найцяжэй. А пакуль няхай лічыцца, што рускі чалавек застаецца нерасшыфраваным, нявызначаным, неклясыфікаваным, а таму трошкі нават страшным. Мы яго ня ведаем, але мы зь ім знаёмыя, і мы на яго рэагуем.

## Выспа ў акіяне шызафрэніі

Талерантнасьць была культавай цнотай, модай васьмідзясятых. Пачаўся гэты псыхоз з Амэрыкі, з «палітычнай карэктнасьці» і ператварэньня вульгарнага лібэралізму ў бытавую філязофію мільёнаў. Сьляпых пачалі ветліва называць «visually different», а тоўстых - «vertically charged». Неўзабаве эпідэмія талерантнасьці намаганьнямі культмасавых інтэлектуалаў перакінулася на Эўропу зь Беларусяй улучна. А ўжо ж! Самая зручная цнота, самае простае апраўданьне. У Беларусі капсулю з талерантнасьцю ўвогуле ўмуравалі ў падмурак нацыянальнага характару. Мелі рацыю: цярпець бліжняга свайго нашмат больш прыемна і бясьпечна, чым любіць яго.

Талерантнасьць — гэта сярэднявечная цнота par excellence. Самое слова нарадзілася недзе пад канец XVI ст., каб абазначаць неварожае стаўленьне да тых, хто інакш трактуе дагматы рэлігіі. Ня вучыш пратэстанта бізуном, ня гоніш з горада, вось ты ўжо і талерантны. Чаму ж цяпер, калі рэлігія зьяўляецца ў грамадзтве зьявай або маргінальнай, або дэкарацыйнай, калі ідэалёгіі збанкрутавалі або памерлі, калі тэлебачаньне зраўняла ўсіх у магчымасьцях доступу да эрзацасалодаў шоўкультуры, зноў зьявілася патрэба ў талерантнасьці?

Так, існуюць праблемы меншасьцяў, аднак у грамадзтве відовішчаў, у тэлевізійным грамадзтве меншасьці раствараюцца вокамгненна. Існуе нацыянальная нецярпімасьць, але талерантнасьць не вырашае праблемаў нецярпімасьці, яна не прывучае чалавека ставіцца да чужой культуры як да сваёй уласнай, пранікацца ёю, любіць яе — калі слова «любіць» карэктна ўжываць у дачыненьні да культуры — а ў лепшым выпадку кансэрвуе стан узаемнага неразуменьня.

Усе дробныя ўжыткі талерантнасьці засланяюцца адным галоўным, дзеля якога, уласна, яе і разрэклямавалі сродкі масавай інфармацыі. У новым сусьветным парадку, у сытуацыі, калі ўлада нібыта сталася неідэалягічнай, прагматычнай, незаўважнай (я не бяру пад увагу асобныя нонсэнсныя, кароткатэрміновыя і нясутнасныя адхіленьні кшталту лукашызму), адсутнай у жыцьці грамадзяніна, які за ўвесь свой век можа ні разу не схадзіць на выбарчы ўчастак і ні разу не адчуць непасрэднага прымусу або ўціску зь якога бы то ні было боку, «талерантнасьць» сталася надзейным стаўпом, на якім, разам зь мяккай, але бяспройгрышнай маніпуляцыяй грамадзкай сьвядомасьцю з боку сродкаў масавай інфармацыі і ўцягнутасьцю кожнага чалавека ў сыстэму інтэнсіўнага спажываньня тавараў і паслуг, і трымаецца ўся існуючая сыстэма, увесь існуючы балянс несправядлівасьцяў, абыякавасьцяў, злоўжываньняў, увесь лябірынт незаўважнага прыгнёту. Рэлігія вымагала падпарадкаваньня, талерантнасьць вымагае пасіўнасьці.

Амэрыканцы, і амэрыканскія інтэлектуалы разам са сродкамі масавай інфармацыі ў тым ліку, вельмі талерантна ставяцца цяпер да індзейцаў, іхных традыцыяў і культуры. Ад гэтага працэс выміраньня індзейцаў не замарудзіўся ні на трохі. Вядома, толькі ўласная дзяржаўнасьць і незалежнасьць могуць засьцерагчы народ у постіндустрыйным грамадзтве ад выміраньня. Аднак жа, тыя ж сродкі масавай інфармацыі ганьбяць індзейцаў (ірляндцаў, баскаў, беларусаў), што спрабуюць змагацца за ўласнае выжываньне са зброяй ці плякатамі ў руках, як злых фундамэнталістаў.

У выпадку Беларусі «талерантнасьць» ужо ня першае дзесяцігодзьдзе дазваляе «рускаму чалавеку» трымаць узятую ўладу. Таму й фінансавалі і фінансуюць так шчодра талерант-культуру, бязьлітасна душачы культуру супраціву. Адсюль тандэтная задушэўнасьць Зінаіды Бандарэнкі ды іншых лагодных дыктараў афіцыйных тэлебачаньня й радыё; да гідоты расьцягнутыя мэлёдыі большасьці афіцыйна дазволеных эстрадных беларускамоўных песень; бязмозгла-аптымістычнае брынчаньне бубнаў і гармонікаў афіцыйна дазволенага фальклёру; любасная літаратура, так званы «рэалізм», у якім праўда ніколі й не валялася — афіцыйна дазволеную літаратуру кормяць і цяпер: ганебная прэмія Далідовічу за спробу ў «Заходніках» перапісаць гісторыю гэткай чысьценькай-гладзенькай-харошанькай. Дый што толькі не адсюль у той частцы беларускага мастацтва, якую афіцыйна дазволена падтрымліваць напаўжывою. Жывое мастацтва ня просіць дазволу, жывое мастацтва часьцей забараняюць, чым дазваляюць. Яно ня сьцелецца па скронях, а высаджвае ў паветра газаправоды амшэлых варыянтаў. Сапраўднае мастацтва, алегарычна кажучы, гэта заўжды мардабой. І неталенавітыя мастакі — тыя, звычайна, хто дае па мордах, якім ужо задалі пытлю Пруст, Талстой ці Ананім. Дарэчы, і сапраўдны падзел мастацтва, напэўна, праходзіць не па жанрах: проза, паэзія, жывапіс — а па мордах ці, талерантней кажучы, праціўніках.

А лепей бы нашы шаноўныя старыя часопісы спынілі свой выхад. Усё роўна яны ні Богу сьвечка, ні чорту галавешка. Літаратура — і мастацтва ўвогуле — толькі тады ёсьць дзейснай, калі чытач гатовы везьці кніжку празь мяжу, перахоўваючы яе ў вопратцы ад мытнікаў. Дык няхай бы засталіся толькі тыя выданьні, што ўжо зараз існуюць у напаўпадпольлі, усё цяжэй было б палкоўнікам замазваць сьвету вочы. Патрэбны разрыў, патрэбны жэст. Калі нас змушаюць выць на задворках, дык лепей сьпяваць у катакомбах.

Культурныя людзі, апынуўшыся недзе ў крутой меншасьці, могуць утварыць вельмі крутое і эфэктыўнае падпольле. Калі культурныя людзі размаўляюць на іншай мове, чым большасьць, то й пагатоў. А прынцыпы падпольля былі сфармуляваныя шчэ старажытнымі грэкамі: імкненьне да мудрасьці, імкненьне да праўды, асьцярожнасьць, стрыманасьць, цьвёрдасьць і пачуцьцё меры. Час падпольля — шчасьлівы час, унікальнае супадзеньне інтарэсаў мастацтва і нацыі.

Існуе міт, быццам бы талерант-культура ёсьць стваральнай, а бунт-культура разбуральнай. Аднак яшчэ трэба паглядзець, хто закопвае камяні там, дзе мае прайсьці плуг, а хто зьбірае камяні ў крушні.

Горш. Прыдворная культура няздольная да асэнсаваньня гістарычнага досьведу. Новаадкрывальніца старога Берасьця Ірына Лаўроўская распавядае, як пад час будаўніцтва мэмарыялу яна — маладая неразумная студэнтка — кіравала рабочымі, якія разбуралі сьцены былога езуіцкага калегіюму (затым інжынэрнае ўпраўленьне, цяпер руіны вышынёй з паўмэтра перад галоўным манумэнтам). Ад унікальнага будынку XVIII ст. да таго часу яшчэ захоўваліся два паверхі, але яму не пашанцавала: існаваў харошы міт пра «руіны страляюць», і трэ' было пабудаваць руіны. Будынак разабралі, а руіны будавалі адбойнымі малаткамі, каб было як мага больш маляўніча. Будаўніцтва руінаў — вось страшэнны сымбаль культуры, якая не пратэстуе.

Калі ўжо зайшла гаворка пра Берасьцейскую крэпасьць — а тэма вартая тоўстага тому досьледаў таго, хто не баіцца бунтаваць супраць рамантычных мітаў — І.Лаўроўская распавядае і пра базыльянскі кляштар, пазьней вядомы як Белы палац. Пад час гераічнай абароны ў кляштар трапіла адна бомба, і тая не разарвалася. Разабралі ж яго на цэглу для гаспадарчых патрэбаў на загад маршала Цімашэнкі пасьля вайны. Цяпер вы можаце бачыць маляўнічыя руіны, таксама вышынёю паўмэтра над зямлёй адразу пры ўваходзе ў цытадэль.

Яшчэ адзін факт, іншы і даўнейшы. Гартаючы энцыкляпэдыю «Архітэктура Беларусі», зьвяртаеш увагу на інфармацыю такога кшталту. «У 1897 у Тураве каля 4290 жыхароў... У 1923 было 6217 жыхароў. З 1924 цэнтар раёну, з 1938 гарадзкі пасёлак. У 1939 — 5,5 тыс. жыхароў»[7]. Паколькі натуральныя тэмпы прыросту насельніцтва ў тыя гады ў правінцыйнай Беларусі складалі каля 3% у год і значных эпідэміяў не зарэгістравана, паўстае пытаньне, куды падзелася палова жыхароў старасьвецкага мястэчка? У слынным Шклове з пачатку XX ст. па 1939 год колькасьць насельніцтва скарацілася з 10 000 да 8 100[8].

Пакідалі, мабыць, толькі савецкіх беларусаў...

Яшчэ адзін факт, на які я натыкнуўся ў архіве. Побач з маёй Заказанкай у Берасьцейскім раёне ёсьць старыя, яшчэ за князя Вітаўта заснаваныя вёскі Прылукі і Страдычы. Страдычы цяпер у разы чатыры большыя за Прылукі. Ад XIV ст. і да 1915 году большымі былі Прылукі. Пытаюся ў бабулі, чаму так, можа, ведае. «А бо страчукі, — кажа бабуля, — запэрлыся і нэ в якую до Росейі нэ пойіхалы, всталыся. Туды німцямы лякалы, казалы, шо німці народ б'ють, а страчукі нэ повірылы і нэ пойіхалы, всталыся, сіялы, жалы, ныхто йіх нэ зачэпав. А з нас, прылучан, можэ, тыко но половына вэрнулася». Раней мы не маглі асэнсаваць гэтых фактаў, бо ў нас не было інтэлігенцыі. Цяпер у нас талерантная інтэлігенцыя, якая шкадуе харошыя міты.

Усё жывое змагаецца. Моцны перамагае, слабы гіне. Так і культуры. І рэлігіі. І нацыі. Нікуды тут не падзецца. І талерантнасьць тут ні да рады, ні да звады. Талерантнасьцю ж можа хіба апраўдацца чалавеку, які ня хоча прымаць чужую культуру як сваю, чужую рэлігію як іншае вялікае адкрыцьцё, чужую нацыю як люстэрка сваёй.

Талерантнасьць у яе першасным значэньні была патрэбная як правілы барацьбы, калі людзі ў сваім суперніцтве яшчэ ня ведалі правілаў. Тыя самыя палкоўнікі, якія сёньня кіруюць зьнішчэньнем беларускай культуры, ведаюць правілы і нават час ад часу даюць прачулыя інтэрвію «Звяздзе». Проста талерантнасьць у сучасным значэньні гэтага слова — фальшывая, як і ўсе правілы жыцьця сёньняшняга сьвету. Забіць чалавека бомбай можна, а мінай нельга, бо жорстка; есьці жывёлаў можна, а везьці на бойню ў цесным грузавіку нельга, каб не задаваць ім пакутаў; фальклёр — гэта мардатыя цёткі з гармонікамі і бубнамі; мэмарыял Шагала — гэта пафарбаваная ў блакітны колер хата; Беларусь можа быць незалежнай толькі ў саюзе з Расеяй. Сёньняшні сьвет — гэта грамадзтва змарнаваных сэнсаў. Словы згубілі сэнс. Зьмяшаньне знакаў — прыкмета бескультур'я. Знакі згубілі сэнс. Так і з талерантнасьцю. Сёньняшняя талерантнасьць патрабуе, каб культура талеравала бескультур'е, праўда — няпраўду, ахвяра — забойцу. Ці варта трываць тое, што трываць нельга?

Талерантнасьць, цноту сапраўды неабходную ў пэўных выпадках, у пэўных недаразьвітых грамадзтвах і ў адсталых сфэрах разьвітых грамадзтваў, распаўсюдзілі на ўсё і на ўсіх і тым самым пазбавілі канкрэтнага значэньня, ператварылі ў пусты гук. Цяпер самае лепшае, што можна зь ёй зрабіць — гэта забыць. Інакш яна сапраўды ператворыцца ў навуку пра д'ябла. Самае страшнае, што ў рубы талерантнасьці спрабавалі спавіць і культуру, і мастацтва, выракаючы контракультуру, культуру змаганьня, мастацтва адмаўленьня, нецярпімае, гвалтоўнае, актыўнае мастацтва на павольную сьмерць. Самае страшнае, калі мастацтва трапляе ў гэтую пастку, пагаджаецца на акт цярпімасьці, пагаджаецца гуляць па правілах, гуляць пад крылом усіх гэтых бессэнсоўных упраўленьняў культуры, творчых саюзаў, працаваць на паўтары стаўкі.

Увогуле, талерант-мастацтва мяжуе са штучным абсурдам; яно падобнае да сьпеваў кастратаў: у іх таксама можа гучаць глыбокае пачуцьцё, яны таксама могуць быць геніяльнымі, і ўсё ж яны застаюцца вузка спэцыфічнай і ненатуральнай галіной сьпеваў.

Толькі бунт робіць чалавека асобай, толькі незалежнасьць анталягічна апраўдвае ягонае быцьцё. Бяз бунту нельга. Мы жывем пры такім парадку, калі бунт магчымы перш за ўсё ў форме бунт-мастацтва. І калі чалавек знаходзіць паратунак у творчасьці, значыць, творчасьць яшчэ выконвае сваю ролю правідэнцыйнае выспы ў акіяне шызафрэніі. Бо яно так: творчасьць, асабліва творчасьць напаказ, разьлічаная на публіку, з элемэнтам эксгібіцыянізму, можа дапамагчы чалавеку стрымаць пераход дабраякаснай шызафрэніі ў злаякасную. Уласна, яна мае дапамагчы.

## Мова культуры, мова пратэсту

Калі прафэсар Шарэцкі ў свой час нейк выказаўся, што весьціме па-беларуску паседжаньні парлямэнту, прысьвечаныя культуры, а па-расейску паседжаньні, прысьвечаныя эканоміцы, «ЛіМ» выказаў гнеўнае шкадаваньне. Між тым, словы праф. Шарэцкага былі ня проста выпадковым адказам на шараговае пад'ялдыкваньне апазыцыйнага — на той час, і як хутка ўсё пераварочваецца — журналіста. За імі стаіць падсьвядомы пошук заходнебеларускай інтэлігенцыяй месца беларускай мовы ў заўтрашняй Беларусі.

Для пераважнай большасьці народу беларуская мова ўжо ня матчына, а ў лепшым выпадку бабчына, а то й дзядзькава — дзядзькі з радыё, дзядзькі з глухой вёскі, дзядзькі-мастака, дзядзькі зь мясцовай філіі БНФ. Якія шанцы ў яе ў падобнай сытуацыі?

Тут нельга не вярнуцца да пытаньня, што прагучала на пачатку: на якой мове размаўляць з усім тым паскудзтвам, што нас абкружае? На мове нецярпімасьці, на мове пратэсту. На мове ўпартага маральнага, інтэлектуальнага падпольля. На мове міждушэўных зносін. Калі трэба, калі вымусяць — як у Вэркора, лепшага вобраза ня знойдзеш — і на мове маўчаньня.

Адным словам, па-беларуску.

**Андрэй Дынько**

*Заказанка*

[1] Я зьвязаны зь іншымі, значыць, я існую.
[2] Chukwudum Okolo, What is to Be African? Essay on African Identity, Dialogue and Universalism, 1995/4, c.16. Warsaw.
[3] Leopold Sedar Senghor, Discours, prononce a l'Universite d'Oxford dans Oeuvres. Paris, 1988.
[4] Tom Mboya, Freedom and After, p. 16. London, 1962.
[5] What is to Be African, p. 19.
[6] Пераклад паводле Hermann Hesse, Die Bruder Karamazow oder Der Untergang Europas. Einfalle bei der Lekture Dostojewskis.
[7] «Архітэктура Беларусі», с.469. Менск, 1993. Тыя самыя зьвесткі прыводзяцца і ў Беларускай савецкай энцыкляпэдыі.
[8] тамсама, с. 488.

## Гелена Яголда (Дзісько):

# З успамінаў пра брата

Год назад пра беларускага хлопца з Пастаўшчыны Вітольда Дзісько, закатаванага ў 1964 годзе, я зьбіраўся напісаць сам. Не пасьпеў. Больш таго, разам з маімі дзёньнікамі да сьледчага Сакольчыка трапіў і філязофскі сшытак Вітольда... Цяпер мне падаецца магчымым даць на старонках «НН» слова ягонай роднай сястры Гелене Яголдзе. Летам 1994 г., праз 30 гадоў па сьмерці яе брата, лёсу было заўгодна зьвесьці мяне з гэтай жанчынай у пыльным салёне аўтобуса, што ішоў з Паставаў на Мольдзівічы. Тое спатканьне стала, бадай, галоўным вынікам экспэдыцыі «Правага Рэваншу» ў раён чыгуначнай ст. Гадуцішкі: мы знайшлі яшчэ адну старонку зь беларускай Кнігі лёсаў.

Вітольду было ўсяго шэсьць гадкоў, калі бальшавікі адправілі ў канцлягеры першую партыю беларускіх патрыётаў з Пастаўска-Глыбоцкага куста. Калі яму споўнілася 17, многіх сяброў Саюзу Беларускіх Патрыётаў ужо не было, іншыя вярталіся зь няволі на Радзіму. Час мінаў, але Беларусь заставалася пад акупацыяй і служкі КГБ працягвалі высочваць і забіваць беларускіх патрыётаў. Толькі на зьмену забраным прыходзілі новыя, шчырыя ў сваіх парываньнях зь нізінаў да волі і навукі беларускія юнакі і дзяўчаты. Чытаючы кнігу ўспамінаў «Гарт», я думаю, што паўставаньне асобы В.Дзісько было зусім не выключэньнем, а заканамернасьцю. Вітольд вымкнуў коласам зь беларускай нівы, урobленай папярэднімі пакаленьнямі. Магчыма, бываючы ў Паставах, Полацку, навакольных вёсках, ён спатыкаўся зь сябрамі СБП, якія вярталіся з ГУЛАГу, а калі й не сустракаўся, то павінен быў чуць пра іх...

Сьвядомаму ў самым сабе чалавеку жыцьцёвы шлях дапамагаюць пракладаць знакі — сымбалі лёсу. Шлях Вітольда Дзісько з 1863-га (сп. Гелена ўспамінае, што брат пераклаў з польскай кнігу пра паўстанцаў «Пералётныя птушкі»), з 1947-га і не абарваўся ў 1964-м. Цяпер мы ступаем па шляху супраціву, каб спагнаць даўгі і за сьмерць Вітольда таксама.

**Славамір Адамовіч**

Нарадзіўся Вітольд 10 траўня 1941 году ў вёсцы Малая Вольса. Бацькі мае пажаніліся ў 1940 г. перад вайной. Травень тады быў халодны. Былі ўжо прыляцеўшы буслы, і адзін усё хадзіў каля нашай сялібы. Тады суседзі жартавалі, што гэта бусел прынёс маме Вітэчка (так ласкава называлі яго ў нашай сям'і). Мама дала свайму сыну імя Вітольд у гонар свайго брата, які загінуў у канцлягеры ў Асташкаве на возеры Селігер.

Дзяцінства майго брата прыпала на ваенныя гады. Дзесьці ў трохгадовым узросьце ён моцна хварэў і толькі цудам выжыў. Па натуры ён быў спакойным, добразычлівым і ўражлівым, нікога ня крыўдзіў. Вельмі любіў слухаць, як мама чытала і сам ад малых гадоў прыахвоціўся да чытаньня.

У 1949 г. Вітольд пайшоў у 1-ю клясу Рудзёўскай пачатковай школы. Але ў першай клясе яму не было чаго рабіць, ён ужо ўмеў чытаць і пісаць. Дапамагаў другаклясьнікам рашаць задачы. Тады настаўніца пад сваю адказнасьць перавяла яго ў 2-ю клясу. Ужо на пачатку свайго жыцьця яму прыйшлося сутыкнуцца зь несправядлівасьцю. Наша мама, ды і ўся наша сям'я, была моцна веруючай. Бацькі забаранілі свайму сыну ўступаць у піянэры. Братавыя аднаклясьнікі пасьміхаліся зь яго, крыўдзілі за тое, што ходзіць з бацькамі ў касьцёл і моліцца, абзывалі ксяндзом. Але Вітольд ніколі нікому ня скардзіўся, быў цярплівым. Нават фізычны боль пераносіў даволі спакойна. Такія якасьці яму ўжо былі дадзеныя ад Бога. Памятаю, бабуля расказвала, што калі аднойчы Вітэчак прабіў цьвіком нагу, то ня плакаў, не крычаў, а моўчкі спрабаваў вырваць цьвік зь цела.

У Рудзёўскай школе Вітэчак скончыў 3 клясы і перайшоў у чацьвертую клясу ў Норкаўскую сямігодку, кілямэтраў за сем ад нашай Малой Вольсы. Цяжка было і бедна. Брат хадзіў у школу ў кірзавых ботах і ватоўцы, грошай на лепшае ня мелі. Трэба было сплачваць так званыя «бязацельствы». Вучыўся Вітэк і там вельмі добра. За выдатныя посьпехі і прыкладныя паводзіны атрымаў у 6-й клясе пахвальную грамату, надрукаваную на беларускай мове, з выявамі Леніна і Сталіна. Скончыўшы Норкаўскую сямігодку, брат далей прадоўжыў вучобу — пайшоў у Паставы ў трэцюю расейскую школу ў шостым ваенгарадку. Тут ён пачаў пісаць у раённую газэту «Савецкі шлях», пісаў пра жыцьцё калгаса, дзе працавалі яго бацькі, знаёмыя. У Вітольда была мара стаць журналістам, але дзеля гэтага трэба было быць камсамольцам і пісаць пра «цудоўную савецкую рэчаіснасьць». Аднойчы мама паехала да сына ў Паставы, каб завезьці яму якіх-такіх прадуктаў. У школе яе выклікалі ў канцылярыю, дзе дапытваліся, чаму сын не ў камсамоле. У 9-й клясе на брата чамусьці ўзьелася настаўніца геаграфіі, якая выставіла яму тройку. Урэшце рэшт прыйшлося Вітольду перайсьці ў школу рабочай моладзі, якую і скончыў у чэрвені 59-га.

У тыя часы ў ВНУ можна было паступіць толькі маючы працоўны стаж ня меней за два гады. Брату прыйшоў час ісьці ў савецкае войска. Маму й тату выклікалі ў сельсавет, потым тату адпусьцілі, а гаварылі толькі з мамай (пыталіся, ці ходзіць сын у касьцёл, ці не зьбіраецца стаць ксяндзом). Вітэчак усё лета пасьля школы працаваў у калгасе. У вольны час маляваў пэйзажы, сваіх суседзяў і мяне. Я ў яго была цярплівай мадэльлю. Увогуле ў брата былі залатыя рукі. Ён мог і гадзіньнік адрамантаваць, і пераплёт да кнігі зрабіць. Бабулькі прыносілі яму кніжкі да набажэнства, так званыя кантычкі, каб «апраўіў», а таксама старыя храномэтры, якія ўжо даўно не паказвалі час.

Позьняй восеньню, ужо перад самымі калядамі Вітольда выклікалі ў ваенкамат яшчэ з адным хлопцам з нашай вёскі. Назад брат не вярнуўся — яго кінулі ў псыхіятрычны шпіталь, а выпусьцілі толькі калі прыйшла мама. Чаму й за што, я так і ня ведаю, брат нічога не сказаў. Ён увогуле не любіў растлумачваць свае паводзіны. Тады КГБ і зацікавіўся маім братам, які, што праўда, часу дарма не губляў: працуючы ў калгасе, займаўся самаадукацыяй. Выпісваў шмат газэт і часопісаў. Вечарамі, пры сьвятле нафтавай лямпы, ён чытаў і пісаў. Бабуля часта сварылася на яго за гэта. І толькі мама разумела сына, зь ёю ён быў шчыры. Часта, калі яна была занятая хатнімі справамі, брат чытаў ёй угалас кнігі.



Я вельмі любіла свайго старэйшага брата, напэўна ў нас была нейкая душэўная еднасьць. Ён таксама любіў мяне, маляваў, браў з сабою, катаў на ровары. Калі ён прыходзіў з працы і сядаў есьці, таксама брала лыжку і сядала побач. Памятаю, як з чорнай рэдзькі ён выразаў для мяне чорцікаў. Я была самай меншай у сям'і, але ніхто са мной асабліва не займаўся, акрамя Вітэчка.

У 1960 г. Вітольд пасылаў дакумэнты на факультэт журналістыкі БДУ, але атрымаў адмоўны адказ. Ён ужо быў «неблагонадежный»: не камсамолец, не служыў у войску, верыў у Бога. І брату прыйшлося пайсьці ў другім накірунку. У 1961 г. калгас накіраваў яго ў Полацак на курсы электрыкаў, дзе ён і правучыўся зь лютага па сьнежань месяц. Жыў на квартэры, атрымоўваў калгасную стыпэндыю, амаль палову якой траціў на кнігі і падпіску. Выпісваў кнігі з Масквы, Пецярбургу, Польшчы. Брат любіў прыгожа апранацца, меў добры густ. Нават выпісваў замежныя часопісы з выкрайкамі моднага адзеньня. За гэта ў той час яго называлі «стилягой». Камсамольцы тады вялі барацьбу з такімі, як ён. Аднойчы з Полацку прыйшоў ліст на імя таты, але паехала мама, бо заўсёды яна займалася дзецьмі. Там яе, як і ў школе распытвалі пра сына: чым займаўся дома, як вучыўся, як сябе паводзіў. Камсорг курсаў крычэў на маму, што яна дрэнна выхавала сына, які пакланяецца Захаду, носіць джынсы, рознакаляровыя кашулі і доўгія валасы, сустракаецца з «распуснай» моладзьдзю. Нават хацелі брата адлічыць, але калгас плаціў стыпэндыю, ды і вучыўся Вітольд лепш за ўсіх, і не ўдалося выгнаць. У Полацку пазнаёміўся зь цікавымі людзьмі, такімі, як сам. Потым ужо, па заканчэньні курсаў, вёў вялікую перапіску. На жаль, перапіска і іншыя запісы, акрамя аднаго сшытка, не захаваліся. Многа чаго забралі гэбісты, калі прыяжджалі з вобыскам у вёску.

Можа скласьціся ўражаньне, што Вітольд быў сухім чалавекам, толькі і рабіў, што вучыўся. Гэта ня так. Ён быў нармальным хлопцам: хадзіў на вячоркі, прыгожа сьпяваў, любіў маляваць. Я за ім усюды бегала, садзілася побач і назірала, як з-пад пэндзлю зьяўляюцца дрэвы, неба, вясковыя хаты. Шмат маляваў вёску, навакольную прыроду...

Закончыўшы курсы, вярнуўся ў калгас працаваць электрыкам. Тады ў нас яшчэ не было электрычнага сьвятла. Працаваў на сушылцы, на збожжатаку, разьбіраўся і ў іншай тэхніцы. Аднойчы на сушылку прывезьлі новы электрарухавік, падключылі — не працуе. Брат паглядзеў і кажа, што трэба разьбірацць, бо ён дрэнны з заводу. Так і аказалася, хоць інжынэр і начальства спачатку і паднялі яго на сьмех. Паўтаруся, што брат скончыў курсы і працаваў, каб зарабіць стаж для паступленьня ў ВНУ. Гэтым разам ён задумаў стаць мастаком, хацеў паехаць на вучобу ў Вільню, паступіць на мастацкі факультэт. У в. Ярэва пазнаёміўся з спадарыняй Тэрэсай Іваноўскай, якая ўжо там вучылася, можа, на якім трэцім курсе. Акрамя маляваньня й самаадукацыі брат займаўся таксама й спортам, загартоўваўся. Памятаю, як зімою каля студні абліваўся вадой, зь цела валіла пара, калі вяртаўся ў хату. Наша Вольсаўскае возера пераплываў туды й назад безь перадыху. Дома падымаў двухпудовую гіру, а іншы раз і мяне адной рукой. Вясковую моладзь брат прыахвоціў да гульні ў мяч. Хоць і быў ён усяго толькі электрыкам, але ў прафэсіяналізьме не саступаў калгаснаму інжынэру. Вось яго і забралі на работу па электрыфікацыі раёну, што дазволіла часьцей бываць у камандзіроўках. Памятаю, як да нас у хату заяжджалі яго сябры, як за сталом пры чарцы вялі размовы пра літаратуру, мастацтва, палітыку. У час адной такой бяседы адзін з хлопцаў усё паўтараў: «Ах, як я ад вас адстаў, як адстаў!» Відаць, ён ня мог зь іншымі весьці адпаведнага ўзроўню гутарку. Яшчэ мой брат меў блізкія адносіны зь нейкім Толем (Анатолем). Захаваліся фатаграфіі апошняга. Гэты Толік займаўся, здаецца, камсамольскай работай. Што зьвязвала майго брата зь ім?..

Неяк у калгас прывезьлі фільм пра «бацьку ўсіх народаў» — Сталіна. Зрабілі аб'яву, каб сабраць больш людзей. Брат вырашыў выказаць пратэст і адключыў у калгасе электрычнасьць. Вядома, нехта пераказаў пра гэтае здарэньне і Вітольда пасадзілі на 15 сутак. Пасьля адсідкі прыйшлося яму пакінуць працу ў калгасе і ўладкавацца ў спэцупраўленьне №5 трэсту «Энэргабудмантаж», што было тады ў Маладэчне. Працаваў і адначасова працягваў займацца самаадукацыяй. Пераклаў з польскай мовы раман «Пералётныя птушкі», аўтара ня памятаю. Ведаю толькі, што кніга была пра ссыльных паўстанцаў 1863 г., іх уцёкі зь Сібіры. Куды дзеўся рукапіс, таксама ня ведаю, магчыма, адаслаў каму ў Менск. І вось аднойчы раніцай завіталі да нас у хату гэбісты. Мы зь сястрой ляжалі яшчэ ў ложку (былі вясновыя канікулы), мама біла масла. Прыехалі ўтрох: шафёр, адзін у форме і адзін у цывільным. Вітольд якраз пры іх пабег да студні мыцца. Гэбісты нешта з братам гаварылі, потым брат сеў за стол і стаў пісаць, пісаў дось доўга. Адзін гэбіст пераглядаў братавы паперы, што былі складзеныя ў драўляным куфэрку, другі сядзеў насупраць Вітольда. Мы зь сястрою баяліся, сядзелі ціха, бабуля ж вельмі нэрвавалася, усё прасіла маму, каб сказаць брату не пісаць нічога. Але як магла мама забараніць свайму сыну пісаць, яна магла толькі маліцца за яго... Гэбісты забралі ўсё, што ён напісаў, забралі нейкія іншыя паперы і частку перапіскі. Думаю, з таго часу гэбісты пільнавалі кожны братаў крок.

Як я ўжо казала, Вітольд у вольны час займаўся маляваньнем. Сам зрабіў эцюднік, зь Менску прывез поўную валізку фарбаў. Аднаго разу летам пайшоў на эцюды і не вярнуўся да дому. Аказалася, што ён маляваў Пастаўскі касьцёл гатыцкага стылю. Расклаў свае прылады на мосьце праз раку Мядзелку, каля яго сабраўся натоўп. Зацікавілася ім і міліцыя — забралі. Высунулі абвінавачаньне ў тым, што ён наўмысна сабраў людзей каля культавага будынку. Як гэта ў час разьвітага сацыялізму малады хлапец малюе касьцёл! Гэта можа рабіць толькі псыхічна хворы, ненармальны. І брата адвезьлі ў лячэбніцу, дзе ён прабыў ці ня тыдзень. Ізноў мама паехала выбаўляць сына. Доктарка запрасіла яе ў кабінэт. Ад той старой жыдоўскай жанчыны мама даведалася пра сынава выказваньне, што «камунізм — гэта мана». Брата ўрэшце выпусьцілі, а гэбісты яшчэ пару разоў наяжджалі ў вёску, распытвалі ў сваіх асьведамляльнікаў пра Вітольда.

Восеньню 1963 г. мой сярэдні брат Чэсь ішоў у войска. Быў сонечны дзень і Вітольд вырашыў зрабіць фотаздымкі. Потым захацеў сфатаграфавацца ўдвух з братам і кажа: «Ну, давай, брат, мы з табой абдымемся апошні раз!» Мама як закрычыць: «Ты што, Вітэчак, здурнеў, што ты гаворыш!» Мы ўсе падумалі, што мама баіцца за Чэся, але хто ж мог падумаць на іншае. Жыць Вітольду заставалася зусім мала.

Тым часам ён інтэнсіўна рыхтаваўся да вучобы ў Вільні. Стаж ужо быў выраблены. На той момант Вітольд з брыгадай мантажнікаў праводзіў электрычнасьць у в. Васіліны Пастаўскага раёну, дзе працякае рэчка Дзісенка. Са сваім напарнікам Е. ён атрымаў разьлік у канторы і прыехаў дамоў, каб сабраць дакумэнты і патрэбныя рэчы. Каб ён пасьпеў выехаць у Вільню, то напэўна быў бы жывы, бо ў Літве трохі інакш было. Літоўцы не любілі бальшавікоў і не зьбіраліся будаваць «сьветлую будучыню». Дык вось, 18 чэрвеня 1964 г. Вітольд паехаў з дому насустрач свайму лёсу. КГБ ня мог дапусьціць, каб брат вымкнуўся зь іхных лапаў. Па ўсіх правілах была зробленая інсцэніроўка. Брат мой ішоў на месца працы, у дарожнай валізцы ляжалі жалезныя кіпцюры электрамантажніка, пара кніг зь бібліятэкі, грошы і дакумэнты. Быў сонечны летні дзень. Брат ішоў палявой сьцяжынкай уздоўж рэчкі, як раптам у кустах напароўся на чатырох малойчыкаў, якія хацелі згвалціць дзяўчыну, і кінуўся ратаваць ахвяру. Гэта была пастка. Брата забілі ўдарам кіпцюроў у скроню і ўкінулі ў Дзісенку. Былі і сьведкі гэтага злачынства, але ўсе баяліся за свае жыцьці. У той дзень мама была дома, мы з бабуляю ў полі, а тата на працы. Старэйшая сястра пайшла дамоў па ежу. На «бобіку» да нас прыехалі начальнік Вітольда, міліцыя і яшчэ нейкія людзі. Сказалі маме, што прапаў Вітольд і яны яго шукаюць. Але адкуль такая апэратыўнасьць? Нехта так хутка даказаў, убачыў тапельца? А мы ж дома добра ведалі, куды зьбіраўся ехаць Вітэчак і калі меўся вярнуцца. Празь якой паўгадзіны на грузавіку заехаў сябра брата і паведаміў маме, што яе Вітольд утапіўся. Тата сам знайшоў свайго сына і дастаў з вады. На пахаваньні было шмат моладзі...

Мама адразу сьцяміла, што нешта ў гэтай справе ня так. Чаго сын у адзеньні і абутку палез у раку? Ён ня быў вар'ятам, ня быў п'яны, што пацьвердзіла экспэртыза. Ды і плаваў ён добра. Мама пайшла ў міліцыю прасіць, каб правялі расьсьледаваньне. Міліцыя адправіла ў пракуратуру, дзе ёй у грубай форме адказалі: «Кому нужно, тот знает, что случилось. Сиди мамаша, тихо и не вмешивайся». Мама спалохалася за ўсіх нас, зразумела, што ніхто ёй не дапаможа. А нас жа яшчэ заставалася трое.

Пасьля сьмерці Вітольда мама шмат чаго зь яго папераў зьнішчыла. Застаўся толькі сшытак зь філязофскімі разважаньнямі брата, карціны, кнігі і некалькі фотакартак. Засталася памяць...

**Гелена Яголда**

*7 сакавіка 1996 году, в. Мольдзевічы.*

# Адказ прафэсара Саламонава прэзыдэнту Лукашэнку

1. У чым сэнс віншаваньня?

За Вашым подпісам мною атрыманы ліст. Пачынаецца ён наступнымі словамі: «Горячо и сердечно поздравляю Вас с Днем независимости Республики Беларусь. Этот светлый праздник отмечается в нашей стране впервые. И не случайно совпадает с Днем освобождения Беларуси от гитлеровских оккупантов. Такова воля белорусского народа». Ад яго ў мяне атрымалася дваістасьць пачуцьця. Бо, з аднаго боку, я, маленькі чалавек, павінен ганарыцца ўвагай самога прэзыдэнта. Але, з другога, «у імя захаваньня гістарычнай праўды нам сёньня неабходна адкінуць палітычную кан'юнктуру» (словы з Вашай прамовы «на ўрачыстым паседжаньні, прысьвечаным дню Рэспублікі». Зьвязда, 4.7.1997). Ад сябе дадам, што мы павінны зрабіць гэта рашуча, з глыбінным пранікненьнем у сутнасьць падзеяў далёкіх часоў. І ня проста з пазыцыі асабістых думак і меркаваньняў. А з аднясеньнем усяго, што аналізуем, на фон агульначалавечых каштоўнасьцяў і неабходнасьці забесьпячэньня прагрэсіўнага разьвіцьця нашага грамадзтва. Каб разабрацца ў той велізарнай гістарычнай блытаніне, якую ствараеце Вы. Ствараеце наўмысна з мэтай сілавога навязваньня сваіх асабістых сьветапоглядаў ня толькі беларускаму народу. Ствараеце з карыснымі памкненьнямі захаваць уладу і карыстацца ёю.

2. Ісьціна і праўда

Выконваючы такі аналіз, будзем зыходзіць з таго, што ёсьць ісьціна і праўда. Пад ісьцінай пры тым будзем разумець працэсы, падзеі і ўчынкі, якія былі або адбываюцца ў прыродзе і чалавечым грамадзтве. А пад праўдай — тлумачэньне сутнасьці і мэтаў ісьціны, меркаваньні аб ёй і яе выніках, прычынныя разуменьні, пры адсутнасьці строгіх матэматычных доказаў.

Такі падыход да сутнасьці гэтых словаў разыходзіцца зь літаратурным іх успрыняцьцем. Бо, напрыклад, у адпаведнасьці са «Словарем русского языка» ісьціна, — «то, что соответствует действительности, действительное положение вещей; правда». А «праўда» — «то, что соответствует действительности; истина». Як бачым, атрымліваецца блытаніна. Прапанаванае ж намі паняцьце ісьціны і праўды канкрэтызуе іх і адпавядае звыкламу разуменьню гэтых словаў людзьмі («Сьвятая ісьціна», «Яго — і мая праўда» і інш.). Апроч таго, яно дае магчымасьць успрымаць ісьціну як факты падзеі (зьявы, учынку) у яго адназначным выразе. Напрыклад: над Зямлёй узьнікалі азонавыя дзіркі; велізарныя аскепкі камэт зь велізарнай хуткасьцю ўрэзаліся ў плянэту Вэнэра; фашысцкая Нямеччына разгромленая супольнымі сіламі антыгітлераўскай кааліцыі; СССР — самаразбурыўся. Але ж тлумачэньняў мэтавасьці, прычыннасьці і суадносін той ці іншай ісьціны зь іншымі працэсамі можа быць некалькі або мноства. І ўсе яны будуць своеасаблівымі праўдамі.

Так, у адпаведнасьці з Вашай праўдай, якую Вы нават самымі непрыстойнымі прыёмамі ўбіваеце ў сьвядомасьць людзей, «Распад СССР — трагічная падзея нашага жыцьця». Найбольш жа сьвядомая і разьвітая частка чалавецтва сьцьвярджае, што ворагі камунізму («міжнародныя імпэрыялісты, капіталісты, нацыяналісты, нацдэмаўцы, БэЭнЭфаўцы і іншыя») тут толькі сродкі. Бо паводле няўмольных законаў Гісторыі (як стваральніцы і фіксатара зьяваў і падзеяў чалавечага грамадзтва) любая імпэрыя непазьбежна мусіць распасца. Бо такое аб'яднаньне, створанае гвалтам адных народаў над іншымі, супярэчыць асноўным прынцыпам Боскіх законаў аб тым, што зыходна ўсе этнасы раўнапраўныя ў жыцьцёвых суаднасінах.

У Савецкім Саюзе (як апошняй імпэрыі сусьветнага зла), усе народы гвалтам, велізарнай бяздумнай лыжкай перамешваліся пад эгідай расейскага этнасу, якому прыпісваліся якіясьці асаблівыя выключныя ўласьцівасьці і прызначэньні. У выніку стваралася аднастайная, шэрая, безаблічная маса савецкіх людзей, як біялягічных робатаў, прызначэньне якіх — жыць па загадах з Масквы. Разнастайнасьць (як аснова для самаўдасканаленьня) зьнікала. Пачаў нават самарастварацца і расплывацца па чужых захопленых тэрыторыях і сам расейскі этнас. Пад велізарнай пагрозай апынулася яго мова, якая рашуча выцясьняецца ўсеперамоўным расейскім матам. На такім крутым віражы Гісторыі Боскія сілы не маглі не ўмяшацца, каб вярнуць розным этнасам СССР сваё прызначэньне.

3. Гістарычная бессэнсоўнасьць сілай створанага Вамі сьвята

Нармальная чалавечая логіка ня можа прывязаць да 3 ліпеня ні «дзень вызваленьня Беларусі» ад нямецкіх войскаў, ні яе «незалежнасьць», ні «абвяшчэньне» рэспублікі. Яшчэ больш немагчыма сумясьціць адзначаныя зьявы з адной датай, далучыўшы сюды і 930-я ўгодкі Менска.

Цяжка сказаць, якую мэту ставіла Ваша атачэньне (Антановічы, Абрамовічы, Слукі, Замяталіны і інш.), калі штурхала або бласлаўляла Вас на такую авантурную бязглуздзіцу, закрыцьцё, адкрыцьцё, аб'яднаньне розных паводле сэнсу гістарычных датаў у адно велізарнае сьвята. Бо, па-першае, 3.7.1944 г. быў вызвалены ад фашысцкіх войскаў толькі Менск і ўсходняя частка БССР, а ня ўся Беларусь. Па-другое, тая перамога прынесла Беларускаму народу не Вызваленьне ад савецтызму, не Незалежнасьць, а яшчэ большую бяспраўнасьць, новыя, ня менш жорсткія, чым перадваенныя, рэпрэсіі. Гэта яны зьнішчылілі ці прыдушылі духоўна многія тысячы лепшых беларусаў на ўласнай радзіме, або прымусілі каля мільёна прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі (найчасьцей ні ў чым не вінаватых) уцякаць у сьвет белы, каб ратавацца ад камуна-бальшавізму. І мне бачыцца велізарная, нават злачынная хлусьня ў закліках кшталту «неабходна... даць, нарэшце, дакладную ацэнку тым, хто супрацоўнічаў з акупантамі», або «здрадніцтва ёсьць здрадніцтва, якімі б вытанчанымі намерамі і матывамі не прыкрывалася» (з Вашай прамовы 2.7.1997 г. на ўрачыстасьцях). Бо пры адсутнасьці вызначэньня «супрацоўнічаньня з акупантамі» да ліку гэтых людзей можна аднесьці і настаўнікаў, што вучылі дзяцей пры акупацыі, і лекараў, што лячылі народ ад хваробаў у той час, і аграномаў, якія дапамагалі людзям вырошчваць для сябе ўратавальны хлеб, і наогул — усіх, хто за час акупацыі працаваў, каб выжыць. Бо што ж было ім рабіць, калі пад мудрым кіраўніцтвам КПСС, на чале з геніем І.В.Сталіна савецкія войскі пераможна ўцякалі на Ўсход, кідаючы ўсіх і ўсё на волю бязьлітаснага лёсу? У адпаведнасьці з гэтым беларускі народ мае ўсе правы прад'явіць Расеі велізарны рахунак як правапрыемніцы СССР за тую здрадніцкую пакінутасьць.

Не зьнявагі, а вялікай пашаны заслугоўваюць і тыя беларусы, якія ў сьмяротны час маглі марыць аб самастойнай дзяржаўнасьці сваёй зьвышпакутнай радзімы. Таму, напрыклад, зганьбаваныя імёны такіх беларусаў як Ларыса Геніюш (зьведала ўсё пекла ГУЛАГу) і Барыс Кіт (які ўратаваўся на Захадзе) Гісторыя яшчэ ўздыме над часам. Тут бясьсільныя любыя Вашыя намаганьні.


Дорогой (ая) Алексей Андреевич!

Горячо и сердечно поздравляю Вас с Днем независимости Республики Беларусь (Днем Республики)!

Этот светлый праздник отмечается в нашей стране впервые. И не случайно совпадает он с Днем освобождения Беларуси от гитлеровских оккупантов. Такова воля белорусского народа.

Все, кто шел в те годы под пули, снаряды и бомбы, кто в тылу врага ковал победу над фашизмом, готовы были терпеть любые лишения, отдать свою жизнь, лишь бы жила и процветала любимая Родина, был свободен и счастлив наш народ.

Бессмертный Ваш подвиг навечно останется в благодарной памяти потомков как вдохновляющий образец несгибаемого мужества и стойкости.

Понимаю, как больно Вам сегодня осознавать и испытывать на себе всю тяжесть социально-экономических трудностей.

Заверяю Вас, что руководство республики делает и будет делать впредь все возможное, чтобы Вы, Ваши дети и внуки никогда больше не испытывали ужасов войны, чтобы наша Беларусь, как и в те далекие послевоенные годы, мощным рывком вырвалась из плена тяжелейших испытаний.

Низко кланяюсь Вам. Благодарю за Ваш жизненный подвиг.

Желаю крепкого здоровья и благополучия Вам, Вашим родным и близким.

С уважением и глубокими чувствами признательности

Президент
Республики Беларусь
Александр Лукашенко



Па-трэцяе, ёсьць сапраўднае Сьвята Беларускай Незалежнасьці, якое назаўжды зьвязана з 25 сакавіка 1918 г., калі была абвешчаная Беларуская Народная Рэспубліка. І аніякая Ваша лютая нянавісьць да ідэалаў БНР ня ў сілах сьцерці са старонак гісторыі яе абвяшчэньне і (хоць і непрацяглае) існаваньне.

Па-чацьвертае, «так званыя нацыянал-дэмакраты» (Вашыя словы) ніколі ня ставілі «мэту падпарадкаваньня пад уладу Нямеччыны» стваранай тады БНР.

Па-пятае, ганьбаваныя Вамі перад усім народам «гора-палітыкі», «ня здольныя» (на Вашую думку) «бачыць далей свайго носа і мысьліць геапалітычнымі катэгорыямі», зьяўляюцца на самай справе прадстаўнікамі нацыянальна-ўратавальнай беларускай эліты і найбольш сьвядомай часткі Беларускага народа. Бо яны ставяць задачу спыніць той дзяржаўна-палітычны абсурд, які хваравіта навязваецца Вамі, і паступова пераходзіць да дэмакратыі стварэньня. Каб захаваць і разьвіваць Беларускі этнас, умацаваць Беларускую нацыю. Каб захаваць дзяржаўную самастойнасьць нашай радзімы. Каб самастойна і ганарліва ўваходзіць у агульначалавечае цывілізаванае супольніцтва, а не накідваць на шыю народа новую расейскую ўдаўку, якая ўжо паставіла Беларускі народ на мяжу этнічнага зьнішчэньня.

4. Чалавек на ўзроўні Вашай пасады не павінен быць дробязна помслівым

Былі раней краіны, кіраўнікі якіх самі стваралі і, нават, утрымлівалі апазыцыю, каб убачыць і адчуць уласныя памылкі, а потым выбраць лепшыя шляхі разьвіцьця. Вы ж пускаеце супраць сваіх апанэнтаў спэцыяльна падабраных людзей, згодных за грошы лупцаваць дубінкамі каго заўгодна і ў тым ліку — маці, бацькоў, сваіх братоў, сясьцёр і дзяцей за іх імкненьне да Разумнага, Добрага, Вечнага. У ліку тых, хто падлягае зьбіцьцю, відаць, ужо большая частка беларусаў. Некаторым Вы помсьціце інакш. Напрыклад, з брудам мяшаеце імя Сямёна Шарэцкага за тое, што ён урэшце стаў пад сьцяг тых сумленных людзей, якія ўсімі сіламі імкнуцца не дапусьціць зьнішчэньня Беларускага этнасу і самастойнай Беларускай дзяржаўнасьці. Ведаю, што і мне за гэтыя радкі прыдзецца паплаціцца. Бо Вашую помслівасьць спазнаў не аднойчы. Спачатку быў пабіты на праспэкце Ф.Скарыны 24 сакавіка 1996 г. у час шэсьця, прысьвечанага дню сапраўднай Незалежнасьці Беларусі. Потым ва ўгоду Вам — двойчы пазбаўлены працы. З Вашым імем асабіста зьвязана глухое маўчаньне ў адказ на вылучэньне мяне яшчэ 5.1.1995 г. да ганаровага званьня «Заслужаны работнік народнай адукацыі Рэспублікі Беларусь», хоць заслугі мае ў гэтым накірунку ня меншыя, чым у самога Васіля Стражава (копія ўзнагароднага ліста прыкладаецца).

5. У імкненьні перамагчы ворагаў штучнага сьвята і ўзвысіць сябе Вас не стрымалі стогны і сьлёзы пацярпелых ад урагану 23.6.1997 г. і ад іншых стыхійных бедстваў Беларусі

Бяда ж ад урагану-сьмерча страшэнная: пашкоджана 7200 толькі жылых памяшканьняў, практычна зьнішчана больш за 100 тысячаў га сельгаспалеткаў, толькі ў Берасьцейскай вобласьці «завалы на дарогах склалі 548,5 км», у рэспубліцы загінулі дзясяткі свойскіх жывёлін і каля дзясятка чалавек, дзясяткі параненыя. Агульныя матэрыяльныя страты ад гэтай бяды нават паводле сьціплых падлікаў ацэньваюцца ня менш, чым у «300 мільярдаў рублёў» («Звязда» ад 26 і 27.6.1997). На пакрыцьцё наступстваў такой прыроднай гульні спатрэбіцца большая частка крэдыту, што выдаткоўваецца нам Расеяй (500 мільярдаў, гл. «КП», 02.6.1997) на вытворчыя мэты.

Велізарныя страты нанесеныя нашай сельскай гаспадарцы другой стыхіяй — спазьненьнем прыходу лета і «прайшоўшымі ў канцы чэрвеня даўно ня бачанымі праліўнымі дажджамі» («Звязда» ад 5.7.1997), вельмі ўскладніўшы с/г сытуацыю рэспублікі наогул. Таму БНФ зьвярнуўся да Вас з патрабаваньнем «спыніць марнаваньне народных грошай на прапагандысцкае шоў рэжыму Лукашэнкі» («Народная воля» ад 28.6.1997). Прыкладна з такой жа заявай выступіла і беларуская сацыял-дэмакратычная партыя. Няўмольным Вы засталіся і пасьля выказваньняў вучоных, што дата заснаваньня Менску яшчэ дакладна ня вызначаная. Бо «археолягі не выключаюць, што, магчыма, ужо ў 2000 годзе Менск адсьвяткуе свой 1000-гадовы юбілей» («Звязда» ад 5.7.1997).

6. Вы хочаце быць мацнейшым за Бога

Аб гэтым абагульнена можна сказаць наступнымі словамі.

Бог ня ў сілах зьмяніць
Ход мінулых падзей, —
Тое можа рабіць
Хворы розум людзей.
І калі хтосьці зь іх
Узьбярэцца на трон,
То ў вар'яцках сваіх
Многа зла зробіць ён.
Будзе лезьці, мяняць
Гістарычны чарод,
Пад сябе падганяць
Падначальны народ.
Абалваньваць пачне
Ўсёй краіны жыцьцё,
Непакорных пашле
З добрых спраў — у небыцьцё.
Толькі Бог адштурхне
Ад сябе сатанізм,
І на зьмену пашле
Розум і Гуманізм.
Мы ж сумленьнем сваім
Дапаможам таму
І сябе адстаім
Чалавецтву ўсяму.

**Аляксей Саламонаў**

*6-7 ліпеня 1997 г.*

**ДАВЕДКА**

Аляксей Саламонаў (нар. 1925) інжынэр, прафэсар, загадчык унівэрсытэта беларускай мовы, гісторыі і культуры пры Беларускім дзяржаўным тэхнічным унівэрсытэце. Інвалід вайны 2-й групы, узнагароджаны ордэнамі і мэдалямі. Распрацоўкі і публікацыі ў галіне мэтодыкі адукацыі і навукі. Аўтар падручніка «Інжынэрная геадэзія», твораў у публіцыстычным жанры.

# Пацьверджаньне набыткаў

**Сьпіс асобаў і інстытуцыяў, якія перадалі ў фонды грамадзкага Архіву Найноўшае Гісторыі новыя матэрыялы:**

Віктар Нагнібяда (Менск) — Інтэрвію з Барысам Рагулем (касэта).

Мікола Касьцюкевіч (Менск) — Калекцыя беларускіх значкаў.

Севярын Квяткоўскі (Менск) — Значак: «Free Romashevsky» (1996).

KARTA (Варшава) — Депортації: Західні землі України кінця 30-х — початку 50-х рр.: Документи, матеріали, спогади. Т.1. 1939-1945. — Львів, 1996.

Уладзімер Арлоў (Менск) — Архіўная кніга / Аўтар-укладальнік Лявон Юрэвіч. — Нью-Ёрк: Беларускі інстытут навукі й мастацтва, 1997; Ю.Віцьбіч. Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі. — Нью-Ёрк: Беларускі інстытут навукі й мастацтва, 1996.

Беларускі Хельсынскі камітэт (Менск) — Праваабарончы агляд. №2.

Алесь Міхалевіч (Менск) — «Итак, стойте в свободе...» — Рязань: Карта, 1997.

Архіў Найноўшае Гісторыі выказвае ўсім ахвярадаўцам шчырую падзяку.

# Янка Купала

## Артыкул з Энцыкляпэдыі

Архіў Найноўшае Гісторыі зьвярнуўся да сп. Аляксея Каўкі з просьбаю запоўніць Анкету ўдзельніка руху дэмакратычнай апазыцыі Беларусі. Аляксей Каўка — літаратуразнавец, публіцыст, які ўжо даўно жыве ў Маскве да працуе ў Інстытуце славяназнаўства й балканістыкі РАН. Імя гэтага чалавека трывала зазначанае ў Найноўшай гісторыі Беларусі. У 1977 Аляксей Каўка пачаў распаўсюджваць «Ліст да расейскага сябра» («Письмо русскому другу») — зварот да расейскай інтэлігенцыі. У лісьце аўтар даказваў права беларусаў на самавызначэньне, на ўласны шлях у гісторыі. Ліст распаўсюджваўся ананімна на тэрыторыі СССР, а ў 1979 годзе быў выдадзены як дакумэнт беларускага «самвыдату» ў Лёндане (Letter to a Russian Friend: A «samizdat» publication from Soviet Byelorussia), атрымаў шырокі розгалас, зачытваўся беларускай і ўкраінскай рэдакцыямі радыё «Свабода», зьмяшчаўся й цытаваўся ў эміграцкім беларускім, расейскім, польскім друку.

Чакаючы інфармацыі пра гістарычныя падзеі, мы нечакана сутыкнуліся з фактамі сёньняшняй гісторыі. Выдавецтва «Беларуская Энцыкляпэдыя» вярнула Аляксею Каўку ягоны артыкул «Янка Купала», які быў напісаны для чацьвертага тому «Энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі». Як зазначыў сам аўтар у лісьце ад 4 ліпеня да свайго сталага менскага карэспандэнта: «Нашае супрацоўніцтва (зь БелЭн — *Рэд.*) здаецца на тым завершана і, не лукавя, мне трохі сумнавата ад разьвітаньня... Дык вось: «Купалаўскі» тэкст вельмі прашу неяк забраць адтуль і перадаць у «Н.Н.» — няхай друкуюць, калі захочуць. Бо аўтару, не з фанабэрыі, надта дарагія гэтыя старонкі, каб пакінуць іх у рэдакцыйнай кашы ці нават архіве».

Наколькі нам ведама, аўтар быў абвінавачаны ў стварэньні палітызаванага тэкста пра паэта. У сваім артыкуле Аляксей Каўка вызначыў сюжэты творчасьці Янкі Купалы, раскрыў сыстэму сымбалічных вобразаў ягонай паэзіі. Аляксей Каўка апроч паэтызацыі вызваленчага ідэалу Янкам Купалам адзначыў супярэчлівыя вобразы ў творчасьці ды біяграфіі паэта, ягонае крытычнае стаўленьне да ценявых бакоў беларускай рэчаіснасьці. Фактычна Аляксей Каўка сынхранізаваў творчую біяграфію Янкі Купалы з гісторыка-палітычнымі падзеямі ў Беларусі й на кантынэнце. Такі падыход мае бясспрэчную каштоўнасьць, найперш — для гістарычнай энцыкляпэдыі.

**Алег Дзярновіч**



Купала Янка (сапр. Луцэвіч Іван Дамінікавіч; інш. псэўд. Адзін з «парнасьнікаў», Вайдэльота, Здарэнец, Левы, Марка Бяздольны, Ня-Гутнік, Стары Мінчук, Янук з-пад Мінску, Янук Купала; 25.6(7.7).1882, фальварак Вязынка Менскага пав., цяпер в. Вязынка Маладэчанскага р-ну — 28.6.1942), беларускі паэт, драматург, публіцыст, перакладчык, грамадзкі дзеяч, клясык бел. л-ры, адзін з заснавальнікаў новай бел. л-ры і бел. літаратурнай мовы. Народны паэт Беларусі (1925), акадэмік АН БССР (1928), АН УССР (1929). Чл. К-ту па Сталінскіх прэміях СССР (1940). Ляўрэат Сталінскай прэміі (1941). Паходзіў зь безьзямельнай чыншовай шляхты, зь сям'і арандатара. Скончыў Беларуцкае народнае вучылішча (1898), вучыўся на агульнаадукацыйных курсах А.С.Чарняева ў Пецярбургу (1909-13), у народным ун-це імя А.Л.Шанаўскага ў Маскве (1915). Працаваў на бацькавай гаспадарцы (да 1902), хатнім настаўнікам, пісарам у судовага сьледчага, служачым у канторы маёнтка «Беліца» на Сеньненшчыне (1903-04), практыкантам, рабочым, пам. вінакура на броварах Меншчыны, Маладэчаншчыны, Наваградчыны (1905-07). Зь вер. 1908 у Вільні: супрацоўнік прыватнай б-кі Б.Л.Даніловіча «Веды», адначасова — рэдакцыі газ. «Наша Ніва». На зыходзе 1909 па запрашэньні Бр.Эпімаха-Шыпілы пераяжджае ў Пецярбург, працуе ў Публічнай б-цы, удзельнічае ў літ., культ.-асьв. вечарынах мясц. бел. дыяспары, асабліва студэнтаў зь Беларусі. З кастр. 1913 зноў у Вільні: сакратар Бел. выдавецкага т-ва, рэдактар «Нашай Нівы» (1914-15). З студз. 1916 на вайск. службе ў якасьці ст. рабочага дарожна-буд. атрада Варшаўскай акругі шляхоў зносін; пазьней — агент аддзела забесьпячэньня Зах. вобласьці (Смаленск, 1918 — студз. 1919). З 21.1.1919 у Менску: бібліятэкар пры Бел. народным доме Нар. камісарыята асьветы, супрацоўнік рэдакцыі газ. «Беларусь», рэдактар час. «Рунь» і «Вольны сьцяг», нам. загадчыка літ.-выдавецкага аддзела Наркамасьветы БССР (1919-22), супрацоўнік каапэратыўна-выдавецкага т-ва «Савецкая Беларусь», Бел. дзярж. выд-ва (1922-25). Зь ліп. 1925 на творчай рабоце. На працягу 1920-х г. працуе на розных дзялянках нац.-культ. будаўніцтва пад дэвізам беларусізацыі: удзельнічае ў заснаваньні БДУ, Навук.-тэрміналяг. камісіі, Ін-ту бел. культуры, АН БССР, літ. аб'яднаньня «Полымя», выступае на творчых сустрэчах з грамадзкасьцю. Творчасьць, асоба К. набываюць агульнанародную павагу і прызнаньне, становяцца сымбалем духоўнага гуртаваньня нац. інтэлігенцыі, шырокіх грамадзкіх колаў у агульнабел. адраджэнцкім працэсе. Але ў канцы 1920-х г. працэс гэты быў гвалтоўна перакрэсьлены бальшавіцкімі ўладамі беззаконнай расправай над бел. творчай элітай, абвінавачанай у «нацыянал-дэмакратызьме» (сфабрыкаваная справа т.зв. «Саюзу вызваленьня Беларусі», СВБ). Па гэтай справе быў прыцягнуты і К. на той падставе, што ён нібыта ўваходзіў у склад кіраўніцтва СВБ, зьяўляўся, паводле сакрэтнага данясеньня ў ЦК ВКП(б) сакратара ЦК КП(б)Б Гея, «ідэйным цэнтрам нац.-дэмакратычнай контаррэвалюцыі», аўтарам твораў «кулацкага і прама контаррэвалюцыйнага зьместу». Пасьля выкліку ў ГПУ К. 27.11.1930 зрабіў спробу самагубства, але быў выратаваны. 14.12.1930 газ. «Звязда» надрукавала «Адкрыты ліст Янкі Купалы» (верагодна, падрыхтаваны ідэаляг.-наглядчымі службамі), вытрыманы ў самапакаяльна-асуджальным духу адносна некаторых твораў паэта (вершы «Паўстань...», «Перад будучыняй», п'еса «Тутэйшыя»), скіраваны супраць ідэяў і традыцыяў «нашаніўства», «адраджэнства», «незалежніцтва» як «нацыянал-дэмакратычных», шкодных і несумяшчальных з задачамі сацыяліст. будаўніцтва. Падобны ліст зьявіўся ў друку і ад імя Я. Коласа. Імёнамі абодвух народных песьняроў, найбуйнейшых постацяў-сымбаляў нац. адраджэньня пануючая сыстэма выносіла свой канчатковы прысуд бел. адраджэнцкай ідэі і практыцы, пахаваных у наступныя дзесяцігодзьдзі пад татальным асымілятарствам-русіфікатарствам, разгорнутым у Беларусі пад шыльдай бальшавіцка-камуністычнага інтэрнацыялізму. Міжвольным закладнікам партыйна-таталітарнай сыстэмы становіцца і сам К., асуджаны разам з усёй сав. л-рай на ўслаўленьне пануючага ладу, на непапраўныя ідэйна-мастацкія страты. На працягу 1930-х г. К. удзельнічае ў заснаваньні і кіраўніцтве Саюзу сав. пісьменьнікаў БССР і СССР (1934), у прыняцьці новай «сталінскай» Канстытуцыі СССР 8-м Надзвычайным зьездам Саветаў (1936), у падрыхтоўцы канчатковага тэксту Канстытуцыі БССР (1937), у працы Народнага Сходу Заходняй Беларусі і прыняцьці Дэклярацыі аб уваходжаньні Зах. Беларусі ў склад БССР (Беласток, 1939), зьдзейсьняе творчыя паездкі па рэспубліцы і за яе межы. Асабістым прыкладам, аўтарытэтам спрыяў папулярызацыі ў сьвеце бел. культуры, пашырэньню яе міжнац. сувязяў, міжнароднага прэстыжу. Выбіраўся кандыдатам у чл. ЦВК БССР у 1927-29, чл. ЦВК БССР у 1929-31, 1935-38. Дэпутат Вярх. Савету БССР з 1940.

Напад гітлераўскай Германіі на Беларусь, СССР стаў чарговай трагедыяй для К., усяго народа. Зь першых дзён вайны ён пакідае палаючы Менск (у агні загінулі архіў, бібліятэка паэта). З 7.7.1941 у Маскве. Выступае з антыфашысцкімі артыкуламі, адозвамі ў бел. і ўсесаюзным друку, удзельнічае ў І-м Усеславянскім мітынгу, стварае палымяны верш «Беларускім партызанам». У ліст. 1941 К. пераехаў у пас. Пячышчы каля Казані. 12.3.1942 выступіў з дакладам «Айчынная вайна і беларуская інтэлігенцыя» на навук. сэсіі АН БССР у Казані. 18 чэрв. прыехаў па творчых справах у Маскву, 28 чэрв. пры нявысьветленых абставінах трагічна загінуў у гасьцініцы «Масква». Пахаваны на Ваганькаўскіх могілках; у ліп. 1962 урна з прахам К. перавезеная ў Менск і ўрачыста перапахаваная на Вайсковых могілках. Помнікі К. пастаўленыя ў Менску, Вязынцы, Ляўках, Радашкавічах, Араў-парку ў ЗША. Створаны купалаўскі літ. музэй у Менску, мэмарыяльныя запаведнікі «Вязынка», «Ляўкі», «Акопы». Імя паэта прысвоена Нац. акадэм. драм. тэатру, Ін-ту літаратуры АН Беларусі, Гарадзенскаму ун-ту, станцыі менскага мэтрапалітэну, шэрагу бібліятэк, школ, вуліц у гарадах і пасёлках Беларусі. З 1959 устаноўлена Літ. прэмія імя Янкі Купалы, з 1965 Дзярж. прэмія імя Янкі Купалы ў галіне літаратуры, мастацтва і выканаўчага майстэрства.

Фэномэн К. як паэта і мысьліцеля, творца панарамнага паэтычнага партрэту, маст. гісторыі і гісторыясофіі бел. народа абумоўлена характарам эпохі, нац. кансалідацыі, вызв. змаганьня і самавызначэньня прыгнечаных народаў, у прыватнасьці беларусаў. Іх гістарычнае, героіка-трагічнае шэсьце на гэтым шляху, адвечнае, неадольнае імкненьне «людзьмі звацца», зьдзейсьніць сваё ўласнае права на свабодны, дзярж.-незалежны быт, на ўсебаковае, бесьперашкоднае самараскрыцьцё сваёй бел. асабовасьці як неад'емнай, незаменнай часткі агульначалавечай супольнасьці знайшлі ў творах К. найбольш глыбокае і дасканалае філязофска-паэтычнае адлюстраваньне, як творчы «сынтэз змаганьня нацыянальнага і сацыяльнага» (Ант.Навіна (А.Луцкевіч)), як высокамастацкае ўвасабленьне «нацыянальна-вызваленчай легенды, у цэнтры якой адраджэньне Беларусі» (Ул.Калесьнік). Праблемы вызваленьня беларусаў з-пад сац.-паліт., культ. заняпаду, абуджэньня, актывізацыі іх гістарычнай, нацыянальнай самасьвядомасьці, агульнабел. гуртаваньня на супольным вызв. шляху, раскрыцьцё духоўнага хараства чалавека працы, увасабленага ў ім, шырэй — у абагульненым, адухоўленым вобразе маці-Беларусі найлепшых маральна-этычных і эстэтычных каштоўнасьцяў, неадольнай жыцьцесьцьвяральнай энэргіі складаюць сутнасьць сьветапогляду, творчай дзейнасьці К.

Ужо ў першым друкаваным вершы «Мужык» (1905), затым у зб. «Жалейка» — творах пераважна «сялянскага», сацыяльна-выкрывальніцкага характару выразна зазначыўся глыбока праўдзівы, па-мастацку дасканалы паэтычны геній К. як нац. будзіцеля, духоўнага правадыра народа. Прасякнуты, зьнітаваны вызв. ідэяй мастацкі ідэал К. пасьлядоўна раскрыты ім у шырокай сыстэме сымбалічных вобразаў: маці-Беларусі, Бацькаўшчыны-Беларусі, бел. краявіду, бел. селяніна, бел. жанчыны, бел. моладзі, бел. гісторыі, бел. песьні, роднага слова, Паэта-песьняра-гусьляра-званара, Сьвету-Сусьвету, а таксама ў антыподах-ворагах Беларушчыны, у мностве маст. тыпаў і пэрсанажаў, у непаўторных купалаўскіх узорах інтымнай, грамадзянскай, філязофскай, пэйзажнай лірыкі. Усё разам узятае стала жывым, рознабаковым, сапраўдным энцыкляпэдычным увасабленьнем бел. жыцьця, бел. духоўнасьці ў яе арганічнай сузалежнасьці з духатворчымі традыцыямі агульначалавечай культуры (зб. «Гусьляр», 1910; «Шляхам жыцьця», 1913; «Спадчына», 1922; «Безназоўнае», 1925; драматургічныя творы «Паўлінка», 1912; «Раскіданае гняздо», 1913; «Тутэйшыя», 1922 і інш.). У творчым мэтадзе К. арыгінальна, па-майстэрску сынтэзаваліся, узбагачаныя на бел. лад, розныя літ. плыні і школы (рамантызм, рэалізм, сымбалізм), невычэрпныя скарбы народнай паэтыкі, багатая высокаміталягізаваная фантазія самога паэта. Адна з гал. тыпалягічных прыкмет К. зьвязаная з маст. асэнсаваньнем гісторыі краіны і народа, прычым не ў канкрэтна-храналягічным ці факталягічным вымярэньні, але як найвышэйшай Гісторыі-Праўды-Ісьціны, у яе паза- і надчасовым, па сутнасьці сакральным значэньні. На таямнічых шалях гісторыі, на яе адвечных полюсах паміж вечным і часовым, высокім і нізкім, трагічным і камічным і г.д. важыцца і выпрабоўваецца, пад пяром паэта, шматвяковы, вельмі няпросты лёс Беларусі, ня раз трагічна крыжаваны дыктатам і насільлем чужынцаў: «Вораг польскі і рускі // Шчыра множыў курганы // Не было Беларусі, // Толькі быў «край забраны» // Расіяне, палякі // ды французы і шведы // Беларускай крывёю // Палівалі край гэты» («Летапіснае»). Публіцыстычна завостраны матыў чужынца («Чужнік усяк», «непрыяцель-брат», «чужак-дзікун», «з поўначы разбойны чужаніца», «сусед паганы», «маскалі ды ляхі», «Варшава панская і царская Масква» і г.д.) — адвечнага далакопа і глуміцеля паліт. і духоўнай незалежнасьці Беларусі — зьяўляецца адным з скразных, ідэйна-мастацкі арганізуючых кампанэнтаў купалаўскай нац.-патрыятычнай, вызв. легенды (вершы «Алекунам», «Беларушчына», «Годзе!..», «Наша гаспадарка», «Сярод разьюшаных сатрапаў», «Ворагам беларушчыны», «Свайму народу», «Сваякі», «Як цені» і інш.). Адваротны бок прыўнесенага ў краіну чужацкага «мэдаля» зьвязаны ў К. з засільлем у самім бел. грамадзянстве паднявольнай ідэалёгіі і псыхалёгіі, рабалепства перад прыгнятальнікамі-іншаземцамі, з праблемай беларуса-адшчапенца, вырачэнца, нутранага халопа. Праявы самазьнявагі, прыстасавальніцтва, «дабравольнага жабрацтва» у паліт. быце Беларусі, асабліва нац. здрадніцтва («Свае таргуюць і чужыя табой, няшчасны беларусе!»; «Сумленьне, край прадаць гатовы за бліск нагруднага значка»; «І ты, Масквы каронная гразь...» (вершы «Сярод разьюшаных сатрапаў», «Адшчапенцам (Заходнім)», «Акоў паломаных жандар») знаходзяць у К. разнастайнае паэтычна-публіцыстычнае і сатырычна-драматургічнае вырашэньне. Гэтыя ценявыя бакі бел. рэчаіснасьці раскрываюцца і асэнсоўваюцца ў кантэксьце больш шырокай, вузкай праблемы нац. самаўсьведамленьня і самасьцьверджаньня, росту грамадзянскай і чалавечай годнасьці ў народзе, фармаваньня і выхаваньня ўласна беларускай, нац.-сьвядомай народнай інтэлігенцыі, здатнай несьці людзям сьвятло сапраўднай, непадробленай культуры, аддана служыць справе Бацькаўшчыны. Вобразным увасабленьнем высокадухоўнага, ахвярнага служэньня роднаму краю стала легендарная, міталягізаваная К. постаць гусьляра ў паэме «Курган» і рэалістычная, рамантычна прыўзьнятая фігура настаўніка Янкі Здольніка («Тутэйшыя»).

Паэтызацыя вызваленчага ідэала ў К. спалучана і абумоўлена шырокаабсяжным аглядам бел. мінуўшчыны, пададзенай у супярэчлівых вобразах: з аднаго боку, героіка-рамантызаванага ўзвышэньня старадаўняй Беларусі, слаўных продкаў, з другога —гратэскна заніжаных нашчадкаў, асуджаных на сваёй уласнай зямлі пакланяцца «прыблуднай чэрні», валачы ярмо зьнявагі і зьдзеку (паэмы «На дзяды», «Гарыслава», «На куцьцю», вершы «Памяці С.Палуяна», «Казка аб песьні», «Пад Нёманам», «Забраны край», «Наша мінуўшчына», «Перад крыжам», «Цару неба й зямлі» і г.д.). Ідэалізаваным увасабленьнем слаўнай, драматычнай мінуўшчыны на фоне panылай, бязрадаснай сучаснасьці зьяўляецца сымбаль кургана — найбольш пашыраны, амаль дамінуючы ў паэтычнай сымболіцы К. Ён выступае як таемны, дыялектычна супярэчлівы знак велічы і заняпаду краіны, неспасьцiжная загадка яе векавечна-пакутнай трываласьці, разгадаць якую паклікана новая, на тым жа курганным пасадзе адроджаная Беларусь (вобразы Князя, Сама ў паэмах «На куцьцю», «Сон на кургане»). На вобразным палатне маладой разьняволенай Беларусі сынтэзуецца паэтам яе сучаснае, будучае, канчаткова вырашаецца трагічная наканаванасьць у бел. долі («Маладая Беларусь» («Вольны вецер напеў вольных песень табе...), «Ужо днее», «Роднае слова» («Пад навалай крыўдаў многія сталецьці»), «Выйдзі...», «Свайму народу», «Хрыстос васкрос», «Арлянятам» і інш.). Тымі ж жыцьцеабнаўленчымі зрухамі выкліканае і мэтафарычнае ўслаўленьне паэтам пачаткаў нац. гіст. навукі, першых сучасных бел. гісторыкаў (вершы прысьвячэньні В.Ю.Ластоўскаму «Дудар», «Песьня званара», У.М.Ігнатоўскаму — «Наш летапісец»), яго глыбока пранікнёныя адносіны да спадчыны бел. народа, найвялікшых постацяў бел. духу Ф.Скарыны, К.Каліноўскага і інш.

У публіцыстыцы К. знайшлі сваё адлюстраваньне многія вострыя праблемы надзённай бел. рэальнасьці: праявы нац.-моўнага нігілізму сярод беларусаў, асымілятарскае стаўленьне да іх праваслаўных і каталіцкіх царкоўных інстытутаў, рэакцыйнага расейскага друку (арт. «Ці маем мы права выракацца роднай мовы», «Вера і нацыянальнасьць», «А ўсё ж такі мы жывём!..»), нац. дзярж. самавызначэньне, зямельная рэформа, вайсковае будаўніцтва, станаўленьне паліт. незалежнасьці Беларусі, перакрэсьленае нашэсьцем на яе абшары ў 1918-20 сав. Расеі і Польшчы, калі «сацыяльныя рэвалюцыянэры з усходу і «нацыянальныя» рэвалюцыянэры з заходу... паказалі праўдзівую натуру» (арт. «Справа незалежнасьці Беларусі за мінулы год»); салідарнасьць з барацьбой за самавызначэньне другіх прыгнечаных народаў — Украіны, Індыі, Прыбалтыкі, Закаўказьзя (арт. «Беларускае войска», «Торжышча»). Своечасовай і прадбачлівай аказалася характарыстыка К.-публіцыстам пралетарскай рэвалюцыі ў Расеі на чале з бальшавікамі як разбуральніцкай, антыгуманнай зьявы, варожай фактычнаму, недэкляратыўнаму самавызначэньню прыгнечаных нацыяў. Імпэрска-нявольніцкая сутнасьць новага паліт. ладу выказана ў вершах «На прызьбе», «Пазвалі вас...», «Царскія дары». У якасьці антытэзы касмапалітычнай рэвалюцыйнасьці паэт і публіцыст К. вылучае ідэю нац. рэвалюцыі, прызваньне якой у гуртаваньні розных сац. і паліт. сіл дзеля вызваленчай, стваральнай працы ў інтарэсах бел. дзяржавы, эканам. і культ. росквіту яе грамадзян, а не крывавыя бойкі і войны. Маст. вырашэньне гэтай ідэі зьдзейсьненае ў вобразе-сымбалі Ўсебел. сходу (намечаны яшчэ ў драме «Раскіданае гняздо»), у сузалежных сымбалях Бацькаўшчыны, Народа, Прарока, Песьняра, Ваякі, Уладара. Іх арганічнае спалучэньне і ўвасабляе гіст. пэрспэктыву вызваленьня зваяванай ворагам краіны, яе «стоптанага на пясок» народу (вершы «На сход», «Час!», «Паўстань...», «Перад будучыняй», песенны цыкл «Песьні на ваяцкі лад»).

Востра перажываў паэт паліт. паражэньне БНР — першай рэальнай спробы адраджэньня бел. дзяржаўнасьці, грамадзянскую слабахарактарнасьць, нямогласьць суродзічаў абараніць уласную незалежнасьць, іх кампрамісную падатлівасьць чужацкаму дыктату («Беларускія сыны», «25.III.1918 — 25.III.1920. Гадаўшчына-памінкі»), падзел бел. абшару ў выніку сав.-польскай вайны, непаўнавартасьць створанай, тэрытарыяльна ўсечанай БССР («Далі шэсьць паветаў — дзякуй і за гэта!»). Пасьля працяглай дэпрэсіі К. уступае ў творчы дыялёг з пануючым сав. ладам — наколькі той рэальна спрыяў утварэньню бел. дзяржаўнасьці, сац. разьняволеньню, разьвіцьцю нац. культуры (паэмы «Безназоўнае», «З угодкавых настрояў», вершы «Ці хто думаў...», «Летапіснае» і інш.). Паэт-прарок, Грамадзянін-Патрыёт застаецца са сваім народам, гатовы да скону дзяліць зь ім выпрабаваньні лёсу, пераканаты ў неадольнасьці свайго народнага свабодалюбівага ідэалу, сваёй бунтарскай вызваленчай Ліры: «На чорных пажарышчах дзён мінулых // Народ разбуджаны сабе сам ладзіць гаспадарку // І веру... не прадасьць ён за чужую скварку // Ані сваёй зямлі, ані сваіх дум чулых. // Я веру, песень маіх кліч бунтарскі // Знаходзіць водгук будзе ў сэрцах братніх...» («Шляхам гадоў. 15.V.1905 — 15.V.1925»).

Надзвычай плённа паставіўся К. да ўсебаковага асваеньня моўна-выяўленчых скарбаў бел. народа, распрацоўкі, дыфэрэнцыяцыі лексіка-стылістычных сродкаў паэтычнай, усёй літ.-пісьмовай практыкі, нармалізацыя нац. літаратурнай мовы. Многія словы і словазлучэньні К. набылі агульналітаратурнае, агульнаграмадзкае значэньне як асацыятыўныя вобразы-сымбалі Беларусі, Беларускага Гістарычнага Шляху, Беларускай Духоўнасьці: бацькаўшчына, доля, грамада, беларушчына, гусьляр, папас, Пасад, папараць-кветка, курган векавечны, спадчына, родная старонка, арляняты, жыве Беларусь! і інш. З іскраю божаю ў сэрцы паэт, цудадзейны творца слова і вобраза, К. адарыў наша прыгожае пісьменства многімі крылатымі выразамі: «А хто там ідзе, а хто там ідзе...?», «Будзь сьмелым, будзь моцным ярмо друзгачы, ідзі сам наперад, другіх вядучы», «Вы ня зломкі, вы ня зноскі, вы — народ магучы!», «Гэта енк, гэта крык, што жыве Беларусь!», «Вучыся, нябожа, вучэньне паможа», «Курганы шмат чаго нам гавораць...», «Ня вам, ня вам гасіць паходні, што распаліў жывы народ!», «Душой я вольны чалавек і гэткім буду цэлы век!».

Глыбока нацыянальны паэт-мысьліцель, К. сваёй творчасьцю, усім ладам асабістага жыцьця выказаў высокае разуменьне ўнівэрсальных, агульначалавечых ідэяў справядлівасьці, чалавекалюбства, гарманічна аб'яднаў у сваёй паэтыцы хрысьціянскую, боганатхнёную і сьвецкую духоўна-культ. плыні, якасна прымножыў і ўзбагаціў шматвекавыя традыцыі бел. Адраджэньня. Пераклаў на бел. мову паасобныя творы А.Пушкіна, Т.Шаўчэнкі, А.Міцкевіча, М.Канапніцкай, У.Бранеўскага, «Інтэрнацыянал» Э.Пацье, помнік усходнеславянскай пісьменнасьці «Слова аб палку Ігаравым» і інш. У вачах айчыннай і міжнароднай грамадзкасьці постаць К. застаецца высокім сымбалем гіст. жыцьцяздольнасьці, духоўнага бесьсьмяроцьця бел. народа.

Тв.: Зб. тв.: У 6 т. Мн., 1925 — 32; Зб. тв.: У 7 т. Мн., 1972 — 76; Спадчына. Нью-Ёрк — Мюнхен, 1955; А хто там ідзе? На мовах сьвету. / Скл. В.Рагойша, Я.Раманоўская. Мн., 1983; Жыве Беларусь: Вершы, артыкулы / Укладаньне, прадмова, і каментарый В. Рагойшы. Мн., 1993.

Літ.: Янка Купала ў літаратурнай крытыцы і мастацтвазнаўстве: Бібліяграфія. Мн., 1980; Бабкова Л., Вітушка Н., Камінская Л. Янка Купала: Да 100-годзьдзя з дня нараджэньня. Бібліягр. паказальнік. Мн., 1984; Пуцявінамі Янкі Купалы: Дакумэнты і матэрыялы / Скл. Г.В.Кісялёў. Мн., 1981; Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе: Бібліяграфія / Скл. В.Кіпель, З.Кіпель, Нью-Ёрк, 1985; Янка Купала: Энц. даведнік. Мн., 1986; Ярош М.Р. Янка Купала і Якуб Колас: Параўнальны аналіз творчасьці. Мн., 1988; Калесьнік У. Тварэньне легенды. Мн., 1988; Багдановіч І. Янка Купала і рамантызм. Мн., 1989; Бяляцкі А. Літаратура і нацыя. Мн., 1991; Яго ж. Янка Купала и революция // Нёман. 1989 №11; Купалаўскія чытаньні: Навук. канфэрэнцыя, прысьвечаная 106-й гадавіне з дня нараджэньня Я.Купалы і 80-годзьдзю яго першага зб. «Жалейка». Мн., 1991; Протько Т.С., Лапец П.Д., Антонович Т.М. Янка Купала: трагический 1930-й // Нёман. 1990. №10; Рагойша В. Бацька нацыі // Полымя. 1992. №6, 7; Каваленка В. Вяртаньне да Купалы // ЛіМ. 1993. 22 студз.; Колас Г. Янка Купала — Рэмінісцэнцыі і міфы // ЛіМ. 1993. 13 ліст.; Лойка А. На трагічных перавалах. Шляхамі беларускай паэзіі XX стагодзьдзя // Полымя. 1993. №1; «За парадай да «бацькі» Сталіна» (Публ. У.Ракашэвіча // ЛіМ. 1993. 13 кастр.; Сачанка Б. «Пяяць, аб чым думка пяе» // ЛіМ. 1993. 23 каст.; Гніламёдаў У. «Ёсьць яшчэ ў мяне сіла...» // Полымя. 1994. №1.

**Аляксей Каўка**

## Максім Гарэцкі:

# ТВОРЫ ЗА РАМКАМІ КНІГ

Упершыню публіцыстыка Максіма Гарэцкага больш-менш поўна была сабраная пад вокладкаю гэтак званага «дадатковага тому» Збору Твораў (Максім Гарэцкі. Творы. — Менск: Мастацкая літаратура, 1990), які ўкладзены і пракамэнтаваны Т.Голуб і адрэдагаваны М.Мушынскім. На вялікі жаль, укладальнікі хутчэй за ўсё ставілі сабе за мэту стварыць для Гарэцкага імідж «ідэалягічна граматнага» аўтара, і таму на старонкі вышэй названага выданьня ня трапіла значная колькасьць газэтных публікацыяў М.Гарэцкага 1919-21 гадоў. Ня ўлічаныя яны і ў кнізе Т.Дасаевай «Летапіс жыцьця і творчасьці Максіма Гарэцкага» (Менск: Навука і тэхніка, 1993).

Прыведзеныя ў нашай сёньняшняй публікацыі тэксты М.Гарэцкага «Аб урадах на Беларусі і ўрадзе Беларускае Народнае Рэспублікі», «Беларусы і жыды», «Аб справах дня», «Гдзе ёсьць беларусы або нашы маленькія жаданьні», «Падбухторываньне» былі ў свой час зьмешчаныя на старонках віленскіх беларускіх газэт «Наша Думка» (1920-21) і «Беларускія ведамасьці» (1921-22) пад псэўданімамі Дзед Кузьма і А.Мсьціслаўскі. Ідэнтыфікацыя аўтара ў гэтым выпадку не выклікала асаблівых клопатаў, бо менавіта такімі псэўданімамі карыстаўся пісьменьнік на працягу 1918-27 гадоў. Яны зафіксаваныя ў «Слоўніку беларускіх псэўданімаў і крыптанімаў (XVI-XX ст.)» Янкі Саламевіча. Прыналежнасьць іх Максіму Гарэцкаму пацьвярджаюць таксама ўкладальнікі шасьцітомнага Збору Твораў.

Зацемка «Нацыянальна-культурная праца Горы-Горацкіх вучняў-беларусаў» была апублікаваная 6 лістапада 1919 году ў штодзённай газэце «Беларусь» і падпісаная крыптанімам М.Г-к. Падобна на тое, што Максім Гарэцкі скарыстаўся гэтым крыптанімам толькі адзін раз або подпіс быў пастаўлены проста ў рэдакцыі. На карысьць аўтарства М.Гарэцкага сьведчаць наступныя факты:

а) супадзеньне ініцыялаў пісьменьніка з крыптанімам М.Г-к, а таксама наяўнасьць у прозьвішчы М.Гарэцкага літары «к»;

б) у гэтай зацемцы вядзецца гаворка пра дзейнасьць горацкіх студэнтаў-беларусаў, пра якую М.Гарэцкі безумоўна ведаў. Горацкія студэнты фігуруюць як актывісты беларускага адраджэньня ва ўсходняй Магілёўшчыне на старонках аповесьці «Дзьве душы», якая ўпершыню была надрукаваная летам 1919 году ў віленскім штотыднёвіку «Беларуская думка»;

в) пра аўтарства М.Гарэцкага ўскосна могуць сьведчыць наступныя сказы з артыкула: «У сярэдзіне мая ў Горках меўся быць настаўніцкі зьезд. Як ён адбыўся, гэтага ня ведаю»; «Наогул, з мая месяца пэўных вестак аб працы ўжо няма». Рэч у тым, што ў лютым 1919-га М.Гарэцкі пераехаў разам з газэтай «Звьзда» ў Вільню, а з красавіка 1919-га, пасьля раптоўнага наступу войскаў Жэлігоўскага на паўночна-заходнюю Беларусь, Вільню й Горы-Горкі падзяліў польска-савецкі фронт, і магчымасьць абмену інфармацыяй паміж Заходняй і Ўсходняй Беларусяй была вельмі абмежаваная.

Тэкст «Цікавае здарэньне было тут...» — гэта фрагмэнт карэспандэнцыі «Навіны з Горак Магіл[ёўскай]. Губ[эрні].», які не патрапіў на старонкі газэты «Наша Ніва». У аддзеле рукапісаў і рэдкай кнігі бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай Рэспублікі захоўваецца аўтограф гэтай карэспандэнцыі (ф. 21, спр. 149, арк. 4). Адтуль і ўзнаўляецца абыйдзены ўвагаю выдаўцоў «Нашай Нівы» фрагмэнт.

**Андранік Антанян**

## Аб урадах на Беларусі і ўрадзе Беларускае Народнае Рэспублікі

У №1 «Нашае Думкі» за 1921 год, у заметцы «Колькі цяпер урадаў у беларускага народа?» перанятай з «Новага Варшаўскага Слова» і папраўленай водле запраўднасьці, мы дайшлі страшэннай цыфры 10...

Апрача адзінага законнага ўраду Беларускае Народнае Рэспублікі і камуністычнага ўраду Савецкае Беларусі, мы налічылі яшчэ шмат чужацкіх урадаў, да якіх адыйшлі сумежныя часткі падзеленай Беларусі. Памянулі мы таксама і адзін самазваны ўрад, так званы Беларускі Палітычны Камітэт, бо ён яшчэ толькі паўставаў і не пасьпеў зламаць сабе авантурніцкай шыі, як падобныя да яго папярэднікі (гл. артык. «Самазванцы»).

Страшэнная цыфра 10! Яна робіць вялікую прыемнасьць ворагам беларускага народа, як гэта бачым з іхных і падкупленых імі газэт. Яна робіць вялікі смутак тым маладушным беларускім грамадзянам, якім здаецца, што Бацькаўшчына падзелена ўжо навекі, а яе законны ўрад гдзесьці загінуў.

Але дужа цешацца з нашага ўпадку ліхія людзі і дарма сумуюць нашы маладушныя браты.

Дарма, бо навет тое становішча, якое цяпер маем, калі ў ім разгледзіцца, ня можа пацешыць ворагаў і засмуціць сваіх.

Чужацкія ўрады на кавалках Беларусі ня ёсьць ўрады беларускія, — гэта адно.

Яны не дасталі тут законнага панаваньня з рук законнага беларускага ўраду, — гэта другое.

І хоць бы іх было ня пяць, а сто пяць, — цана ім адна.

Аб самазваных урадах няма што і казаць.

Астаюцца толькі два беларускія ўрады: законны ўрад Беларускае Народнае Рэспублікі, на чале якога стаіць вядомы правадыр беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянэраў Вацлаў Ластоўскі, і камуністычны ўрад Беларускае Савецкае Рэспублікі, на чале якога стаіць вядомы правадыр беларускіх камуністаў Аляксандар Чарвяк.

Значыцца, маем якраз такое-ж палітычнае становішча, як украінскае, латыскае, літоўскае і навет польскае, дзе таксама відзім з аднаго боку народна-рэспубліканскія ўрады, зусім буржуазныя ці болей-меней блізкія да сацыялістычных, а з другога боку ўрады камуністычныя. Розьніца толькі тая, што камуністычны ўрад Лацьвіі сядзеў у Рызе, а камуністычныя ўрады Беларусі, як і Ўкраіны і цяпер сядзяць у самых асяродках сваіх старонак.

Праўда, ёсьць і яшчэ адна розьніца: тады, як іншыя з казачных камуністычных урадаў нікім не прызнаныя, — украінскі і беларускі камуністычныя ўрады так ці гэтак прызнаныя Польшчаю праз мір з Расейскай Савецкай Фэдэрацыяй у Рызе.

Што ж з гэтага вынікае?

Але ад такога факту палітычнае значэньне і першага з гэтых урадаў а ні каліўца не зьмяншаецца, а наадварот, — таксама ўзрастае.

Кожны, хто прызнаў Беларускую Народную Рэспубліку ў прынцыпе, тым самым прызнае і яе ўрад, каторы мае законныя правы называцца ўрадам гэтае Рэспублікі.

А ўрад Беларускае Народнае Рэспублікі пакуль што мае гэтыя правы, быць можа абніжаныя мірам у Рызе ў адносінах да ўсходняе Беларусі, але зусім не абніжаныя да Беларусі не-Савецкай.

Адхілімся для патрэб забыўчывых людзей троху назад... Найвышэйшай праявай усебаковаадраджэнцкай работы беларускіх мас была праца над будоўляй свайго незалежнага гаспадарства. Гэтая работа разьвярнулася ў першыя дні рэвалюцыі ў лютым 1917 году. У марцы ў Менску адбыўся людны зьезд беларускіх грамадзкіх прадстаўнікоў, на якім быў заснаваны «Беларускі Нацыянальны Камітэт». Месца апошняга заняла «Цэнтральная Рада Беларускіх Арганізацыяў і Партыяў». За шэсьць месяцаў рэвалюцыі ідэя адраджэньня і палітычнага самавызначэньня Беларусі ўсё узмацоўвалася і разьвівалася на чысьленных зьездах, мітынгах і сходках. Пасьля трэцяе сэсіі «Цэнтральнае Рады Беларускіх Арганізацыяў і Партыяў» у кастрычніку 1917 году ясна выявілася патрэба стварыць дзяржаўна-праўную ўстанову, якая ўзяла-бы ў свае рукі ўласьць і палажыць асновы Беларускай Рэспублікі. Дзеля гэтага былі скліканыя армейскія зьезды на ўсіх франтах: заходнім у Менску (18-24 кастрычніка), паўночным у Віцебску (15-20 лістапада), румынскім у Адэсе (3-8 сьнежня), паўдзённа-заходнім у Кіеве; два зьезды беларусаў-бежанцаў у Маскве і адзін у Менску; зьезды вучыцялёў і розных грамадзкіх арганізацыяў у Смаленску, Віцебску, Полацку і іншых местах. Рэзультатам гэтых зьездаў было заснаваньне «Вялікай Беларускай Рады» і «Беларускай Цэнтарльнай Вайсковай Рады», а таксама скліканьне Ўсебеларускага зьезду з установачнымі функцыямі ў Менску 18 сьнежня 1917 (5-17 сьнежня старога стылю).

Усебеларускі Зьезд быў найбольш поўным і сур'ёзным выяўленьнем волі Беларускага народу, раўнуючы да такога-ж выяўленьня волі другімі народамі былай Расеі. На зьезд прыехалі дэпутаты ад валасных (сялянскіх) земстваў і камітэтаў з усяе этнаграфічнае Беларусі, ад павятовых і губэрнскіх земстваў, мястовых самаўпраўленьняў, работніцкіх арганізацыяў, ваенных з усіх фронтаў і тылу арміі, бежанскіх саюзаў і камітэтаў, коопэратываў, прафэсіянальных і іншых саюзаў Беларусі, усіх палітычных партыяў — разам 1167 дэпутатаў з правам пастанаўляючага голасу і 705 — дарадчага. Зьезд, выяўляючы сувэрэнную волю Беларускага Народу, пастановай 31 сьнежня 1917 году ўстанавіў рэспубліканскі дэмакратычны лад у межах Беларускае зямлі і выбраў найвышэйшую ўладу Беларусі: Раду Ўсебеларускага Зьезду.

Рада Першага Ўсебеларускага Зьезду — у ліку 54 асоб, папоўніўшы свой склад прадстаўнікамі ад нацыянальных меншасьцяў краю, выбрала Спаўняючы Камітэт і даручыла яму правадзіць у жыцьцё ўсе пастановы зьезду.

Спаўняючы Камітэт быў складзены з 17 асоб і вёў змаганьне, бароначы волю беларускага народу на незалежнае дзяржаўнае жыцьцё, якая была выказана на зьезьдзе.

Калі пасьля Берасьцейскай умовы бальшавікі пакідалі Менск, Спаўняючы Камітэт арганізаваў збройную сілу, абвесьціў сябе вышэйшай уладай на Беларусі і выдзяліў між сябе ўрад рэспублікі — Народны Сэкрэтарыят.

Народны Сэкрэтарыят (Рада Народных Міністраў) быў прызваны ўсімі дэмакратычнымі гарадзкімі і земскімі самаўрадамі, як вышэйшая дзяржаўная ўлада Беларускай Народнай Рэспублікі.

Такім парадкам, хаця і на нядоўгі час, была праведзена ў жыцьцё адна з самых галоўных пастаноў Першага Ўсебеларускага Зьезду. Не на даўгі час дзеля таго, што прыйшоўшая нямецкая акупацыйная ўлада спыніла працу Народнага Сэкрэтарыяту і не дала магчымасьці ўмацавацца беларускім дзяржаўным установам на правінцыі.

Лінія ваеннага фронту, якая ўстанавілася на ўсходзе ў верасьні 1915 году разьдзяліла Беларусь на дзьве часьці. Пры гэтым у межах акупацыі апынулася ўся Гарадзеншчына, вялікшая частка Віленшчыны і невялікі кавалак Меншчыны.

25-26 студзеня 1918 году беларусам з вялікім трудам удалося склікаць у Вільні нацыянальную канфэрэнцыю, на якой былі прадстаўнікі акупаванай у 1915 гаду часьці Беларусі (Віленшчыны, Гарадзеншчыны і часткі Меншчыны). Канфэрэнцыя выказалася за адбудову фэдэратыўнай Беларуска-Літоўскай дзяржавы прызываючы да еднасьці і заакопную ўсходнюю Беларусь, аб долі і палажэньні каторай нямецкія ўласьці не прапускалі ў Вільню ніякіх вестак. Канфэрэнцыя выбрала также найвышэйшую беларускую нацыянальную ўстанову для зямель старой нямецкай акупацыі — Беларускую Раду, каторай наказала супольна з літоўскім нацыянальным прадстаўніцтвам і нацыянальнымі меншасьцямі падгатаваць скліканьне ўстаноўчага сойму.

Заняцьцё нямецкім войскам Менску, дзе знаходзілася цэнтральная ўстанова беларускай дзяржаўнай уласьці, прыняўшай пад той час імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, дало магчымасьць беларусам старой і новай акупацыі зыйсьціся разам і згаварыцца пасьля трохгадовага перарыву ўсялякіх зносін. У канцы марца 1918 году ў Менск прыехала дэлегацыя Беларускае Рады з Вільні, якая і прыняла ўчасьце ў гістарычным паседжаньні Рады Рэспублікі 24-25 марца. Рэзультатам злучэньня прадстаўніцтва ўсходняй і заходняй Беларусі было апавяшчэньне незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі яшчэ не адзін раз папаўнялася прадстаўнікамі ад розных дэмакратычных арганізацыяў і павятовых беларускіх рад.

У гэткім складзе Рада Б.Н.Р. бесьперастанна змагалася за сувярэнныя правы беларускага народу на яго дзяржаўнае, незалежнае быцьцё.

Рада Б.Н.Р. увайшла ў зносіны з усімі дзяржавамі Эўропы й дамаглася ўчасьця на мірным кангрэсе ў Парыжы.

Перад прыходам у Менск бальшавікоў, Рада вымушана была распусьціць сябе на неазначаны час, даручаючы весьці ўсю далейшую працу Радзе Народных Міністраў.

3 лістапада 1918 году пачала працаваць рада міністраў на чале з А.Луцкевічам.

У сьнежні (дзекабры) 1919 году ў Менску Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, замест старога кабінэту А.Луцкевіча выбрала новы на чале з Вацлавам Ластоўскім.

Праўда, у выбарах ураду В.Ластоўскага не прынімала ўчасьця група сяброў Рады Рэспублікі, сабраныя ў прыватным памяшчэньні вядомага беларускага дзеяча правага кірунку А.Уласава.

Гэтая група выказала веру старому беларускаму ўраду А.Луцкевіча.

Такім чынам, у Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, расшчэпленай у сьнежні 1919 г. на дзьве часткі, зьявілася і два ўрады. Адзін — урад А.Луцкевіча, другі — В.Ластоўскага.

Аднак, гэта дваяўласьце цягнулася ня доўга.

Міністры кабінэту Луцкевіча, быўшыя за граніцай, перайшлі ў кабінэт Ластоўскага. Сам А.Луцкевіч пад той час аказаўся інтэрніраваны ў Варшаве, пакліканы туды старшынёю польскага ўраду Падэрэўскім і быў бясьсільны выехаць у Эўропу. Ён зрокся сваіх паўнамоцтваў, чым аканчальна разьвязаў пытаньне аб сваім кабінэце.

І гэты высока-шляхетны акт з боку А.Луцкевіча, памог беларускай справе і грамадзянству тым, што ізноў яны зрасьліся ў адно цела, з адным кіруючым цэнтрам, якім і зьяўляецца ў сучасны момант урад В.Ластоўскага, як урад Беларускае Народнае Рэспублікі.

Гэты ўрад мае ўсе фармальныя і іншыя правы лічыцца адзіным правамоцным беларускім урадам, — бо ён выбран Радай Рэспублікі, у яго ўвайшлі прадстаўнікі быўшага кабінэту А.Луцкевіча, атрымаўшага паўторны мандат ад другой часткі Рады.

Пасьля ўсяго вышэй казанага пытаньне аб урадах на Беларусі і ўрадзе Беларускае Народнае Рэспублікі можа стацца спосабам газэтнага круцісельства толькі ў самых наіўных нашых ворагаў і спосабам палітычнае авантуры толькі ў людзей маральна зусім паўшых або бязмозглых.

**А.Мсьціслаўскі**

*«Наша Думка», 14 студзеня 1921.*

## Беларусы і жыды

Блізка што ўва ўсіх літэратурных мовах сьвету ёсьць пісьменьнікі родам жыды.

Адзін з лепшых сучасных пісьменьнікаў і паэтаў беларускіх, вядомы Зьмітрок Бядуля — таксама жыд Вялейскага павету.

У творах жыдоўскага клясыка Абрамовіча (Мэндэле Мойхер Сфорым), што быў родам з Капыля Менскай губэрні, заўсёды чуюцца нашы родныя беларускія мотывы.

Жыдоўскі пісьменьнік Абраам Ману, пісаўшы свой біблейны роман з ідылічных часоў цара Хіэкія і прарока Ісая, маляваў ціхі Бэтляхам, быўшы натхнёным прыгожымі ўзьбярэжжамі беларускага Нёмна.

Знамяніты жыдоўскі пісьменьнік часоў «haskola» (адраджэньня) Перац Смаленскій лічыцца таксама выхаванцам Беларусі.

З Валожынскага (Вілен. губ.) «Ешыбота» выйшаў знамяніты жыдоўскі поэт Х.Н.Бялік.

У Беларуска-Літоўскім Княстве высокую пасаду займаў пярэхрыст (няма чаго дзівіцца, што ў тых часох нехрышчоных ня прыймалі на гэткія службы) Абрам Язэфавіч Рэбічковіч, каторы пры Жыгімонце I дайшоў да пасады падскарбія земскага (міністра фінансаў) і сябра Рады.

Першы пасьля ўцёку бальшавікоў з Менску Сэкрэтарыят Беларусі меў у сваім складзе жыдоў: Гутмана (без партфэля) і Белкінда — сэкрэтара фінансаў.

На першым сялянскім зьезьдзе ў Менску, што быў скліканы Беларускім Нацыянальным Камітэтам 4-га красавіка 1917 г., дэлегатам ад Паўлавіцкай воласьці Магілёўскай губ. і павету быў жыд Мордух Янкеляў Зільбэрман. Ён там сельскім старастаю ўжо 30 гадоў.

Лічу за прыемнасьць гэткаю памяткаю пачаць сваю мову аб нашай жыдоўскай інтэлігенцыі.

Надыйшлі вялікія часы, калі сьвядомыя беларусы грамадзяне-жыды мусяць безадкладна абмеркаваць і ўзважыць свае адносіны да нашага «haskola» і да будаваньня новага жыцьця на Беларусі.

Надыйшлі вялікія часы, калі рух «беларускага адраджэньня» вышаў з тэй пары, што можна было не зважаць на яго.

Бо з ім цяпер шчыльна складаецца доля ўсяе Беларусі, а гэта значыць і далейшая доля жыдоўскага грамадзянства на Беларусі.

І беларускія жыды мусяць або працівіцца беларускаму руху або спагадаць і дапамагаць яму.

Якім-жа шляхам ідзе наша жыдоўская інтэлігенцыя?

Спачатку рэвалюцыі, калі беларусы ў Менску пачалі выступаць пад сваім уласным штандарам, гарачэй за ўсіх віталі іх жыды.

З другога боку, да апошніх часоў было сярод жыдоў досыць многа і праціўнікаў

Працяг на старонцы 22.

# Максім Гарэцкі: Творы за рамкамі кніг



Праця́г са старонкі 21.

нашага руху.

Галоўным чынам моцна абмаскаленая жыдоўская моладзь да гэтага часу ня хоча зразумець ідэі беларускага адраджэньня і часам вельмі шкодзіць беларускай рабоце як сярод мястовых работнікаў, так і сярод сялян. Прычынай, чаму так робіць гэтая моладзь, ёсьць яе несьвядомасьць у беларускай справе, і толькі. І нам асабіста вядома, што пасьля закліку да жыдоўскай інтэлігенцыі, з якім зьвярнулася вясною 1919 г. віленская «Беларуская Думка», беларусы-адраджэнцы прыдбалі ня мала гарачых спагадачоў і навет дзейных прыхільнікаў з паміж тых жыдоўскіх грамадзян, якія захацелі бліжэй пазнаць беларускі рух і пазналі яго.

Дык можна толькі пажадаць, каб і жыдоўская прэса болей давала свайму грамадзянству патрэбнай веды аб яго бліжэйшым суседзе — беларусах. Калі жаданьне гэтае зьвязаць з тым, што дзеецца на ўскрайках Беларусі, дык вага яго асабліва кідаецца ў вочы.

Вядома, што жыдоўскія мястэчкі сярод беларускіх вёсак зьяўляюцца свайго роду культурнымі асяродкамі, дзе болей пісьменных людзей, болей сьвядомасьці ў палітычным жыцьці, часьцей бывае газэта і кніга. І наагул жыдоўскае грамадзянства мястэчак стаіць вышэй за сялянскія масы ў справах грамадзкага жыцьця.

І вось, каб там была такая-ж згода ў беларусаў з жыдамі, якую выказала прыкладам, жыдоўскае і беларускае грамадзянства ў справе выбараў у сойм, то было-б шмат карысьці дзеля абеіх нацый, а разам з тым і дзеля ўсяе старонкі.

Тым жыдом, якія дагэтуль застаюцца несьвядомымі русіфікатарамі, мы гаворым: — годзе! сплачывайце доўг беларускаму мужыцкаму [народу] і так рабеце лепшую будучыню і дзеля сябе самых. Бярэце прыклад з сваіх братоў, якія зразумелі нас, і мы будзема шанаваць і любіць вас, як шануем і любім іх. Вы, меўшыя магчымасьць здабыць сьвятло навукі, навучайце «тутэйшага» быць беларусам і грамадзянінам. Вы, жывучыя спрадвеку побач з беларускім народам, заглянеце ў яго душу, пацікаўцеся ёю і, калі можаце, памажыце ёй.

**А.Мсьціслаўскі**

*«Наша Думка», №6, 11 лютага 1921.*

## Аб справах дня

Сучасная Польшча, карыстаючы з часовага ўпадку Маскоўшчыны, ахвотна падзялілася з ёю Беларусьсю, уступіўшы навет большы кавалак, чым узяла сабе.

І сучасная Польшча яшчэ настолькі панская старонка, што ў ёй зусім ня чуваць галасоў аб несправядлівасьці зробленай беларусу.

Благія ўчуцьці нанесеныя быўшым нацыянальным паніжэньнем, а цяпер узгадаваныя агульнай абстаноўкай, настолькі засьляпілі многім вочы, што цьвярозых галасоў зусім ня чуваць. І якое-ж горкае расчараваньне будзе тым людзём, калі наступіць час расплаты за сваё асьляпленьне!

А што гэты час наступіць, добра ведаюць усе, апроч асьляплённых.

Усе цьвярозыя людзі ведаюць, што граніцы, прызнаныя ў Рызе, ня будуць граніцамі Польшчы. Бальшавікі прызналі іх, каб толькі адчапіцца; дзеля іх што «пахабны» мір з Нямеччынай, што рыжскі мір з Польшчаю — усё роўна. Ніколі ня згодзіцца на іх і запраўдная дэмакратычная Расея, калі б яна зрабілася. Ня хоча прызнаваць іх і Антанта.

А насамперш ніколі іх не пацерпіць Беларусь...

Дык на якія ж дзівы спадзяюцца асьляплёныя?

Можа на тое, што Польшча павядзе на далучанай частцы Беларусі нямецкую палітыку? Палітыку, дзякуючы якой многія палякі-верхнесілезцы аддалі свае плебесцытныя галасы не за Польшчу, а за Нямеччыну.

Дармавая надзея... Бо ніколі не расла беларуская нацыянальная сьвядомасьць, як расьце яна цяпер пад польскім панаваньнем.

Ніколі ня былі польскія ўплывы — палітычныя, эканомічныя, культурныя — ня былі такімі слабымі на Беларусі, як цяпер, па заключэньні міра ў Рызе.

Навет тая няшчасная «Найвышэйшая Беларуская Рада», якая ад бязвыхаднасьці свайго становішча ў справе адраджэньня бацькаўшчыны, сьлепа ўверавала ў Польшчу і пайшла на найвялікшыя нацыянальныя афары, прыблізіўшы свае думкі да якойсь «культурнай аўтаноміі» па тэрміналогіі пана Скульскага; якая, ня зрокшыся сваіх прэтэнзіяў на дзяржаўнае прадстаўніцтва Беларусі, маўчала, калі яе бацькаўшчыну дзялілі ў Рызе, бо думала, мусіць, што і ёй там паны-апякуны нешта вытаргаюць, — навет гэтая няшчасная «Найвышэйшая Рада» ад польскай палітыкі стала ня рада...

Калі да гэтага дадаць яшчэ літоўска-беларускі хаўрус; калі тут успомніць выданую бальшавікамі да ўсіх беларускіх дзеячоў і культурных працаўнікоў, і такую драбніцу, як асыгноўка Масквою дваццацёх (20) мільёнаў рублёў царскімі грашыма на выданьне беларускіх кніг, у той час, як Польшча дае нуль (0) мільёнаў польскіх марак на дэкляраваную «культурную... незалежнасьць», ці «аўтаномію», ці як там хто разумее; калі ўзяць усё гэта пад увагу, — дык будзе ясна: ці дужа моцны той грунт, на якім збудаваны усходнія граніцы Польшчы мірам у Рызе?

Авой! Сярод будаўнічых новае Польшчы надта многа ёсьць такіх, што пясок уважаюць за камень і на гэтым камені будуюць.

А беларуская і польская нацыі так цесна зьвязаны, што наш падзел — негаючая болька на польскай рэспубліцы. Каліж пад гэтай рэспублікай пасыплецца пясок, шмат болек будзе і ў нас.

Дык гора нам, гора і вам!

За тую «роўнасьць» за тую «вольнасьць».

**А.Мсьціслаўскі**

*«Наша Думка», №13, 1 красавіка 1921.*

## Гдзе ёсьць беларусы або нашы маленькія жаданьні

У №241 віленскай «Жэчыпосполітай» пан Я.О.* разглядаючы артыкул з №7 «Бел. Ведам.» аб сьлезскай справе, хоча ўпэўніць сваіх прастакоў-чытальнікаў, што мы памыляемся, прызнаючы віленскіх беларусаў за беларусаў... Пан Я.О., без аніякіх гістарычных фактаў і наўпрэкі навет найпаважанейшым польскім гісторыкам, цьвердзіць, што мы не беларусы, а мазуры, ці лепей кажучы — зьбеларушчаныя мазуры.

На сваіх гістарычных адкрыцьцях пан Я.О., аднак, моцна не стаіць і ахвотней згаджаецца браць пад увагу толькі сучаснае становішча.

Пахваліўшыся, што ён добра знае віленскія месты і вёскі, пан Я.О. кажа, што ён толькі нядаўна спатыкнуўся з беларушчынай і толькі ў местах. Далей, замест таго, каб проста і шчыра адрачыся ад сваёй выдумкі аб коштах, на якія выдаюцца «Беларускія Ведамасьці», пан Я.О. піша, што «беларуская прэса ня вырасла з масы беларускага люду», што яна да вайны істнавала на няведамыя грошы, а цяпер жывіцца з польскага ўраду або з іншых крыніц, пагражаючых навет палітычным крыміналам!

Пан Я.О. ня ведае, што беларуская прэса створана сваёй народнай інтэлігенцыяй, тымі дзяцьмі «масаў беларускага люду», з якіх некаторыя ўва імя ідэі, навет у магілу пайшлі без пары, — цераз меру працавалі і не даядалі кавалка хлеба, каб толькі была гэтак нялюбая пану Я.О. прэса.

Пан Я.О. ня хоча ведаць, што «Наша Ніва» выдавалась на грошы падпісчыкаў, якіх мела ў дзесяткі і сотні разоў болей, чым мае цяпер «Жэчпосполіта», а таксама й на дабравольныя складкі, на ахвяры і на грошы выручаныя нябожчыкам Іванам Луцкевічам ад продажы польскім паном розных старых і фамільных брындзюлек, ня вельмі патрэбных Беларускаму Нацыянальнаму Музэю.

Пан Я.О. кажучы, што быццам адна беларуская газэта выдавалася на нямецкія грошы, забываецца з такім жа аснаваньнем сказаць, што польскіх газэт немцы выдавалі некалькі. І беларускі, як і польскі народ, і гонар гэтых народаў — пры чым тут? Што датычна рэдактарства, то важна не фамілія Зуэміля, Пільца, Шульца, Обста ці якаясь іншая, а важан кірунак газэты: ці яна прадажная ці не. Урэшце — далікатнасьць за далікатнасьць: ці ведае п. Я.О., што ў аднэй варшаўскай эндэцкай, як і «Жэчпосполіта», газэце, з яе ведама працуе цяпер чалавек, каторы быў раней... рэдактарам бальшавіцкага органу! Ці ня ведае таксама ён, на якія даляры выдаюцца і некаторыя эндэцкія газэты?

Шкода, апроч таго, што п. Я.О. не называе той газэты на беларускай мове, якая запраўды выглядае так, як-бы яе рэдактарам і выключным кіраўніком ёсьць польскі падахвіцэр.

Далей, п. Я.О. кажа, што ў ведамых для яго вёсках Віленшчыны ня знаюць навет слова «Беларусь», «беларускі». І мы помнім, што да вайны шмат-дзе ня гэтак ня ведалі, а пры стане асьветы ў Сярэдняй Літве падобная цямнота магчыма і цяпер. Ёсьць навет такія вучыцялі і асабліва вычыцелькі, быўшыя раней у вайсковых мундурах, якія мяшаюць у вадно нацыянальную і рэлігійную прыналежнасьць, думаюць «што католік, то і поляк» і ня ведаюць, што рымскі папеж не паляк і ня ўмее папольску.

Яшчэ далей п. Я.О., гаворачы толькі ці аб запраўдных паляках ці аб зусім спольшчаных беларусах і ліцьвінах, рознай мэтафізыкай узноў і ўзноў прыводзіць у большую пэўнасьць самога сябе, што нашы сяляне, усёжтыкі мабыць — мазуры.

Бог з ім, хай сабе шукае на здароўе, «gdzie jest polskość» (так называецца ягоны артыкул), а мы на заканчэньне скажам, што на Віленшчыне ёсьць ня толькі польскасьць, але ёсьць такая беларускасць, якой навет шукаць ня трэба. Яна ёсьць ня толькі скрозь па вёсках, але і ў рынычныя дні цягнецца да Вільні амаль ні па ўсіх трактах, а звычай хаваецца ў Вільні ў дворніцкіх каморах, па розных майстэрнях і ўсюды, найбольш пры самой цяжкой працы. Магчыма, што навет у рэдакцыі «Жэчыпосполітай» кур'ерам — беларус.

Ёсьць, апроч каталіцкай Беларусі, і праваслаўная Беларусь, аб якой п. Я.О. зусім маўчыць.

А вось і нашыя маленькія (непалітычныя!) жаданьні: дайце нам магчымасьць вольнага разьвіцьця нашае культуры, не гаварыце, п. Я.О., нялепак аб тым, што мы не дарасьлі да права мець сваю нацыянальную школу, не рабіце наогул усяго таго, што разам з намі не жадалі польскаму народу пад маскоўскім панаваньнем, — і тады ўжо будучыня пакажа, гдзе ёсьць польскасьць і гдзе ёсьць беларускасьць. А нам чужога ня трэба і свайго не аддадзім!

**А.Мсьціслаўскі**

*«Беларускія Ведамасьці», №8, 31 кастрычніка 1921.*

*Ян Обст – польскі публіцыст, аўтар польскай віленскай газэты нацыял-дэмакратычнага кірунку «Rzeczpospolita» (1920-33).*

## «Падбухторываньне»

Адна польская часопісь на беларускай мове прызнае, што выбары ў Сойм «вольныя», бо «Беларускія ведамасьці», прыкладам, пішуць аб іх усё, што хочуць.

Гэта ня праўда! Мы пішам сваю газэту, увесь час аглядаючыся на Лукішскі вастрог.

Асабліва пагоршыла для нас справа, калі выйшаў дэкрэт аб тым, што за «падбухторываньне» супроць гэтых выбараў можна сесьці на год у турму.

Ня страшна беларусам турма, бо яны ўжо да яе прызвычаены, але прыкра для агітацыі няяснасьць справы з «падбухторываньнем»: Што ёсьць «падбухторываньнем» і што — звычайная агітацыя?

Напрыклад, хай нам адкажа памянутая часопісь («Раніца»): можна гаварыць сьмела і адкрыта, каб беларускія сяляне ня прыймалі вучасьця ў выбарах, — ці ня можна?

Будзе гэта «падбухторываньне» ці звычайная агітацыя пры вольных выбарах?

**Дзед Кузьма**

## Нацыянальна-культурная праца Горы-Горацкіх вучняў-беларусаў

Толькі пачалася рэвалюцыя ў лютым, як схаваная энэргія нацыянальных сілаў выбухнула на верх. Пачаў працу невялічкі гурток вучняў. Сьпярша ўся праца выявілася ў чытаньні рэфэратаў, дакладаў, у сходках. Чым далей, — праца ішла шпарчэй і прадукцыйней. На вучнёўскіх вечарах пачуліся дэклярацыі вершаў, а незабавам вучні-беларусы пабудавалі і свой тэатр.

Да гэтага часу вучні былі згуртаваныя пад назваю «Горацкі Беларускі Гурток». Перад выбарамі да Ўстаноўчага Сойму былі выпушчаны па Горацкім павеце адозвы да настаўнікаў, затым было надрукавано некалькі сот лістовак «Грамата да Беларускага Народу» і «Як чытаць пабеларуску». Гэтыя адозвы вучні разьнесьлі па ўсіх кутках павету. Гэтым закончылася праца Гуртка.

З новай сілай узяліся за працу вучні ў 18-19 вуч. годзе. Усе працаўнікі цяпер злучыліся ў «Беларускай Сэкцыі» пры Літэр. Музык.-Драм. Саюзе Горацкіх Гаспадарскіх школ. Сэкцыя ўзялася за будову чыстага беларускага тэатру. Былі пастаўлены п'есы: «Пашыліся ў дурні», «Манька», «Калісь» і «Апошняе спатканьне». Трэба было дзівіцца, з якое палкасьцю браліся вучні за працу. Кожную п'есу развучвалі доўга, унікалі ўва ўсе дэталі, дзеля пастаноўкі малявалі адпаведны дэкорацыі. Яны хацелі паказаць усю пекнату, усю прыгажосьць беларускай мовы, паказаць жыцьцё і псыхалёгію нашага селяніна і разам з тым сказаць: «Узраджайся нашае мастацтва! Пачэснае мейсцо нашаму маладому тэатру! Са сцэны пачуліся родныя песьні. (Між іншым, — штучнае гарманізацыі п. Дубровы «Гэта крык, што жыве Беларусь» і другіе).

Праца вучняў выразілася ня толькі ў мастацтве: усюды, куды толькі можна, несьлі яны нацыянальную сьвядомасьць і тым здабылі сабе пашану між жыхарамі гораду і інтэлігенцыяю ўсяго павету. Беларускі рух перакінуўся ў другія мястэчкі і вёскі.

Такім чынам была згуртавана значная частка інтэлігенцыі ўсяго павету.

У сярэдзіне мая у Горках меўся быць настаўніцкі зьезд. Як ён адбыўся, гэтага ня ведаю. Адно толькі вядома, што вучні да яго рыхтаваліся, а ў час зьезду ставілі п'есу «Апошняе спатканьне». Наогул, з мая месяца пэўных вестак аб працы ужо няма. Што там робіцца, невядома.

У канцы, астаецца пажадаць шчырым сыном бацькаўшчыны «доўжыць пачатую працу» ва ўсіх яе кірунках і праявах.

**М.Г-к.**

*«Беларусь», 6 лістапада 1919.*

## [Цікавае здарэньне было тут...]

Цікавае здарэньне было тут 18 іюня на любіцельскім спэктаклі. Вучыцель п. Баброўскі (з беларусоў) падыйшоў да распарадзіцеля і ціханька пажаліўся, што яму німа гдзе сесьць, бо безьбілетная жыдоўская блазнота панабілася ў партэр і пазанімала месцы. Слова «жыды» рэзанула сярпом па вуху маладога жыда Міндліна. Ён сабраў кала сябе кучу такіх, як сам, узросшых на беларускай цыбульцы тутэйшых «вучоных» жыдкоў і падняў цэлы гармідар — (Звалі яны з сабою дзеля пэўнасьці і шаноўнаго інтэлігента доктара Зэлікіна, але той не пайшоў, абазваўшы ўсю іх справу глупствам). Пан Баброўскі атказаў крыкам, што ён ні к каму з жыдоў са сваімі словамі не зьвяртаўся і зусім ня думаў крыўдзіць імі жыдоўскую грамаду... Але разьюшаны Міндлін і яго падгалосак Ліўшыц ніяк не маглі агоўтацца: — Я заплатилъ сорокъ копѣекъ и не получилъ здѣсь никакого удовольствія! — галасіў Міндлін, каторы ў гутарцы з вучнямі-сялянамі заўсёгды ужывае, колька трэба, слова «мужык», у публічных местох таксама лаецца словам «мужык» і дужа крывіцца сам ат «жыда», нават тагды, калі ў гэтае слова ніхто і ня думае укладаць ніякай пагарды.

# Віктар Шніп

***

*Нас ня любіць ніхто, бо ня любім нікога,*
*І пустая за намі, як пляшка, дарога.*
*Мы ідзём ад бацькоўскіх дамоў і магіл,*
*І над намі анёламі лётае пыл.*
*Мы сьпяшаемся ў дом, што стаіць за гарамі,*
*Нам гавораць, што ўсе мы там будзем панамі.*
*Колькі ж дзён мы ідзём — мы ня помнім, ня знаем,*
*Як на птушак на райскіх, на варон паглядаем...*

*Перад намі туман. Сьледам вецер ляціць.*
*Нас ня любіць ніхто...*
*А за што нас любіць?*

***

*І выйшаў я зь цямрэчы на сьвятло,*
*І ўміг забыўся, што са мной было,*
*І між сьлядоў я не пазнаў свой сьлед,*
*Бы толькі што зьявіўся ў гэты сьвет.*
*За сьпіною цямрэча, як сьцяна,*
*Стаяла і зьнікала, і адна*
*Яна казала мне, што я жыву,*
*І, ценем урастаючы ў траву,*
*Я піў сьвятло, як дзікуны п'юць кроў...*
*Я піў сьвятло, пакуль сьцямнела зноў...*
*І я ў цямрэчы зьнік, нібы заснуў,*
*Нібы па горле брытвай паласнуў.*

***

*Балотныя людзі балотнай краіны*
*Любяць бананы і апэльсіны.*
*На карце краіну шукаць нам дарма —*
*Гэтай краіны на карце няма.*

*Там хочуць як лепш для сябе і прыроды,*
*Вынік адзін і ва ўсім — як заўсёды.*
*Там могуць спрачацца пра тое, як жыць,*
*Жыць там даводзіцца — як набяжыць.*

*Балотныя людзі балотнай краіны*
*Зьнікнуць са сьвету аднойчы павінны.*
*Ня шкода мне будзе балотны народ,*
*Шкода мне будзе лясоў і балот.*

## ДОЖДЖ

*А гэты дождж, як наша паміраньне,*
*Бясконцы, адзінокі і нямы.*
*І белы сьвет губляецца ў тумане,*
*Зьяўляецца, як прывіды зімы.*
*І холадам напоўненае неба,*
*Здаецца, зараз на зямлю ўпадзе,*
*І, быццам ліст, які вятрам ня трэба,*
*Патоне ў чорнай, нібы ноч, вадзе...*
*Калі ўжо гэта скончыцца слатота,*
*Ніхто ня знае і ня можа знаць.*
*Нам паміраць нікому не ахвота,*
*Ды час такі, што лепей — паміраць...*
*І гэты дождж, як наша паміраньне,*
*Як наша разьвітаньне між сабой...*

***

*Зьнікае ноч, і гэтак дым зьнікае*
*Над вогнішчам, якое аджыло.*
*І вецер золата ў вуглях шукае,*
*З вугольля абдзімаючы сьвятло.*

*Зьнікае ноч, нібы вада зьнікае,*
*Пралітая зь нябёсаў, у пяску.*
*І новы дзень,*
*нібы зьмяя, якая*
*Плыве*
*з чырвоным сонцам*
*праз раку.*

*І я пайду ад вогнішча начнога*
*І зьнікну ў сьвеце, як зьнікае дым,*
*Як ноч зьнікае над маёй дарогай,*
*Як дзень зьнікае над жыцьцём маім.*

***

*Мы ня пыл, мы ня дым, мы ня сон,*
*Мы — сьвятло з пачарнелых вакон,*
*Мы — трава на магілах дзядоў,*
*Мы — вада ад расталых сьнягоў.*
*І шумяць па-над намі вятры,*
*І лятуць па-над намі муры,*
*У якіх нам ніколі ня быць*
*І таму іх нам век не любіць,*
*Быццам пыл, быццам дым, быццам сон...*
*Нас чакае штодзённа Харон,*
*І скрыгочам мы ў вечнай начы,*
*Бы ў замках, што на Храмах, ключы...*

# Адам Глёбус

ЗАНАТОЎКІ ЭГАІСТА

# СУАЙЧЫНЬНІКІ (2)



## Арлоў

Уладзімер Арлоў — выдатны стыліст, які абраў шлях быць заўсёды другім, каб быць першым. Ён здатны пісаць: лірычныя навэлі як Стральцоў, гістарычныя аповесьці як Караткевіч, вершы як Разанаў, падручнікі як Сагановіч... Але больш за ўсё мне падабаецца чытаць ягоныя падарожныя нататкі, зробленыя як у Глёбуса.

## Шаляговіч

Самую рамантычную ідэю меў з маіх аднагодкаў Мікола Шаляговіч. Ён марыў стварыць літаратурную мову палешукоў (яцьвягаў) і зрабіў вялікія напрацоўкі ў гэтым накірунку, выдаючы газэту «Збудінне». Паступова ягоны імпэт сыйшоў у нішто, у такое нішто можа зьнесьціся праца выдаўцоў «Нашай Нівы» і астатніх змагароў за Беларусь. Адзінае суцяшэньне — калі такое надарыцца, дык безь мяне.

## Чыкін

Калі з шэрагаў камуністаў сыйдуць асобы кшталту Віктара Чыкіна, можна будзе сур'ёзна падумаць пра ўзаемасувязь ідэяў сацыяльнай роўнасьці і нацыянальна-вызваленчай барацьбы. Толькі вопыт падказвае: такія Чыкіны ніколі не пакінуць кампартыю.

## Разанаў

Чытаючы творы Алеся Разанава, увесь час спадзяюся, што заўтра у іх зьявіцца празрысты ясны сэнс. Час плыве, а ў Разанаўскіх вершах сэнсу не дадаецца.

## Русава

Дзесяць гадоў гляджу на артаўскія аб'екты Людмілы Русавай і зьдзіўляюся... Няўжо яна нічога ня бачыць, акрамя чырвонага крыжа на машыне хуткай дапамогі?

## Мядзьведзь

Кумірам маіх равесьнікаў-спартоўцаў быў і напэўна застаецца барэц вольнага стылю Аляксандар Мядзьведзь. Калі нехта кажа, што спорт гэта — палітыка, я згадваю Мядзьведзя і ў чарговы раз пераконваюся у абсурднасьці падобных сьцьверджаньняў.

## Вольскі

Рок-музыка Лявон Вольскі, саліст гурта «Мроя», а цяпер «НРМ» (Незалежная Рэспубліка Мроя), недаацэнены аднаэначна. Задумваючыся над прычынаю гэтай несправядлівасьці, прыходжу да высновы, што вінаваты ў гэтым сам Лявон. Нельга быць настолькі непрактычным.

## Варашкевіч

Рок-сьпявак Ігар Варашкевіч робіць у музыцы значна больш, чым яму адмерана прыродаю. Такія паводзіны абнадзейваюць. Здавалася, ня зможа, а змог. Прыемна сачыць за посьпехамі ўпартага, брыдка назіраць за гібеньнем таленавітага.

## Галубовіч

Шмат хто зь беларускіх літаратараў спрабаваў працягнуць лінію лірычных запісаў пра сучаснасьць, распачатую Янкам Брылём, але найбольш удала тое атрымалася ў Леаніда Галубовіча.

## Манаеў

Артыст Віктар Манаеў перакананы ў тым, што ён вялікі драматычны актор, якому не пашанцавала з ролямі. А я мяркую — Манаеў актор трагікамічны, яно і больш складана, і больш пачэсна.

## Рыбараў

Рэжысэр Валеры Рыбараў думае, што зрабіў шмат фільмаў, а я перакананы: у яго ёсьць толькі адна стужка вартая ўвагі — «Чужая бацькаўшчына».

## Бураўкін

Калі папытацца ў якога з бээнэфаўцаў, хто будзе галоўным на тэлевізіі, калі беларускі народны фронт нарэшце захопіць уладу, можна пачуць — Бураўкін. І ўзьнікае наступная думка... Няўжо фронт змагаецца за беларуска-савецкае тэлебачаньне, найярчэйшым прадстаўніком якога зьяўляецца аўтар паэмы «Ленін думае пра Беларусь» Генадзь Бураўкін?

## Малішэўскі

Творчасьць Альгерда Малішэўскага, як і шмат каго на сьвеце, не прайшла выпрабаваньня часам. Яго забылі праз пяць гадоў пасьля сьмерці. Сумны факт.

## Крапіва

Зубаскальства Кандрата Крапівы не выклікае майго захапленьня, як ня радуе прысутнасьць травы-крапівы ў агародзе. Але крапіва існуе як дадзенасьць у прыродзе, і Крапіву ня выпалеш зь беларускай літаратуры.

## Дудараў

Драматург Аляксей Дудараў, які з гонарам гаворыць, што ў сям'і размаўляе па-расейску, пераклаў Шэксьпіравага «Гамлета» на беларускую мову. Усё ясна. Але карціць запытацца: «Гамлет» перакладаўся зь сямейнае мовы ці са старажытна-ангельскай?»

## Барадулін

Рыгор Барадулін сам называе свае творы «Дурноты». Лепей ня скажаш.

## Танк і Быкаў

Хвалячы Максіма Танка, даводзіцца ўвесь час сачыць, каб не сказануць колькі цёплых слоўцаў пра КПЗБ (Камуністычную Партыю Заходняй Беларусі), як і ўхваляючы Васіля Быкава пільнуюся, каб не ўшанаваць СА (Савецкую Армію). Не люблю ні партыяў, ні арміяў.

## Харэўскі

Мастацтвазнаўству Сяргея Харэўскага не стае харызмы.

## Купрэеў

Проза Міколы Купрэева перанасычаная мэдычнай рэчаіснасьцю.

## Аркуш

Выдавец Алесь Аркуш змагаецца з правінцыйнасьцю, але перабірацца ў сталіцу не зьбіраецца. Змаганьне абяцае быць доўгім.

## Шніп

Віктар Шніп урэшце рэшт вызначыцца тым, што напіша і надрукуе вершаў пабеларуску больш за ўсіх тутэйшых паэтаў.

## Бабкоў

У Ігару Бабкову з пазьменным посьпехам змагаюцца дзьве асобы: паэт, які марыць называцца філёзафам, і філёзаф, які хоча заставацца самотным паэтам. Бабкоў найлепшы ўзор двухасабовага беларуса.

## Бяляцкі

Палітык Алесь Бяляцкі ўвесь час некуды абіраўся. Быў ён і дэпутатам, і старшынёю літаратурнага аб'яднаньня «Тутэйшыя», і дырэктарам музэя Багдановіча Алеся абралі, і на пасаду ў БНФ узьвялі. У Алеся талент абірацца і быць абраным. Яго нават не палохае, што ў Беларусі абіраюць ня толькі дэпутатаў, але й бульбу.

## Селяшчук

Мастак Мікола Селяшчук быў пасьлядоўным сюррэалістам, а самым сюррэалістычным фактам зь ягонае біяграфіі бясспрэчна зьяўляецца сьмерць ад невысокае хвалі на італьянскім узьбярэжжы. Цяпер, калі Міколы няма, мне часьцяком згадваецца, зь якім смакам ён вымаўляў сьцюдзёнае слоўца СЮР.

## Савіч

Ад земляка графіка Ўладзімера Савіча чакаю й не прычакаюся, калі ён пачне без выдурнаньняў маляваць наша роднае Койданава. А ён усё зарабляе аўтарытэт і грошы абстрактна-этнаграфічнымі аркушамі. Зразумела, спадзявацца я не перастану, бо раней ці пазьней Савіч намалюе сваё Койданава.

## Дранько-Майсюк

«Глёбус, чаму цябе ўсе так ня любяць?» — спытаў Леанід Дранько-Майсюк. «А чаму ты, Лёня, пытаешся, пра гэта ў мяне?»

## Вячорка

Мовазнаўца Вінцук Вячорка спаралізаваны палітыкаю.

## Баршчэўскі

Лявон Баршчэўскі пераклаў паэзію нямецкіх рамантыкаў, а цяпер прозу Франца Кафкі, і гэта містычным чынам адбіваецца на ягонай палітычнай дзейнасьці. Узьнёслы рамантызм БНФ, у якім Лявон выконвае абавязкі тутэйшага старшыні, зьмяніўся абсурднымі блуканьнямі па кафкіянскіх пакутах. Можа варта перакласьці, штосьці актуальнейшае, накшталт рамана «Бэрлін. Аляксандэрпляц» Альфрэда Дэўбліна?

## Фядута

Дастаткова мне ўбачыць на газэтнай старонцы белую, вымараную цэнзураю пляміну, як у сьвядомасьці ўзьнікае прозьвішча Аляксандра Фядуты. І што б ён цяпер ні рабіў, пра каго б ні пісаў, ня думаю, што зможа пераўзысьці выразнасьць пустотаў. Зразумела: чыноўнік Фядута выконваў загад. Але ён ведаў, што адказа за зло ня той, хто загадвае, а той, хто пагаджаецца зьдзейсьніць злачынства і ўзяць на сябе адказнасьць.

## Мулявін

Заснавальнік і нязьменны кіраўнік фальклёрнага ансамбля «Песьняры» выклікаў і выклікае захапленьне ў такой процьмы народу, ажно ня хочацца далучацца да гэтае процьмы.

## Лучанок

Песеньнік Ігар Лучанок на працягу шматлікіх гадоў кіраваў беларускай кансэрваторыяй і саюзам кампазытараў у Беларусі. Гэты факт хутчэй гаворыць не пра нізкі ўзровень нашае музыкі, а пра абмежаваныя здольнасьці мясцовых кампазытараў і музыкаў.

СТО ТВОРАЎ XX СТАГОДЗЬДЗЯ



Казімер Малевіч. Чорны квадрат, 1915. Палатно, алей, 79,5x79,5. Дзяржаўная Траццякоўская галерэя, Масква

# Казімер Малевіч. ЧОРНЫ КВАДРАТ

*«Супрэматызм гэта той скон і пачатак, калі адчуваньні становяцца аголенымі, калі Мастацтва паўстае як ёсьць, без-аблічнае. Квадрат супрэматычны такі ж элемэнт, як крэска першабытнага чалавека, якая ў сваім паўторы выяўляла ў наступным адчуваньне не арнамэнту, але толькі рытму».*

*Казімер Малевіч*

... Казімер Малевіч, як і Бялыніцкі-Біруля, паходзіў з каталіцкае шляхецкае сям'і сярэдняга дастатку. Карані роду Малевічаў разьбягаюцца зь Меншчыны. Недалёка ад Менску знаходзіўся радавы фальварак Малеў (альбо Малева), што дало падставы беларускім савецкім мастацтвазнаўцам сьцьвярджаць, што мастак нарадзіўся менавіта тут. Але Малевіч нарадзіўся ў Кіеве, куды сям'я пераехала за бацькам, які атрымаў пасаду на цукровых заводах...

Уласнае паходжаньне і праца бацькі шмат у чым сфармавалі сьветапогляд Малевіча. У сям'і панавала гутарковая крэсовая пальшчызна. Маці, Людвіга Антонаўна, нават пісала вершы па-польску, дзякуючы ёй у сям'і трываў і каталіцкі дух. Праўда, як сьведчыла пазьней адна з вучаніц Малевіча, Надзея Хадасевіч, ён увесь час гаварыў зь непазбыўным беларускім акцэнтам... Бадай, гэта ад бацькі.

Атрыманае ў сям'і прадвызначыла і спосаб мысьленьня мастака. Дасьледчыкі спадчыны Малевіча як філёзафа, літаратара і тэарэтыка мастацтва абавязкова зьвяртаюць увагу на шматплянавасьць ягонае лексыкі і паняткаў. Дастаткова згадаць, што сам тэрмін «супрэматызм» вынікае з польскага слова «supremacja», якое мае лацінскі корань і азначае дамінаваньне, вярхоўнасьць над чымсьці. Мова каталіцкае імшы і бацькоўскае гутаркі далі пачатак цэлай нізцы паняткаў, якія сёньня йснуюць у тэорыі мастацтва. Апроч галоўнага малевіцкага слова, ён жа першы ўжыў неўласьцівую для расейскай мовы канструкцыю «беспрадметнае мастацтва». Што да каталіцкага выхаваньня... Абедзьве першыя жонкі Малевіча, Казімера Зглейц і Зоф'я Рафаловіч, былі каталічкамі...

Машыны прадпрыемстваў, дзе працаваў ягоны бацька, пакінулі ў душы малога Казімера ці не найбольшы зь дзіцячых уражаньняў сьлед. «... Мне, хлапчуку, гэтыя машыны заўсёды здаваліся драпежнымі зьвярамі. Я глядзеў на іх, як на дзікіх няўмольных зьвяроў, якія толькі й сочаць, як злавіць няслушны рух свайго прыгоньніка, каб задушыць альбо скалечыць яго. Аграмадныя махавікі колаў, рамяні ўражвалі мяне сваімі рухамі і формаю», — пісаў Малевіч у сваёй аўтабіяграфіі.

Сям'я некалькі разоў пераяжджала зь месца на месца па Ўкраіне — з-пад Кіева пад Белапольле, дзе Казімер скончыў пяцікласную агранамічную вучэльню, пасьля ў Канатоп.

У 1895 годзе Казімер пачаў заняткі ў Кіеўскай малявальнай школе Мурашкі, тамсама, дзе і Бялыніцкі-Біруля.

Але ў 1896 годзе сям'я Малевічаў назаўсёды пакідае Ўкраіну. На гэты раз яны пераехалі ў Курск. Тут Казімер сыходзіцца з колам мастакоў, якія, як ён напісаў пазьней, «гутарылі... па-расейску». Разам зь імі ён стварае аматарскую мастацкую студыю. Спадзеючыся атрымаць мастацкую адукацыю і пракарміць дваіх дзяцей, Малевіч працуе на чыгунцы крэсьлярам. Гэты факт цікавы зь дзьвюх прычынаў. Па-першае, праз усё жыцьцё Малевіч захаваў прагу да красьленьня і акуратнасьць крэсьляра. А па-другое, ён, ня гледзячы на адчайныя спробы (тройчы) паступіць хоць бы ў Маскоўскую Вучэльню жывапісу, пластыкі й дойлідзтва, так і не атрымаў прафэсійнае мастацкае адукацыі.

Як і ўсе аматары, малады Малевіч імкнуўся да натуралізму, зь якім зьвязаны першы пэрыяд ягонае творчасьці. Малевіч, паводле ягонага ж вызначэньня, «... ішоў да Шышкіна і Рэпіна». Аднак неўзабаве мастак цалкам пераключаецца на імпрэсіяністычны жываліс. Гэты пэрыяд ахапіў час паміж 1903 і 1918 гадамі. Вялікая колькасьць працаў, дакладней — эцюдаў, як ён называў іх сам, несучы на сабе адбітак францускага імпрэсіянізму, усё ж сьведчыла пра сталеньне «барбарскае» індывідуальнасьці Малевіча. Абрысы фігураў на пярэднім пляне, жорстка выцятыя з прасторы палатна, ствараюць эфэкт жывапісу мадэрну — застылая статыка, умоўнасьць руху ў лёгкай, бязважкай прасторы.

**Малевіч Казімер** (1878, Кіеў — 1935, Ленінград (Пецярбург)) жывапісец, графік, мастак тэатру, літаратар, тэарэтык мастацтва, пэдагог. Займаўся ў 1895 у Кіеўскай малявальнай школе Мурашкі. Экспанавацца пачаў з 1907 году. З 1919 у Беларусі, кіраўнік майстэрні ў Народнай мастацкай школе. З 1920 старшыня савету прафэсараў Віцебскага мастацка-практычнага інстытуту. З 1922 ў Расеі. З 1923 па 1926 дырэктар Дзяржаўнага Мастацкага інстытуту мастацкае культуры (Гинхук).



Прынцып ураўнаважанае дынамікі мадэрну пераносіцца Малевічам і ў такі чыста імпрэсіяністычны жанр, як пэйзаж. Абрысы дрэваў, цені ад аб'ектаў, задні плян жорстка акрэсьленыя, «прыклееныя» да палатна.

Пры ўсёй сваёй прыхільнасьці да імпрэсіянізму, пра што Малевіч напісаў значна пазьней, ён ня змог абмінуць уплываў мадэрну і сымбалізму. Гэты этап быў кароткі, абмежаваны якімі двума гадамі, да 1908-га. На Малевіча калясальнае ўражаньне зрабіла выстава «Блакітнае ружы», якая адбылася ў красавіку—траўні 1907 году ў Маскве. Пад уражаньнем творчасьці «блакітнаружаўцаў» Малевіч піша нізку «эскізаў фрэскавага жывапісу». Але... Яму бракуе адукацыі. Ягоны мадэрн кволы, кранальны сваёй бездапаможнасьцю. Яму, самавуку, хапіла цяму кінуць спробы прарвацца ў «высокае» мастацтва. Досьвед быў для яго драматычным. Ці ня з гэтага моманту пачынаецца яго падсьведамая нянавісьць да прадметнага мастацтва...

Да «эскізаў» прымыкаюць такія ягоныя працы як сымбалісцкая «Плашчаніца», «Гарадок», «Вясельле», «Урачыстасьць неба», «Малітва» ды іншыя. Але і сам мастак не пачуваў сябе шчырым у жаданьні пасэцэсійнаму эстэтызаваць сюжэт. Напрыклад — тое ж «Вясельле», «Адпачынак. Грамадзтва ў цыліндрах», «Парнаграфічнае грамадзтва ў цыліндрах» — шаржы, выкананыя ў тэхніцы жывапісу. З «парнаграфіяй» у Малевіча атрымаліся складаныя дачыненьні. Ён часта ўжываў гэты тэрмін у сваіх тэарэтычных працах, зласьліва абураючыся на ўсялякія эратычныя пачаткі ў мастацтве... Але гэта было пазьней.

Пакінуўшы сваю першую жонку з двума дзецьмі ў Курску, у 1909 годзе Малевіч бярэ другі шлюб і пераяжджае на летнік новага цесьця пад Маскву...

Прыблізна на гэты ж час прыпадае ягонае захапленьне сакавітасьцю Сэзана. Для Малевіча гэта быў лягічны працяг пошукаў у імпрэсіянізьме. Свой «выхад» з імпрэсіянізму ён адзначыў палатном «Сёстры» (1910)... Мастаку такога імпэту, які меў Малевіч, хутка знайшлася кампанія — Ларыёнаў. Пасьля іх знаёмства ўдзел Малевіча ў выставах «Бубновага валета» і «Асьлінага хваста» стаў натуральным. 1910 год — год неверагоднае творчае плоднасьці мастака. Бясконцыя выставы, мноства палотнаў, новыя тэмы... Напрыклад, толькі на выставе «Маскоўскага салёну» ў лютым 1911-га, Малевіч экспануе цэлых тры сэрыі працаў — «жоўтую» («Партрэт», «Сьвятыя», «Анёлы»), «белую» («Купаньне», «Адпачынак») і «чырвоную» (аголеныя натуршчыцы, пэйзаж з натуршчыцамі, аўтапартрэт з натуршчыцамі і г. д.), якія разам склалі 24 творы. Шал жарсьці, у віры якое апынулася творчасьць Малевіча, выплюхнуў на палотны пярэсты карагод жаночае плоці, па якім беспамылкова можна пазнаць той ягоны год...

За гэтым годам пачынаецца чарада новых малевіцкіх манераў, стыляў, жанраў, якія зьмяняюцца адзін за адным з хуткасьцю, якую цяжка сабе ўявіць. Нэапрымітывізм, футурызм, кубізм —Малевіч клясык у кожным з кшталтаў. З 1911 году ён пачынае працаваць і як графік і як мастацкі рэдактар розных брашураў і кніг. Посьпех быў відавочны, у 1912 годзе графіка Малевіча экспанавалася ўжо ў Мюнхене, на другой выставе «Сіняга вершніка». У 1913-м Малевіч працуе над пастаноўкаю опэры свайго сябра Мацюшына «Перамога над Сонцам» разам з паэтамі Кручоных і Хлебнікавым. Падчас працы над гэтай пастаноўкай Малевіч ня толькі вынайшаў, але й падступіў да рэалізацыі супрэматызму. У межах выяўленчага мастацтва яму становіцца цесна, з 1913 году ён выступае і як словатворца, літаратар на вечарах разам з Маякоўскім, Хлебнікавым, Кручоных. Але мала, мала... У 1914-м ён, разам з Маргуновым праводзіць першы пэрфоманс у Расеі: на Кузьнецкім мосьце ў Маскве яны дзівілі публіку сваім убраньнем — драўлянымі лыжкамі ў гэпліках вопраткі. Але самым істотным вынікам тых гадоў стала інтуітыўнае адкрыцьцё на мяжы паэзіі, дысананснага музычнага ладу і куба-футурызму новага спосабу жывапіснае сыстэмы ў дэкарацыях і строях «Перамогі над Сонцам»...

У 1915 годзе, у сьнежні адбылася «апошняя футурыстычная выстава» пад назваю «0,10», дзе сьвет пабачыў... 39 працаў Малевіча, якія ён назваў СУПРЭМАТЫЗМАМ ЖЫВАПІСУ. Вакол гэтых твораў адразу ўсчаўся ажыятаж. Арганізатар выставы Пуні рэзка запярэчыў паведамленьню пра вынаходніцтва новага стылю. Пачалася палеміка. Неўтаймоўны Малевіч выпусьціў брашуру «Ад кубізму да супрэматызму. Новы жывапісны рэалізм»... «Ключы супрэматызму вядуць мяне да адкрыцьця яшчэ неасэнсаванага». Кола прайшло ўвесь шлях да канца. Калаўрот сумневаў і пошукаў вывеў мастака на 0, на той самы 0, ад якога пачынаецца ўся сыстэма каардынатаў. Скрайняя пазыцыя і татальны нігілізм расчысьцілі шлях. Чыстая роўнядзь, квадрат, кола, крыж, прастакутнік — максымум эканоміі (паводле Малевіча — пятае вымярэньне) той мовы, на якой можна выказаць «цэлую сыстэму сьветабудовы».

«Чорны квадрат» — абсалют, які зьявіўся, як футурыстычны «абраз» замест «мадонаў і бессаромных вэнэраў». Гэты твор — першая неразьёмная адзінка супрэматызму, якую можна ўскладніць, але спрасьціць ужо нельга. «Чорны квадрат» — першы твор у жывапісе, які ня мае ані верху, ані нізу, ні пачатку, ні канца. Чорнае і белае, два полюсы, паміж якімі адлегласьць можа быць рассунутая да бяскрайнасьці, а спэктар фарбаў можа быць бясконцым. Стан бязважкасьці, у якім знаходзіцца квадрат — стан абсалютнае статыкі, праз які «пятае вымярэньне» (эканомія) рэалізаваная з абсалютнай пасьлядоўнасьцю. Праз адзінку скрайняга кантрасту глядач пераходзіць ад успрыманьня візуальнага да ўспрыманьня мысьленьнем. Толькі невялікія хібы чыстае геамэтрыі нагадваюць, што гэта твор чалавечых рук...

«Абразом» гэты твор назваў сам Малевіч у сваім лісьце да Бэнуа, і невыпадкова. Пазьней, у сваёй брашуры «Вытворчасьць як вар'яцтва» мастак напіша: «Мастацтва я стаўлю паралельнаю лініяй рэлігіі і дадам, што лінія мастацтва, гэта лінія якая вынікла з рэлігіі, быццам рэлігія расшчапілася надвое». Малевіч шукаў еднасьці першатворнай, дзе вера, мастацтва і філязофія суіснавалі ў адным.

Асэнсаваць тое, што ўжо было вынайдзена, сфармуляваць супрэматызм ідэйна яму ўдалося толькі ў Беларусі, куды ён прыехаў у 1919 годзе. У Віцебску ён цалкам пагрузіўся ў выкладчыцкую дзейнасьць. Больш аддаваў часу тэорыі, чым практычнаму мастацтву. Амаль адразу па прыезьдзе ён выдаў кніжку «Пра новыя сыстэмы ў мастацтве». За два гады ім былі напісаныя дзьве кнігі — «Супрэматызм як беспрадметнасьць альбо жывапісная сутнасьць» (1921), «Супрэматызм. Сьвет як беспрадметнасьць альбо вечны спакой» (1922). У Віцебску ж выйшла апошняя прыжыцьцёвая кніга Малевіча (на мове арыгіналу) — «Бог ня скінуты. Мастацтва, царква, фабрыка».

У Беларусі супрэматызм набыў сваю завершаную канцэпцыю... «Супрэматызм падзяляецца на тры стадыі паводле колькасьці квадратаў — чорнага, чырвонага і белага, чорны пэрыяд, каляровы і белы. У апошнім напісаныя формы белыя ў белым...». Беларусь стала для Малевіча ўнікальнай лябараторыяй для тэарэтычных экспэрымэнтаў. Лекцыя за лекцыяй... Калі раней ягоныя погляды хутчэй былі падобныя на палкія казаньні Саванаролы: «... Мікель Анджэла, стварыўшы Давіда, учыніў гвалт над мармурам, зьнявечыў кавалак цудоўнага мармуру», — то ў Беларусі ён пранікнёна ўгледзеў бездань, у якую цягнуць сьвет камуністы («харчавікі»). У Віцебску ён напісаў: «Дастаткова зьявіцца новай ідэі харчовага ладу альбо новага ўзору кіраваньня, як усе помнікі Мастацтва, што маюць у сабе ўзор кіраваньня папярэдняга, будуць зьнішчаныя». Прароцтва?.. А дзе ж тады каяньне?

У Віцебску нарадзілася дачка Малевіча Уна. У Віцебску быў напісаны паўтор «Чорнага квадрату», таго самага квадрату, пра які ён сказаў сам: «... Белыя палі гэта не палі, якія аблямоўваюць чорны квадрат, але толькі адчуваньне пустэльні, адчуваньне нябыту, у якім від квадратападобнай формы ёсьць першым беспрадметным элемэнтам адчуваньня».

Казімер Малевіч адыйшоў у сьвет нябыту пад «Чорным квадратам» на белым кубе, помніку, створаным ягоным сябрам Суэціным, пакінуўшы па сабе адчуваньне пустэльні. У часе вайны помнік Малевічу і «Чорнаму квадрату» быў зьнішчаны. Не засталося і магілы...

**Сяргей Харэўскі**


"Наша Ніва"
незалежная газэта
заснаваная ў 1906,
аднаўленая ў 1991

НАША НІВА

заснавальнік ........ Павал Жук
рэдактар ........ Сяргей Дубавец
выдавец ........ БГФ "Наша Ніва"
адказны сакратар ........ Алег Дзярновіч
мастацкі рэдактар ........ Сяргей Харэўскі
аддзел інфармацыі ........ Андрэй Лапцёнак, Віктар Корзун
вёрстка ........ Гальяш Патаповіч
набор ........ Таццяна Чуйвід
стыль і карэктура ........ Паўлюк Канавальчык
пры ўдзеле ........ Сяргея Шупы
прадстаўнік рэдакцыі ў Гомелі ........ Зьміцер Бартосік (тэл. 56-94-36)

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ
220123 Менск, а/с 71
Тэл./факс 213-43-52
E-mail: edit@niva.minsk.by





Наклад 2340. 12 палос фармат А2 нумар падпісаны ў друк 1955, 27/7/1997. Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 4307. Кошт свабодны.

Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты "Известия", д. 8, кв. 173.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12